# Białoruskie Towarzystwo Historyczne






**Skład:** Adam Pawłowski
**Korekta:** Witalis Łuba
**Wydawca:** Białoruskie Towarzystwo Historyczne
**Adres redakcji:** 15-449 Białystok, ul. Proletariacka 11, tel. 85 744 61 11
**E-mail:** ebma@interia.pl
**Strona internetowa:** http://bzh.kamunikat.org
**Nakład:** 500 egz.

Zrealizowano:
- dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji,
- przy wsparciu finansowym Urzędu Marszałkowskiego Województwa Podlaskiego w Białymstoku







*Na okładce* (I strona): Włodzimierz Chlebcewicz, Klejniki, 23 czerwiec 1914 r.
(fotografia z archiwum Siergieja Czyhryna),
(IV strona): Mapa Frontu Wschodniego w 1941 r.

# Spis treści

## artykuły

## materiały źródłowe



## artykuły recenzyjne

# Contents

## academic papers

**Андрэй Ціхаміраў**
(Варшава)

# Віленскае жыццё вачыма Івана Спрогіса. «Свае» і «чужыя» на фоне гарадской штодзённасці канца XIX — пачатку XX ст.

Крыніцы асабістага паходжання (ці эга-дакументы) — ліставанне, дзённікі, успаміны і іншыя падобныя запісы з'яўляюцца вельмі каштоўным матэрыялам для рэканструкцыі мінулага. XIX стагоддзе было своеасаблівым росквітам гэтага тыпу гістарычных сведчанняў. Прычым вядзенне дзённікаў ці рэгулярнае ліставанне ўжо было не толькі рысай духавенства ці шляхты, але таксама шырэйшых колаў насельніцтва, якое паступова ўваходзіла ў эпоху масавай адукацыі, публічнага жыцця і інтэнсіфікацыі камунікацыі.

Дзённікі Івана (Яніса) Спрогіса (1833-1918) з'яўляюцца перш за ўсё прыкладам сацыяльных змен у другой палове XIX — пачатку XX стагоддзя на літоўска-беларускіх землях Расійскай імперыі. Аўтар гэтых нататак быў адным са шматлікіх «новых людзей» таго часу, які выдатна скарыстаўся «сацыяльным ліфтам», якім была адукацыя і змена веравызнання. Яніс Спрогіс нарадзіўся ў сялянскай сям'і 20 чэрвеня 1833 года ў вёсцы Сіліні (Сілак) каля маёнтка Штоксмангоф (Ліфляндская губерня, зараз — Латвія). Паводле тагачаснага адміністрацыйнага падзелу гэтыя мясцовасці былі на памежжы Ліфляндскай і Віцебскай губерняў. Бацька Яніса, Якаў Спрогіс (з латышскай мовы гэтае прозвішча значыць «кучаравы»[1]), быў дастаткова забяспечаным селянінам, які не толькі займаўся земляробствам, але таксама будаваў невялікія судны[2]. Непасрэдная блізкасць Заходняй Дзвіны вельмі спрыяла такому рамеснаму занятку і значна палепшыла сямейны бюджэт[3]. Іван быў малодшым дзіцём у сям'і (старэйшай была дачка Эдэ) і ўжо ў 10 год ён працаваў у полі з бараной[4]. Вельмі важным момантам для самасвядомасці Івана была блізкасць вялікай ракі і інтэнсіўная камунікацыя па ёй: гандлёвыя кантакты не толькі з мясцовымі латышскімі сялянамі, але таксама з беларусамі (якіх ён называў «древ-

[1] Vilniaus Universiteto Biblioteka, Rankraščių skyrius (Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта, аддзел рукапісаў (далей: VUB RS), sygn. F6-Sp128, Автобиография Спрогиса И. Я., 1912 г., l 1. (машынапіс перакладу на расійскую мову аўтабіяграфіі І. Спрогіса, напісанай для латышскай газеты „Juhrneaks").

[2] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 3.

[3] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 3.

[4] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 5.

ними кривичами»[5]). Апрача гэтага кардынальнай зменай у жыцці была змена веравызнання з лютэранскага на праваслаўнае ў 1843 годзе. Сацыяльныя рухі сярод латышскіх і эстонскіх сялян таго часу прывялі да жадання змены веравызнання — перш за ўсё па эканамічных і палітычных прычынах. Іван Спрогіс апісваў гэта наступным чынам:

«(...) в это время по всей Лифляндии, Курляндии и Эстляндии неожиданно появилось «Великое движение духа», великое горячее желание среди латышей и эстов «перейти в русскую (православную) веру». Люди, как бы погоняемые как бы дыханием бурного ветра, большими сборищами, с великой поспешностью, стали направляться в те места, в которых было можно «приписаться» (занести себя в списки), как они свидетельствовали о том перед русскою и немецкою властями к старой прадедовской вере, к старым книгам. Тщетно лютеранские пасторы, мызные управляющие и помещики пытались воспротивится этому для них непонятному и устрашающему движению. Сильно стращали, заключали одних в тюрьмы, других подвергали тяжким телесным наказаниям[6]».

Уся сям'я Спрогісаў прыняла праваслаўе. Паводле ягонай аўтабіяграфіі асноўнай прычынай гэтага кроку была надзея палепшыць сваё сацыяльнае становішча і пазбавіцца дамінавання нямецкіх баронскіх элітаў і лютэранскага духавенства праз прыналежнасць да дамінуючай у імперыі праваслаўнай царквы. Таксама сваю ролю адыграла надзея на прыхільнасць расійскага манарха[7]. Гісторык Яніс Зуціс таксама падкрэсліваў перш за ўсё сацыяльны характар гэтага руху: напрыклад, ён паказваў важнасць такіх падзей як неўраджай 1844 года і недахоп харчовых прадуктаў, але таксама пэўныя этнічныя і палітычныя матывы[8]. Да 1848 года (тады пачалося паступовае «замаражванне» гэтага працэсу з боку імперскіх улад) у праваслаўе перайшло больш чым 74 тысяч чалавек у Ліфляндыі[9].

У 1848 годзе для навернутых у праваслаўе мясцовых латышоў каля старадаўняга Кукенскага замка была збудавана праваслаўная царква св. Пятра і Паўла, дзе літургію служылі на латышскай мове. Пры царкве была таксама пачатковая «народная» школа, дзе таксама навучаўся Іван Спрогіс[10]. Праз два гады праваслаўны святар рэкамендаваў свайго вучня для паступлення ў Рыжскую духоўную семінарыю па спе-

[5] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 4.
[6] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 5.
[7] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 6.
[8] *История Латвийской ССР*, т. 1: *С древнейших времён до 1860 года*, отв. ред. Я. Я. Зутис, Рига 1952, с. 516-517.
[9] Там жа, с. 518.
[10] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 7.

цыяльнай квоце для «новоприсоединённых»[11]. Спачатку Іван Спрогіс навучаўся ў чатырохгадовым Рыжскім духоўным вучылішчы, а ва ўзросце 17 год быў без затрымкі пераведзены ў Рыжскую духоўную семінарыю, якую ён скончыў у 1858 годзе (праўда з найгоршым балам па матэматыцы)[12]. Тады ж Спрогіс быў накіраваны «на казённы рахунак» у Пецярбургскую праваслаўную духоўную акадэмію для працягу адукацыі.

Аднак поўны курс акадэміі Іван Спрогіс не скончыў. У 1861 годзе ён быў адлічаны ў сувязі з інцыдэнтам на занятках старажытнагрэчаскай мовы і амаль выпадкова патрапіў у лік пяці студэнтаў, якім не дазволілі падаць прашэнне аб вяртанні (заявы былі пададзеныя на дзень пазней і кіраўніцтва палічыла, што менавіта гэтыя студэнты былі вінаватыя ў інцыдэнце)[13]. Сітуацыя была вельмі крытычная, але дзякуючы знаёмству з сям'ёй генерала Стасава Спрогіс атрымаў месца дзяжурнага чыноўніка ў чытальным зале Імператарскай Публічнай бібліятэкі, дзе працаваў да 1865 года[14]. Крыху пазней Спрогіс быў звольнены з «духоўнага стану» (такім чынам змянілася ягоная саслоўная прыналежнасць)[15]. Таварыш Спрогіса па акадэміі Мікалай Сакалоў, дзякуючы знаёмству з папячыцелем Віленскай вучэбнай акругі Іванам Карнілавым[16], трапіў у Вільню:

«В 1863 г. Попечителем Виленского уч.[ебного] округа Николай Соколов был вызван в Вильну, для составления нового русско-латышского букваря и печатания русскими буквами латышских книг для латышей Витебской губ.[ернии] По дружественному ходотайству Соколова Виленский Попечитель Иван Петрович Корнилов в кон.[це] 1864 г. вызвал в Вильну также и меня в качестве „сверхштатного учителя"»[17].

[11] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 9.
[12] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 10.
[13] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 11-12.
[14] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 13.
[15] Змены сацыяльнага становішча і саслоўнай прыналежнасці дзяцей духавенства выклікалі пэўнае напружанне ў Расійскай імперыі, асабліва ў другой палове XIX ст. У выпадку І. Спрогіса можна назіраць цікавы выпадак, калі асоба, якая нарадзілася ў сялянскім саслоўі, у сувязі з навучаннем у духоўнай семінарыі і акадэміі была залічаная да духоўнага саслоўя і потым перайшла ў чынавенства. Выпадак Спрогіса быў даволі рэдкім сярод заходнерускіх дзеячаў, перш за ўсё таму, што большасць з іх былі выхадцамі з духоўнага саслоўя. Больш падрабязна пра сацыяльны партрэт былых паповічаў у секулярным свеце гл. у працы Лоры Манчэстэр: Л. Манчестер, *Поповичи в миру. Духовенство, интеллигенция и становление современного самосознания в России*, Москва 2015.
[16] Іван Пятровіч Карнілаў быў папячыцелем акругі ў 1864-1868 гг.
[17] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 13.

Спрогіс прыехаў у Вільню 11 студзеня 1865 года, паступіў на працу ў Віленскую публічную бібліятэку, дзе апрацоўваў дакументы і кнігазборы закрытых каталіцкіх кляштараў. Аднак ён там доўга не затрымаўся і ў 1866 годзе пачаў працаваць у Віленскім цэнтральным архіве — спачатку толькі памочнікам архіварыуса з аплатай 30 рублёў у месяц[18]. Далейшае жыццё Спрогіса было моцна звязанае з архівам[19]. У 1867 годзе Спрогіс ажаніўся з класнай дамай Віленскага жаночага духоўнага вучылішча, дачкой святара Аляксандрай Фёдараўнай Нікалаеўскай[20]. З 1879 па 1915 год Спрогіс быў галоўным архіварыусам — фактычна кіраўнікам архіва.

Першапачаткова малады даследчык проста губляўся ў велізарнай колькасці дакументаў — архіў не меў адпаведнай даведачнай базы і большасць супрацоўнікаў нават не ведала што і дзе знаходзіцца. Спрогіс пачаў працу над геаграфічным паказальнікам, а таксама адначасна займаўся апісаннем дакументаў. Першай працай даследчыка, звязанай непасрэдна з архіўнай дзейнасцю быў «Географический словарь древней Жомоитской земли XVI столетия, составленный по 40 актовым книгам Россиенского земского суда», які выйшаў у 1886 годзе[21]. Яшчэ раней, у 1868 годзе Спрогіс выдаў «Памятники латышского народного творчества» (розныя фальклорныя матэрыялы, сабраныя ім у ваколіцах роднай вёскі Стукмані)[22].

Значэнне дакументаў архіва для бягучай палітыкі і асэнсавання гістарычнага мінулага стала даволі хутка зразумелым для Спрогіса. У 1912 годзе ў аўтабіяграфіі ён пісаў так:

«В нём сокрыты непреоборимые и непоколебимые доказательства того, что все бывшее Литовское государство («Великое княжество Литовское»), в своей окружности, с востока от богоспасаемого града Киева, на севере — до Западной Двины, на юге — от Чёрного моря и с запада от Карпатских гор, от незапамятных времён древности, в своей массе, было занято и заселено, исключая маленького оазиса (области) природного литовского племени, русским народом. От этого народа в Литовском государстве свободно, сам от себя образовался и принят юридическим языком — русский язык. На этом языке написана первая литовская законодательная книга — «Литовский статут»

[18] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 14.

[19] Больш падрабязна пра дзейнасць архіва гл.: H. Ilgiewicz, *Wileńskie towarzystwa i instytucje naukowe w XIX wieku*, Toruń 2005, s. 276-299; R. Mienicki, *Archiwum Akt Dawnych w Witebsku (Centralne Archiwum Witebskie), 1852-1903*, Warszawa 1939.

[20] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 14.

[21] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 16.

[22] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 20.

1529, 1566 и 1588 г. На этом языке велось делопроизводство во всех судах и писаны все юридические книги; как в русских, так и позднее в польских документах этот язык носит единственное название «языка русского». В записях говорится одно: «писано по русски, русским характером, по русскому обычаю» (русским языком в латинских текстах)»[23].

Перакананне ў «расійскім» характары Вялікага Княства Літоўскага было не толькі ў сувязі з тагачаснай гістарыяграфічнай нарацыяй, але таксама ў асабістым перакананні Спрогіса пасля вывучэння вялікага корпусу дакументаў. Архіў таксама бачыўся як своеасаблівая педагагічная пляцоўка — з 1896 года на працягу некалькіх год тут праводзіліся адмысловыя экскурсіі для гімназістаў апошніх класаў[24]. Духоўная адукацыя і прынятае ў дзяцінстве праваслаўе выразна паўплывала на саматоеснасць Спрогіса: яе можна назваць нечым сярэднім паміж свядомасцю латышскага паходжання і перакананнем прыналежнасці да расійскай дзяржавы і расійскай нацыі:

«(...) как показывает моя фамилия я урождённый латыш, сын латвейского племени и рода. В детском возрасте не более 6 лет, вместе со своими родителями и по их воле, из лютеранского вероисповедания перешёл в православие. Новое вероисповедание в душе моей нашло для себя поистине благоприятное обиталище. От этого, брошенного по Божьему изволению семени, начал приниматься и подыматься вверх юный человек по плоти латвей, но в духе своём превращавшийся в полного и постоянного русского человека»[25].

Такая дэкларацыя не была нечым новым на тыя часы і цалкам можа быць кваліфікаваная як «шматузроўневая свядомасць», прычым важнае месца ў этнічнай свядомасці мае веравызнанне[26]. З 1865 года Спрогіс належаў да Віленскага праваслаўнага брацтва Святога Духа, прымаў актыўны ўдзел у пабудове трох новых праваслаўных цэркваў у розных гарадскіх прадмесцях: св. Архангела Міхаіла на Сніпішках, св. Аляксандра Неўскага на Новым Свеце і Знамення Божай Маці

[23] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 18.
[24] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 19.
[25] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 19-20.
[26] Феномен латышскага русафільства ўзнік каля 60-х гадоў XIX ст. і быў характэрны не толькі для праваслаўных вернікаў. Таксама лютэране прытрымліваліся падобных поглядаў, між іншым прапагандавалі ідэю аб тым, што латышы — «дваюрадныя браты славянаў» ці прапаноўвалі ўвядзенне кірыліцы ў латышскую пісьменнасць. Гл. падрабязна: P. Lazda, *The Phenomenon of Russophilism in the Development of Latvian Nationalism in the 19$^{th}$ Century*, [in:] *National Movements in the Baltic Countries during 19$^{th}$ Century*, ed. A. Loit, Uppsala 1985, p. 129-135.

(Знаменскай) у Звярынцы[27]. Таксама ён быў членам некалькіх грамадскіх арганізацый горада, старшынёй царкоўнай грамады пры Знаменскай царкве[28].

Іван Спрогіс пачаў весці свой дзённік (ці як ён сам яго называў, «хатні летапіс») хутчэй за ўсё яшчэ падчас працы ў Пецярбургу. На сёння ў Дзяржаўным гістарычным архіве Латвіі ў Рызе захавалася дзевяць сшыткаў з дзесяці (першы сшытак за 1864-1868 гг. з 1997 года недзе згубіўся). Усе сшыткі пранумараваныя, напісаныя даволі разборліва, большасць з іх — ад 60 да амаль 200 старонак. Запісы вяліся дастаткова рэгулярна, амаль кожны дзень і ахопліваюць амаль 50 год жыцця аўтара (ці 45 год, калі выключыць першы сшытак, да якога я не меў доступу): з 1864 да 1914 года.

Штодзённае жыццё Вільні ў дзённіках Спрогіса мае выразную спецыфіку. Існаванне ў шматкультурным і шматканфесійным асяродку паўплывала таксама на светапогляд аўтара. Розныя этнічныя і канфесійныя супольнасці горада жылі побач, перасякаліся ў сваёй паўсядзённай актыўнасці, але паміж імі захоўваліся нябачныя межы, якія вынікалі з рознай культурнай і перш за ўсё рэлігійнай прыналежнасці[29]. Аўтар дзённіка быў настроены ў выразна антыпольскім духу (гэта цалкам зразумела ў сувязі з ягоным веравызнаннем і прыналежнасцю да чыноўніцкага асяродка). Фактычная прыналежнасць да расійскай грамады горада (канешне, са спецыфічнай свядомасцю свайго латышскага паходжання) і адукацыя ў духоўных вышэйшых школах набліжалі Спрогіса да «заходнерускай» школы[30]. Прычым гэтая блізкасць была не толькі бачная ў навуковых даследаваннях аўтара, але таксама ў агульным светаадчуванні. Міхаіл Каяловіч быў адным выкладчыкаў Спрогіса ў Рыжскай духоўнай семінарыі і Пецярбургскай духоўнай акадэміі[31], таксама захавалася некалькі лістоў Міхаіла Каяловіча да Спрогіса, якія пацвярджаюць прыналежнасць да «заходнерускай» школы. Спрогіс таксама быў знаёмы з Платонам Жуковічам, які выкладаў у Літоўскай духоўнай семінарыі ў Вільні, а пасля смерці

[27] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 21.

[28] VUB RS, sygn. F6-Sp128, l. 21.

[29] Сярод цікавых прац па гісторыі Вільні варта звярнуць увагу на кнігу Лаймонаса Брэдзіса: L. Briedis, *Vilnius. City of Strangers*, Vilnius 2008.

[30] Павел Церашковіч адзначае, што падабенства рыторыкі «заходне-русаў» з русафільскімі латышскімі дзеячамі не было чымсьці выключным. Пра феномен латышскага русафільства гл.: П. В. Терешкович, *Этническая история Беларуси XIX — начала XX в. в контексте Центрально-Восточной Европы*, Минск 2004, с. 141-142.

[31] Latvijas Valsts Vēstures Arhīvs / Дзяржаўны гістарычны архіў Латвіі, Рыга (далей: LVVA), 2320. f., 1. apr., 3. lieta, 30op. lp.

М. Каяловіча ў 1891 г. заняў пасаду прафесара расійскай гісторыі ў Пецярбургскай акадэміі[32].

Аднак жыццё ў Вільні не магло адбывацца ў поўнай ізаляцыі ад каталіцкай грамады і польскай мовы. Аўтар дастаткова ахвотна наймаў маладых каталічак у якасці хатняй прыслугі (у 1905 г.: «сегодня, 18-го ноября моей женою уволена от моей семьи горничная девушка Бронислава, а на место ея взята новая горничная — девушка Мария»[33]), прымаў дырэктара знакамітага львоўскага архіва старажытных актавых кніг Аляксандра Чалоўскага падчас ягонага прыезду ў Вільню ў 1897 г. («я ему показывал вверенный мне архив и объяснял ему всё, особенно относительно юридического русского языка»[34]) ці купіў у 1913 годзе «Самавучыцель польскай мовы»[35]. Апошні факт вельмі цікавы — Спрогіс напэўна мусіў сустракацца з мноствам польскамоўных дакументаў у архіве, а таксама чуў гэтую мову кожны дзень. Верагодна падзеі пасля рэвалюцыі 1905 года паўплывалі на ягонае стаўленне да польскай мовы і жаданне нейкім чынам палепшыць свае веды. Аднак магчымасць выкладання на польскай мове ў школах пасля 1905 года ўспрымалася Спрогісам усё ж негатыўна, пра гэта сведчыць між іншым наступны запіс (12 красавіка 1912 г.):

«В № 98 «Сев.[еро]-Запад.[ная] жизнь» (...) 28 апреля напечатала статью «Сев.[еро]-Зап.[адный] Край и польское дворянство на основании документов Виленского Центрального Архива». Ст. Ф. У-ва (в неё вошла моя заметка на проект о преподавании противозаконном на польском языке в народных школах. «Поляков нет в Сев.[еро]-Зап.[адном] и Юго-зап.[адном] крае России»). Впечатление огромное!»[36].

Адносіны да яўрэйскай грамады горада з боку Спрогіса былі значна больш прыхільныя, асабліва ў канцы XIX ст. У адрозненні ад палякаў аўтар бачыў у яўрэях патэнцыйных саюзнікаў расійскіх улад. Такое перакананне ён пацвярджаў нават пры апісанні выпадковых спатканняў з яўрэямі. Наяўнасць вялікай колькасці гандляроў і рамеснікаў сярод яўрэйскай грамады вымушала рэгулярны кантакт. Аднак не толькі гэта — галоўны архіварыус спецыяльна хадзіў у сінагогу, каб паслухаць знакамітага тэнара і хор: захапленне музыкай здымала нават моцныя этнічныя і рэлігійныя бар'еры:

«(...) в еврейский пасхальный праздник, в 9 часов утра ходил я в еврейскую общую синагогу, на Немец.[кой] ул., слушал там редкого

32 LVVA, 2320. f., 1. apr., 3. lieta, 32op. lp.
33 LVVA, 2320. f., 1. apr., 7. lieta, 89. lp.
34 LVVA, 2320. f., 1. apr., 4. lieta, 24op. lp.
35 LVVA, 2320. f., 1. apr., 10. lieta, 78 lp.
36 LVVA, 2320. f., 1. apr., 10. lieta, 25 lp.

совершенства кантора-тенора Серутя и хор еврейский из 20 человек (басы, дисканты, альты и тенора); хор пел очень хорошо. Я остался своим посещением в.[есьма] доволен»[37] (14 сакавіка 1899 г.).

Асабліва цікавым фрагментам, які паказваў этнічныя напружанні ў горадзе і адносіны да іх Спрогіса, было адкрыццё помніка генерал-губернатару Міхаілу Мураўёву ў 1898 годзе. Сімвал падаўлення паўстання 1863-1864 гг. і ўсталявання рэпрэсіўных метадаў значна падзяліў віленскае грамадства. Антыпольскасць гэтага кроку ўлад толькі падбадзёрыла Спрогіса і натхніла яго на наступныя разважанні:

«Сегодня утром, в 8 часов была снята занавеска с статуи М. Н. Муравьёва на его памятнике и снимали фотографию. В это время, в числе гимназистов, проходивших мимо памятника, по Дворцовой улице, попал и какой то ксёндз. Воображаю его впечатление, когда он взглянув на статую Муравьёва, вероятно живо вспомнил ксендза Ишору, который за мятежные действия, по приговору Муравьёва, первый в Вильне был расстрелян в 1863 г.»[38] (8 кастрычніка 1898 г.).

На наступны дзень, 9 кастрычніка Спрогіс ужо назіраў іншую карціну і ў адрозненні ад ксяндза разгаварыўся з мінаком-яўрэем:

«Сегодня по утру иду я на службу в Ц.[ентральный] Архив, мимо памятника — тою же Дворц.[овою] улицею. Идёт рядом со мною еврей, видно портной, несёт на руке работу. Посмотрев на памятник, (...) говорит: «Если бы мне дали эти деньги...» (что стоит памятник). Ну, что же, говорю, вы были бы довольны и счастливы одни, а теперь счастлива вся Россия взирая на памятник тому, кто спас наш Западный Край от польских мятежников; и вы, еврей, должны этому радоваться, также, как и мы — русские; мятежники с вас милион, помню, взяли, — и продолжали бы брать, если бы их не сломил и не усмирил М. Н. Муравьёв!... «Ах, правда это, правда!» — ответил мне собеседник еврей»[39].

Штодзённыя кантакты не абмяжоўваліся падобнымі размовамі, але таксама ўключалі элементы своеасаблівай «дабрачыннасці»: «Сегодня я отдал бедной нищей еврейке, что стоит на (...) улице, свои выношенные брюки из гвард.[ейского] сукна и изношенный чёрный жилет»[40] (22 снежня 1897 г.).

Падзеі рэвалюцыі 1905 года і масавы ўдзел яўрэйскай моладзі ў антыцарскіх маніфестацыях (якія былі разагнаныя жандарамі, было забіта некалькі чалавек) змяніў адносіны Спрогіса. Характэрна, што не-

[37] LVVA, 2320. f., 1. apr., 4. lieta, 63. lp.
[38] LVVA, 2320. f., 1. apr., 4. lieta, 49op. lp.
[39] LVVA, 2320. f., 1. apr., 4. lieta, 49op-50. lp.
[40] LVVA, 2320. f., 1. apr., 4. lieta, 30. lp.

калькі разоў ён ужываў слова «пагром», прычым цяжка вызначыць, як ён яго б ацэньваў. Можна зразумець, што аўтар выразна ім палохаў сабраных людзей каля Лукішскай плошчы пасля абвяшчэння Маніфеста 17 кастрычніка 1905 года:

«Сегодня получена из Петербурга телеграмма о том, что там и в Москве Высочайший манифест 17-го октября принят восторженно. Сегодня, возвращаясь, из Ц.[ентрального] Архива, у Казначейства, от городового я услышал такую вещь, что «крестьяне из деревни приходили в Вильну, к генерал-губернатору Фрезе и просили у него позволения прийти в Вильну и «погулять над евреями». На углу Лукиш.[ской] площади и дома, где аптекар.[ский] склад Юндила, я остановился, где кучка народа читала на стене Высоч.[айший] манифест 17-го октября. Я прочёл кучке вышеуказанную телеграмму, что в Вильне нет никакой радостной встречи этому манифесту, что евреи у нас завладели властию, но что «они должны быть осторожны, чтобы не возбуждать христиан...», прибавил и о слышанном мною о приходе в Вильну крестьян из деревни... Тогда подошли ко мне два образованных еврея и сказали мне, что «я возбуждаю против Евреев, что я, возможно агент»... Я ответил им, что я начальник (...) учреждения и отнюдь не агент какой, что говорю здесь в тесном кружке, и полагаю, что евреи действительно должны быть осторожны, при нынешнем полноправии в городе, для своей собственной пользы». При этих словах вопрошавшие меня отстали и я повернул и пошёл к своему дому»[41].

Апісанне падзей 1905 года вельмі выразна паказвае этнічную і сацыяльную палярызацыю ў горадзе. Цікава, напрыклад, і тое, што выпадковым удзельнікам стаў таксама знакаміты японіст, былы расійскі консул у Японіі Іосіф Гашкевіч:

«В сегодняшнем № 731 „Вилен.[ского] Вестника" напечатаны: 1. «Воззвание к русскому народу — о необходимости сплотится», и 2. письмо И. И. Гошкевича о нападении «Еврейской самообороны» на Завальной улице на него и земского начальника Стольникова в 2 ½ ночи, в то время, когда они на извощике возвращались из вокзала. Земский начальник ранен»[42] (26 кастрычніка 1905 г.).

Аднак былі выразныя праявы салідарнасці паміж рознымі групамі маніфестантаў, якія не звярталі ўвагі на рэлігійную розніцу:

«Около часу дня, за Острыми Воротами стала накапливаться страшная толпа еврейской молодёжи — в ожидании следующих отсюда похорон убитых 22 окт.[ября] на Завальной улице шести евреев... Скоро

[41] LVVA, 2320. f., 1. apr., 7. lieta, 85op. lp.
[42] LVVA, 2320. f., 1. apr., 7. lieta, 87. lp.

на Завальной улице, для похорон евреи вынесли огромный флаг, в роде катафалка, состоящий из древка и четырёх широчайших лент, (...) полторы длины каждая — две красныя, а две белые. Вся еврейская публика вокруг флага шла без шапок... Оказалось, затем, что вся эта манифестация евреями, в нескольких тысячах человек, была предпринята ими для оказания высокого почёта одному православному, случайно забитому солдатскими выстрелами 22 окт.[ября] на Завальной улице, среди стрелявшей в солдат Еврейской толпы. За покойником несли более 30 венков — от прачек, портных и т.д. с возмутительными надписями: «Жертвам царского произвола», «жертвам опричников» и т.[ак] дал.[ее] Впереди этой гигантской толпы шёл, по православному погребальному обряду, священник с хоругвами и хором певчих. У Евфросиньевского кладбища провожавшая толпа, состоявшая все из молодого еврейского поколения; на самое кладбище, за ворота его её не впускали; Евреи не протестовали... Для похорон четверых евреев, убитых 22 окт.(ября), готовилось на сегодняшний день, 24-го окт.(ября), ещё более грандиозная еврейская манифестация... Но вдруг, круто последовала ея отмена: Еврейчиков, сегодня, в часов девять утра, пронесли по улице без всякого парадного собрания и шума... Видно, Евреи убоялись «погрома»[43] (23 кастрычніка 1905 г.).

Як бачна, апісанне гэтых падзей значна менш лаяльнае да яўрэяў, чым некалькі год раней. Тут можна заўважыць пэўную сумесь пагардлівага стаўлення (з пэўнымі ноткамі побытавага антысемітызму) і выразнага страху. Спрогіс нават замовіў дадатковае забеспячэння для вокнаў сваёй кватэры: «Вчера в квартире нашей, в комнате, окна которой выходят на парадную лестницу, на наш собственный счёт установлена внутренняя деревянная ставня, как предохранительная мера против злого человека, могущего легко проникнуть через стеклянное окно. За ставню мастеру (солдатику) уплочено три (3) рубля»[44] (запіс ад 20 кастрычніка 1905 г.).

Рэвалюцыйным падзеям 1905 года папярэднічаў выбух, які разбурыў Аляксандраўскую праваслаўную капліцу ў цэнтры Вільні 3 сакавіка 1904 года. Спрогіс убачыў у гэтым прадвесце будучага «польскага бунту». Капліцу адрамантавалі на працягу месяца і зноў урачыста асвяцілі 30 сакавіка. Бачна, што падзеі паўстання вельмі доўгі час выклікалі ўспаміны сярод расійскай грамады горада:

«Сегодня, в шесть часов вечера произведён взрыв в Александровской часовне, что на Георгиевском сквере. Выпали стекли, поврежде-

[43] LVVA, 2320. f., 1. apr., 7. lieta, 86-86op. lp.
[44] LVVA, 2320. f., 1. apr., 7. lieta, 86. lp.

на одна стена... Неслыханное знамение... Это уже несомненно польское дело, — начало нового польского мятежа...»[45].

Польская мова ў публічнай прасторы горада (асабліва да 1905 года) выклікала выразны пратэст аўтара. Напрыклад, Віленская сельскагаспадарчая выстава, якая адбывалася ў верасні 1902 года, апісвалася наступным чынам:

«Выставка по внешней отделке, по множеству построек и выставленных предметов бесспорно производит впечатление... Но несомненно, что это несколько хозяйственная выставка нашей Виленской губернии, выставка скромная, но верная, полная, всесторонняя, поучительная... Это выставка, в которую отовсюду напихано всевозможных вещей: заграничные машины, произведения Варшавы, посылки из разных других губерний... Как прежние наши Виленские, так и в особенности нынешняя наша выставка, это «панская выставка и затея, это панский клуб, съезд, сборище поляков, для политического их объединения... На эту выставку (...) съезжает сюда масса поляков (говорят — до десяток тысяч...), даже многие в собственных экипажах и на собственных лошадях». Говорят, все гостиницы, даже многие частные дома переполнены «приезжими гостями, посетителями выставки». На площади выставки (Побернардинский сад) движется масса народа. В этой массе слышится только один, громкий, открытый, подавляющий польский говор... Русской речи почти совсем незаметно; она скромна и затушёваная... Где ты русский человек, хозяин и господин здешней земли?... Берегись, «ляхи» опять собираются сесть на твою терпеливую вию, как было это в 1812, в 1830 и 1863 годах!...»[46] (запіс ад 7 верасня 1902 г.).

Сацыяльная і палітычныя палярызацыя віленскага грамадства (у сваёй большасці на этнічнай і канфесійнай аснове) была вельмі выразная пасля 1905 года. Так, Спрогіс удзельнічаў у заснаванні новага таварыства і рэзка пратэставаў супраць каталікоў сярод ягоных будучых членаў:

«(...) сегодня я был вечером на заседании нового Вилен.[ского] Рус.[ского] общества под заглавием «Северо-Западное Русское Вече». Собралось всего 21 человек. Обсуждали там новонапечатанное «Воззвание» этого Вече. Прочитав его, я поставил решительно вопрос, что из программы его о членах его: «православные, старообрядцы, католики (...)» и проч. Слово «католики» должно быть исключено, католиков (...) не должно быть в нашем Русском Вече! В нём должны быть только одни православные русские люди, старообрядцы; могут быть

[45] LVVA, 2320. f., 1. apr., 6. lieta, 111. lp.
[46] LVVA, 2320. f., 1. apr., 6. lieta, 34op. lp.

и лютеране и магометане... Решение этого вопроса отложено до Общего Собрания Веча»[47] (18 лістапада 1905 г.).

Аднаўленне аўтаномнага статуса Царства Польскага ў межах Расійскай імперыі таксама не выклікала спачування з боку аўтара. Ён горача падтрымаў асноўныя пастулаты былога прафесара Варшаўскага універсітэта Платона Кулакоўскага, які выступаў у Вільні 25 красавіка 1907 года:

«Сегодня, в 8 ч.[асов] вечера я был в Вилен.[ском] Русск.[ом] Обществен.[ном) Собрании на лекции «о польской автономии», читанной приехавшим из Петербурга дорогим русским гостем, б.[ывшим] профессором Варшав.[ского] университета Платоном Андреевичем Кулаковским. Лектор хорошо разобрал «польский вопрос» вообще, каким он является в минувшей истории по отношению к России. Польша при Рус.[ском] импер.[аторе] Александре I имела свою «автономию»... Из своей автономии поляки развили первый мятеж 1831 года... Свою автономию поляки понимают только, как полное восстановление умершего их польского государства, с превращением его русских областей — в польские по национальности и вере. Неужели Россия вновь отдаст Западную Русь на (...) и терзание полякам? Нет, этого не может быть! «Поэтому, заключил лектор свой реферат, «долой польскую автономию!». Собрание покрыло лекцию шумными, продолжительными рукоплесканиями. Очень всё приятно...»[48].

Беларускі нацыянальны рух таксама не выклікаў сімпатыяў Івана Спрогіса. 4 сакавіка 1912 года ён коратка напісаў пра «Нашу Ніву»:

«В № 1504 «Вил.[енского] Слова» от 3-го марта, в титуле «штрихи» — заметка: «известное сепаратистское издание «Наша Ніва», издаваемое на польские деньги с целию вбить клин между белоруссами и великоруссами, по примеру «украинцев» задумалось недавно, какой ей шрифт избрать — русский или латинский». (...) Слово рекомендует латинский, ближе будет к ей цели — отколоть Белоруссию от Великой Руси...»[49].

Адначасова цікавасць да беларускай праблематыкі і навінак навуковай літаратуры звярнулі ўвагу аўтара да вядомай працы Яўхіма Карскага «Беларусы»[50]. Спрогіс рабіў шматлікія нататкі з гэтай працы ў сваім дзённіку, асабліва калі яны тычыліся «доказаў» несамастойнасці беларускай мовы (асабліва ў часы Вялікага Княства Літоўскага). Цікавасць Спрогіса выклікалі таксама прыклады беларускіх

[47] LVVA, 2320. f., 1. apr., 7. lieta, 89. lp.
[48] LVVA, 2320. f., 1. apr., 8. lieta, 37op. lp.
[49] LVVA, 2320. f., 1. apr., 10. lieta, 13op. lp.
[50] LVVA, 2320. f., 1. apr., 6. lieta, 105op. lp.

народных песень, так у 1891 годзе ён поўнасцю перапісаў з нумара ад 1 траўня неафіцыйнай часткі «Витебских губернских ведомостей» апублікаваную Еўдакімам Раманавым песню «Дуды» («Было ў Мар'і тры сыны»)[51].

Сімвалічная «нацыяналізацыя» прасторы прасочваецца нават у рэдкіх апісаннях прыроды ў дзённіку. Напрыклад, 19 снежня 1900 года:

«(...) сегодня, за городом, говорят было 22° мороза, в городе, у нас на терм.[ометре] 18°. Погода тихая, ясная, прекрасная, но холодная. Холод отзывается в домах — в самых лучших квартирах. Ночью светит полная луна, возвышающая всегда и подбадривающая «крепкий русский народ»[52].

Спрогіс апісваў самыя розныя падзеі ў горадзе. У 1888 годзе адбылася выстава знакамітых расійскіх мастакоў з таварыства «перасоўнікаў»:

«Был я сегодня во дворце, на выставке картин «Товарищества Передвижных Художественных Выставок». Прекрасны картины: «Тропинка в лесу» Е. Е. Волкова, «Иллюминация в летнем саду» Е. Е. Волкова; «Из окрестностей Киева» (...), «Лука» (его же), «Уголок Малороссии» В. К. Менк, «Офелия» А. Д. Литовченко, «Отдых» (заснувшая девушка) И. Е. Репина, «Среди долины ровныя» И. И. Шишкина; «Эльбрус» Н. А. Ярошенко, и «Христос» А. Д. Литовченко. Всех картин выставлено 53 номера. Народу ходит мало»[53] (15 сакавіка 1888 г.).

17 жніўня 1891 года аўтар зрабіў запіс пра прадстаўленне сінгалезаў і тамілаў:

«Был я сегодня в Ботаническом саду, на представлении Сингалезов и Тамилов (из острова Цейлон), с коими четыре слона и четыре зебу»[54].

У запісах таксама часта ўзгадваецца чыгунка — новы на той час від транспарту, які значна змяніў якасць падарожжаў і іх інтэнсіўнасць, але таксама гарадскую прастору. Чыгуначны вакзал стаўся адным з важнейшых месцаў горада. Спрогіс апісвае чарговыя прыезды і ад'езды генерал-губернатараў і папячыцелей навучальнай акругі, амаль кожнага з іх ён характарызуе ў адпаведным «патрыятычным стылі», напрыклад у выпадку генерал-губернатара Васіля Аржэўскага важным момантам з'яўляецца ягонае навучанне ў духоўнай акадэміі. Гэты факт для Спрогіса — сведчанне пра тое, што ён — «коренной русский человек и по вере он православный»[55] (запіс ад 17 лютага

[51] LVVA, 2320. f., 1. apr., 3. lieta, 27-27op. lp.
[52] LVVA, 2320. f., 1. apr., 5. lieta, 53. lp.
[53] LVVA, 2320. f., 1. apr., 2. lieta, 56. lp.
[54] LVVA, 2320. f., 1. apr., 3. lieta, 30op. lp.
[55] LVVA, 2320. f., 1. apr., 3. lieta, 47. lp.

1893 г.). Амаль праз месяц у Вільню прыехала жонка генерал-губернатара, пра якую аўтар зрабіў наступную нататку:

«Сегодня с утренним поездом (10 ч. 55 м.) приехала из Петербурга в Вильну, для постоянного здесь жительства супруга нашего Главного Начальника края Ея превосходительство Наталия Ивановна Оржевская. У дверей своего дома (дворца) она была встречена начальником (...) букетом. Добро пожаловать русской хозяйке нашего города и края!»[56].

Значна менш урачыста развітваўся Іван Спрогіс з гісторыкам Іванам Лапо, з якім яго звязвала даволі доўгая карэспандэнцыя[57] і сяброўства: «на прощание в вокзал я пришёл с бутылкой пива. А он меня бутылкой красного вина»[58] (12 ліпеня 1897 г.).

Важнай навуковай (а таксама таварыскай падзеяй) быў IX Археалагічны з'езд у Вільні ў 1893 годзе. Ён адбываўся раз на тры гады, першапачаткова па ініцыятыве графа Аляксея Сяргеевіча Уварава. Віленскі з'езд інтэнсіўна рыхтаваўся, па ягоных выніках было выдадзена шэраг важных прац, у тым ліку па археалогіі беларускіх зямель[59]. Іван Спрогіс прымаў непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы і працах з'езда, пазнаёміўся з шэрагам навукоўцаў, сярод якіх былі Уладзімір Антановіч, Дзмітрый Анучын, Дзмітрый Ілавайскі, Юльян Кулакоўскі, Яўхім Карскі, Іван Філевіч, Аляксандр Рамановіч-Славацінскі і іншыя[60]. Спрогіс пералічыў усіх новых знаёмых, адкрыццё падзеі ў будынку Першай мужчынскай гімназіі, а таксама занатаваў свае ўражанні:

«Съезд прошёл весело. Я лично был удостоен большого внимания со стороны в. многих приезжих учёных. Меня учёный комитет даже назначил «почётным председателем» на одном отделении для чтения рефератов. На обеде (...) 14-го Авг.[уста] проф. Филевич произнёс тост специально за моё здоровье, который был принят с живым сочувствием. (...) Этот праздник науки останется навсегда знаменательным для Вильны»[61].

[56] LVVA, 2320. f., 1. apr., 3. lieta, 49. lp.

[57] Л. Дубьева, *«Отдаюсь науке совсем...»: И. И. Лаппо — профессор русской истории Тартуского (Юрьевского) университета в 1905-1918 гг.*, [в:] *Балтийский архив. Русская культура в Прибалтике*, т. IX, сост. и ред. П. Лавринец, Вильнюс 2005, с. 374-391; *Письма профессора И. И. Лаппо И. Я. Спрогису из Юрьева (1906-1912)*, [в:] *Балтийский архив. Русская культура в Прибалтике*, т. IX ..., с. 392-408.

[58] LVVA, 2320. f., 1. apr., 4. lieta, 22op. lp.

[59] Г. А. Кохановский, *Археология и краеведение*, [в:] *Очерки истории науки и культуры Беларуси IX — начала XX в.*, ред. П. Т. Петриков, Минск 1996, с. 96-97.

[60] LVVA, 2320. f., 1. apr., 3. lieta, 54op.-55op. lp.

[61] LVVA, 2320. f., 1. apr., 3. lieta, 55op. lp.

Зразумела, што сустрэчы і развітанні з гасцямі з’езда таксама адбываліся на вакзале. З чыгункай таксама быў звязаны аднадзённы візіт вядомага ў тыя часы праваслаўнага святара Іаана Кранштацкага[62] 4 кастрычніка 1893 года:

«Сегодня, в понедельник, с утренним поездом из Петербурга, приехал в Вильну Иоанн Кронштадский, (...) обедню и служил в Николаевской церкви. Народа, по пути этого разъезда по городу везде дов.[ольно] много... Вечером, с 8-ми часовым поездом о. Иоанн отправился из Вильны далее — в Варшаву. На вокзале собралась страшная масса народа православного, и католиков, и евреев. Прощаясь из вагона дорогой гость, произнёс благословение на собравшийся народ и благословляя, стал с открытой головой. Город наш осчастливлен этим посещением!»[63].

Вельмі рэзананснай падзеяй для праваслаўнага духавенства былі здарэнні верасня-кастрычніка 1899 года ў Літоўскай духоўнай семінарыі. Падзеі гэтыя, якія мелі выразны і нечаканы пратэстны характар і скончыліся звальненнем інспектара семінарыі (і гісторыка царквы) Восіпа Шчарбіцкага (аднакурсніка Спрогіса па Пецярбургскай акадэміі). Вось як аўтар апісваў тыя падзеі:

«Сегодня, я узнал (...) из уст О. В. Щербицкого и самого ректора Литов.[ской] Дух.[овной] Семинарии архимандрита Палладия, о произведённом вчера в Литов.[ской] Дух.[овной] Семинарии, вечером, после ужина, воспитанниками Семинарии 1-го, 2-го, 3-го и 4-го курсов беспорядке и буйстве... Смятение началось ещё в столовой, за ужином, где находился инспектор Семинарии О. В. Щербицкий, стучанием ногами, свистками и проч.; затем, по выходе из столовой, вся масса воспитанников двинулась на чёрный двор; по пути потушила и покидала все лампы, захватила пупидры от игральных инструментов, и здесь подняла шум и гам, и начала бросать и выбивать стёкла в инспекторской квартире... В это время семинарское начальство — Ректор, помощник Инспектора и два надзирателя все попрятались и заперлись в своих комнатах... (О. В. Щербицкий ходил по нижнему коридору). Беспорядки, кошачья музыка, топотание ногами и пение светских песен начались ещё с неделю назад над ректорской квартирой... «Стон» (...) не был причиною этого в.[есьма] грустного домашнего мятежа; О. В. Щербицкий также лично никому не давал к этому поводу... Надо

62 Іаан Кранштацкі (сапр. Іван Сергіеў, 1829-1909) — харызматычны прапаведнік, святар у Кранштаце, духоўны пісьменнік. Пра надзвычайную папулярнасць гэтага святара пісала, між іншым, Лізавета Нарышкіна, гл.: Е. А. Нарышкина, *Мои воспоминания. Под властью трёх царей*, сост. Е. В. Дружининой. Москва 2014, с. 328-329.

63 LVVA, 2320. f., 1. apr., 3. lieta, 56-56op. lp.

полагать, что тут есть какое то подпольное движение, чьи-то дурные советы...»[64] (запіс 1 кастрычніка 1899 г.).

Пад уражаннем звальнення Шчарбіцкага Спрогіс зрабіў наступны запіс:

«Сегодня мой товарищ по Петербургской Духовной Академии, инспектор Литов.[ской] Духов.[ной] Семинарии, стат.[ский] сов.[етник] Осип Васильевич Щербицкий, вследствие прошения полученным указом Святейшего Синода об увольнении от должности инспектора, переехал из занимаемой в здании Семинарии Инспекторской квартиры (в которой провёл 18 лет) на частную квартиру, нанятую им на Поповщине, на углу Белого переулка, в доме Бартошевича... Совершилось! Живи теперь и кормись как знаешь сам, как старая, верная хозяину лошадь, которая прослужив и проработав честно всю жизнь, теперь, за старостью, изгнанная хозяином из дома, в поле — кормись теперь сама, как знаешь...»[65] (19 лістапада 1899 г.).

Для зразумення асабістай саматоеснасці І. Спрогіса важна звярнуць увагу на тое, што ён захоўваў повязі з латышскай культурай. Аўтар актыўна карыстаўся латышскай мовай, пісаў на ёй, выпісваў латышскія газеты для сябе, а таксама для сваёй сям'і (напр. сям'і брата Андрэя)[66], сустракаўся з рознымі асобамі з латышскіх губерняў, якія прыязджалі ў Вільню. Аднак запісаў на латышскай мове ў самім дзённіку вельмі мала. Пасля 1905 года Спрогіс удзельнічаў у розных мерапрыемствах Латышскага Віленскага таварыства, перш за ўсё публічных лекцыях (але часам з-за дрэннага надвор'я, як напрыклад 15 студзеня 1912 г. не прыходзіў[67]).

Спрогіс таксама займаўся праблемай літоўскай пісьменнасці, рабіў карэктуру падручніка расійскай мовы для літоўцаў і прапаноўваў не выкарыстоўваць кірыліцу для запісу літоўскай мовы і вярнуцца да лацінкі (да 1904 г. у Расійскай імперыі легальна можна было друкаваць па-літоўску толькі кірыліцай). У траўні 1900 года Спрогіс размаўляў на гэты конт і прапаноўваў вяртанне да лацінкі (што прапаноўвала таксама частка расійскіх чыноўнікаў)[68]. 20 сакавіка 1901 года Спрогіс быў з гэтым пытаннем у папячыцеля навучальнай акругі:

«(...) я в 2 часа был с докладом у г.[осподина] Попечителя[69], и просил его мнения и согласия: Могу ли я гласно, в печати высказывать своё мнение относительно необходимости отменить проект гр.[афа]

64 LVVA, 2320. f., 1. apr., 4. lieta, 90. lp.
65 LVVA, 2320. f., 1. apr., 4. lieta, 95op. lp.
66 LVVA, 2320. f., 1. apr., 3. lieta, 46op. lp.
67 LVVA, 2320. f., 1. apr., 10. lieta, 3. lp.
68 LVVA, 2320. f., 1. apr., 4. lieta, 134. lp.
69 Папячыцелем быў Васіль Аляксандравіч Папоў у 1899-1906 гг.

М. Н. Муравьёва о применении русской азбуки к современной литовской письменности? На это г. Попечитель, что его мнение такое, принятое и покойным Министром Н.[ародного] Просвещ.[ения] Боголеповым, что Учебному округу нет никакого дела, чтобы вмешиваться в этот рус.[ско]-литов.[ский] азбучный вопрос; что круг его деятельности, права и обязанности — школа, где в Литов.[ской] местности — литов.[ский] язык не преподаётся, следовательно уч.[ебному] округу решительно нет дела — какою азбукою они будут печатать свои книги, что уч.[ебный] округ в прежнее время совершенно напрасно сунулся в это дело» (в качестве поборника за рус.[скую] азбуку). Совершенно правильный и в.[есьма] утешительный взгляд! Значит я совершенно свободен и могу писать без страха!»[70].

Варта адзначыць, што на наступны дзень папячыцель папрасіў Спрогіса не выказвацца ў друку наконт вяртання літоўскай мовы да лацінкі[71].

Удзел у розных расійскіх таварыствах у Вільні быў таксама адным з амаль штодзённых абавязкаў Спрогіса. Сярод іншых ён таксама ўдзельнічаў у стварэнні таварыства «Крестьянин»[72]:

«Сегодня, в два часа дня состоялось молебствие и освящение новооткрываемого Вилен.[ским] обществом «Крестьянин», в доме «Русского Общественного Собрания», магазина книжного и писчебумажного, под вывеской «Русский мир». Служил молебствие тюрем.[ный] Свящ.[енник] Фома Иванович Смоктунович. Пел маленький Пречистенский хор. Во время произнесения многолетия, о. Фома произнёс прекрасную речь — в пользу «Общества Крестьянин» и устроителей магазина. Собралось на открытие человек 40. Я сделал первый по чину покупку на 15 коп.[еек]»[73] (30 снежня 1909 г.).

Удзел у праваслаўных набажэнствах быў адным са сталых элементаў жыцця Спрогіса, асабліва ў старэйшыя гады. Ён наведваў царкву не толькі ў нядзелю і святы, але таксама даволі часта ў будныя дні, чытаў на клірасе ў розных віленскіх цэрквах (св. Мікалая, св. Архангела Міхаіла на Сніпішках і іншых), але асаблівае месца ў ягоных духоўных практыках займала Знаменская царква на Звярынцы. Гэтая царква ўзгадваецца ў запісах вельмі часта. Храм быў пабудаваны ў 1899-1903 гг. пры непасрэдным удзеле Свята-Духаўскага брацтва

[70] LVVA, 2320. f., 1. apr., 5. lieta, 60op. lp.

[71] LVVA, 2320. f., 1. apr., 5. lieta, 60op. lp.

[72] Больш падрабязна пра гэтае таварыства гл.: М. В. Громыко, *Общество и журнал «Крестьянин» как представители монархического лагеря на территории Беларуси (1905-1915 гг.)*, «Вестник Полоцкого государственного университета», серия А: Гуманитарные науки, 2012, № 1, с. 71-76.

[73] LVVA, 2320. f., 1. apr., 8. lieta, 140. lp.

і меў вельмі выразнае сімвалічнае значэнне перш за ўсё ў сувязі са сваёй лакалізацыяй. Будынак завяршаў тагачасны Георгіеўкі праспект Вільні (зараз — праспект Гедыміна) і быў своеасаблівай дамінантнай супрацьвагай для каталіцкага кафедральнага касцёла св. Станіслава і св. Уладзіслава[74]. 16 сакавіка 1910 года на кошт прыхаджан гэтай царквы адбылося пахаванне роднага брата прафесара Яўхіма Карскага:

«Вчера в Знаменской церкви, у старосты лежал подписной лист «на погребение бедного умершего», и я записал 15 коп. Выяснилось, что этот «бедный умерший» не более как родной брат Варшавского профессора Карского. «Покойный, окончивший курс в Литов.[ской] Духов.[ной] семинарии, служил прекрасно в Управлении Полесской железной дороги, человек он образованный... но подпал заразе от алкоголя и был уволен он со службы... Он составил из себя, из отставного военного Стукалича и псаломщика Знамен.[ской] ц.[еркви] Ивана Францевича Мацкевича троечную компанию, которая ежедневно утешалась по чарочке». В этой компании псаломщик едва не погиб совсем! Только влиянием настоятеля о.(тца), ревнованием членов Знамен.[ской] общины он был устранён от видимой опасности и возвращён на удовлетворительную свою дорогу! Господи, прости все грехи «умершему и прийми его в небесную свою милость и упокой!». (16 марта 1910 г.) Сегодня, в 3 часа дня в Знаменской церкви состоялось отпевание «бедного умершего человека» Карского... Погиб в цвете лет интеллигентный, образованный человек русский (семинарский) без борьбы для себя и общества! Да удостоит и его Господь Своей вечной памяти!...»[75].

Пахаванні розных расійскіх дзеячаў Вільні (ці звязаных з горадам) былі сталым элементам запісаў аўтара. Сярод пахаваных у Вільні ўзгадваюцца Сямён Шалковіч (у 1886 г.)[76], Васіль фон Роткірх (у 1891 г.)[77], Канстанцін Снітко (у 1901 г.)[78], эмігрант з Галіцыі Веняздзікт Плашчанскі[79] (у 1902 г.)[80], а таксама віленскія паніхіды па Івану

[74] Больш падрабязна пра гісторыю пабудовы царквы гл.: М. И. Врублевский, *Новая православная святыня города Вильны — церковь во имя Знамения Божией Матери в местности Зверинец-Александрия*, «Виленский календарь на 1904 год», Вильна 1903, с. 335-352.

[75] LVVA, 2320. f., 1. apr., 8. lieta, 147. lp.

[76] LVVA, 2320. f., 1. apr., 2. lieta, 49. lp.

[77] LVVA, 2320. f., 1. apr., 3. lieta, 32op. lp.

[78] LVVA, 2320. f., 1. apr., 5. lieta, 62. lp.

[79] Больш падрабязна пра эміграцыю русафільскіх дзеячаў з Галіцыі ў Расійскую імперыю гл.: А. В. Вендланд, *Русофіли Галичини. Українські консерватори між Австрією та Росією*, 1848-1915, Львів 2015, с. 498-501.

[80] LVVA, 2320. f., 1. apr., 5. lieta, 89. lp.

Аксакаву (у 1886 г.)[81], іншаму вядомаму эмігранту з Галіцыі Івану Наумовічу і прафесару Міхаілу Каяловічу (у 1891 г.)[82].

Сталай падзеяй у прыватным жыцці сям'і Спрогіса былі рэгулярныя выезды на лецішча ў летнія месяцы. Звычайна гэта былі Залессе і Ігналіна, дзе жонка, дзеці, а пазней і ўнукі архіварыуса жылі ў сядзібах мясцовых прыходскіх святароў ці на іншых «кватэрах». Апрача таго з дзённіка можна даведацца пра кошты на некаторыя паслугі, паштовыя адпраўленні, кнігі, чыгуначныя квіткі, менш інфармацыі пра кошты на харчаванне. Цікава, што ў запісе за 1870 г. пералічаныя слоікі сочыва з рознай садавіны: «крыжовник 2 банки, чёрной смородины 3 банки, красной смородины 2 банки, клубника 1 банка, малины 1 банка, вишен 1 банка»[83]. Сярод розных гарадскіх здарэнняў апісваецца выпадак з жанчынай, на якую наехала фурманка на вуліцы Вялікай:

«Жена моя была свидетельницею следующего происшествия. Сегодня в 8 часов вечера, на Большой ул. против здания Учительского Института в тёмной воротной нише стоял свято-духов.[ский] монах (сухощавый блондин, которого жена знала в лицо) с двумя нещастными женщинами, из коих одна громко ругала его самым жестоким образом. Дело по видимому шло о том, что монах что то не уплатил этой ругательнице. Чтобы успокоить её, другая с нею бывшая женщина вынула свой портмоне, с целью заплатить ей требуемые деньги. Но в это время первая женщина, по видимому совершенно пьяная, покачнулась и полетела боком (...) прямо через реншток[84] на улицу. Падение это произошло в такой несчастный момент, что лошадь, проезжавшая в это самое время мимо извощика наступила ей на голову. Упавшая, пьяная окровавленная женщина, продолжала лежать на прежнем месте, и едва не была раздавлена наездом нового извощика, так как в этом месте улица тесна, темна, фонари ещё не горели. Насильно упавшую подняли посторонние люди (и жена моя). Городового тут не было, которому можно было её поручить. Наконец её взял под руку какой то человек и повёл к городской будке. Монах же при падении первой женщины, моментально изчез со второю»[85] (9 сакавіка 1883 г.).

Дзённікі Івана Спрогіса вартыя падрабязнага вывучэння перш за ўсё як сведчанне цэлага пакалення інтэлігенцыі на заходніх ускраі-

[81] LVVA, 2320. f., 1. apr., 2. lieta, 46. lp.
[82] LVVA, 2320. f., 1. apr., 3. lieta, 30op. lp.
[83] LVVA, 2320. f., 1. apr., 2. lieta, 91op. lp.
[84] Сцёчны роў.
[85] LVVA, 2320. f., 1. apr., 2. lieta, 31op. lp.

нах Расійскай імперыі. Аўтар належаў да вельмі спецыфічнай групы дзеячаў, якія спалучалі ў сабе прыналежнасць да праваслаўя і расійскай дзяржаўнай і этнічнай ідэі з захаваннем латышскай нацыянальнай свядомасці. У адрозненні ад большасці прадстаўнікоў «заходнерускай» школы Спрогіс меў латышскія карані і не цураўся іх: актыўна публікаваўся па-латышску і падтрымліваў кантакты з латышскімі дзеячамі. Дзённікі Спрогіса з'яўляюцца выдатным прыкладам крыніцы, з якой можна даведацца пра самыя розныя падзеі этнічнага і сацыяльнага характару ў Вільні канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Гарадское жыццё паказана ў самых розных праявах і праз вельмі спецыфічную (і дастаткова складаную для даследавання) прызму «заходнеруса» латышскага паходжання. Апрача інфармацыі пра расійскую і праваслаўную супольнасць Вільні з гэтай крыніцы можна даведацца пра польскае, яўрэйскае, беларускае жыццё горада.

**Summary**

**The life of the inhabitants of Wilno according to Iwan Sprogis. „Us" and „them" against a background of urban daily living at the turn of the 20th century**

Iwan (Jānis) Sprogis (1833-1918) — an important figure in the intellectual life of Wilno at the turn of the 20th century, archivist, researcher in folklore and activist in the Orthodox community. For over 50 years he kept a journal, which is an interesting historical source unfortunately rarely used in academic research. The article presents an outline of Iwan Sprogis's biography (mainly based on his autobiography dating from 1912) and information on the journals. They show the life of the inhabitants of Wilno through the perspective of the author's personal experiences and ideological convictions. Attention is paid to national and religious issues, especially to the complex character of the coexistence and competition between various urban communities under the conditions of repressions after the January rising, at the end of the 19th century, after the revolution of 1905 and in the years 1905-12. Sprogis's diaries contain information on the life of the Orthodox community (e.g. on building new Orthodox churches on the outskirts of Wilno), that of the Polish, Jewish, Belarusian, Lithuanian and Latvian communities; the activists of the „Western Ruthenian" movement, and urban events.

**Streszczenie**

**Życie mieszkańców Wilna według Iwana Sprogisa. „Swoi" i „obcy" na tle miejskiej codzienności końca XIX — początku XX wieku**

Iwan (Jānis) Sprogis (1833-1918) — jedna z ważnych postaci wileńskiego życia intelektualnego drugiej połowy XIX — początku XX wieku, archiwista, badacz folkloru i działacz społeczności prawosławnej. Przez ponad 50 lat prowadził dzienniki, które są ciekawym źródłem historycznym, niestety rzadko wykorzystywanym w badaniach naukowych.

W artykule przedstawiono zarys biografii Iwana Sprogisa (głównie na podstawie jego autobiografii z 1912 roku) oraz informacje na temat dzienników. Życie mieszkańców Wilna pokazano w nich poprzez pryzmat osobistych doświadczeń i ideowych przekonań autora. Zwrócono uwagę na kwestie narodowościowe i wyznaniowe, szczególnie na złożony charakter współistnienia i konkurencji pomiędzy różnymi społecznościami miasta w warunkach represji po powstaniu styczniowym, w końcu XIX wieku, po rewolucji 1905 roku oraz w latach 1905-1912.

W codziennych notatkach Sprogisa można znaleźć informacje na temat życia społeczności prawosławnej (np. o budowie nowych cerkwi na przedmieściach Wilna), polskiej, żydowskiej, białoruskiej, litewskiej oraz łotewskiej, działaczy nurtu „zachodnioruskiego”, wydarzeń miejskich.

**Andrzej Tichomirow** — historyk i kulturoznawca, doktorant w Instytucie Historii Nauki PAN. Autor ponad 30 artykułów. Zainteresowania badawcze: historia idei, historiografia XIX – początku XX wieku, mniejszości etniczne i wyznaniowe na Białorusi.

**Сяргей Мяньчэня**
(Мінск)

# Культурна-асветніцкая функцыя народных чайных і народных дамоў у беларускіх губернях у канцы XIX — пачатку XX стст.

З 1894 года ў Расійскай Імперыі пачала рэалізоўвацца палітыка дзяржаўнай манаполіі на вытворчасць і продаж моцных алкагольных напояў, адначасова з гэтым дзяржава ўзяла курс на абмежаванне спажывання алкагольных напояў і барацьбу з п'янствам. З 1 ліпеня 1897 года ў Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай і Магілёўскай губернях, у выніку правядзення рэформы, былі створаны камітэты папячыцельства аб народнай цвярозасці. Іх асноўнай мэтай было правядзенне мерапрыемстваў па арганізацыі вольнага часу насельніцтва, абмежаванне празмернага п'янства, нагляд за нелегальным продажам алкаголю і прапаганда здаровага ладу жыцця. Губернскія камітэты папячыцельства аб народнай цвярозасці ствараліся пад кіраўніцтвам губернатараў, у іх падпарадкаванні знаходзіліся павятовыя камітэты на чале з мясцовымі прадвадзіцелямі дваранства. У склад камітэтаў уваходзілі прадстаўнікі фактычна ўсіх ведамстваў: царквы, сістэмы адукацыі і аховы здароўя, жандармерыі, суда і войска, чыноўнікі казённай, акцызнай і кантрольнай палат. Гэта давала камітэтам значныя магчымасці, але з іншага боку пераўтварала іх у бюракратычныя арганізацыі, члены якіх часцей за ўсё былі занятыя на асноўным месцы службы.

Асноўным відам устаноў папячыцельстваў аб народнай цвярозасці былі чайныя і народныя дамы. Колькасць чайных у беларускіх губернях была розная. Асабліва актыўна чайныя ствараліся ў першыя гады правядзення рэформы. Так, восенню 1898 года ў Віцебскім павеце было 7 народных чайных, а па губерні іх колькасць дасягнула да 50. У Магілёўскай губерні ў 1902 годзе налічвалася 128 чайных, 20 з якіх дзейнічала ў Аршанскім павеце[1]. У 1907 годзе ў Мінскай губерні налічвалася 22 чайных, Віленскай — 24, Віцебскай — 26, Магілёўскай — 31, Гродзенскай — 32[2]. Разам з падзеннем колькасці чайных, узра-

[1] С. В. Мяньчэня, *Арганізацыя работы чайных на Беларусі ў 1897-1914 гг. (па матэрыялах Віцебскай і Магілёўскай губерняў)*, [у:] *Научные труды Республиканского института высшей школы: Исторические и психолого-педагогические науки*, под ред. д. ф. н., проф. В. Ф. Беркова. В 2 частях, ч. 1, Минск 2014, с. 216.

[2] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ), фонд 2709, воп. 1, адз. з. 87, арк. 420.

стае колькасць народных дамоў. Гэтыя ўстановы былі падобныя на савецкія дамы культуры. У Магілёўскім народным доме размясцілася чайная, канцэртная зала на 500 месцаў, дзе праходзілі народныя спектаклі і чытанні, бібліятэка-чытальня, дзе дазвалялася як чытаць кнігі на месцах, так і браць на дом, начлежны прытулак на 5 пакояў з навесам для вазоў і коней. У садзе вакол дома арганізоўваліся народныя гулянні з феерверкамі, дзіцячымі гульнямі і выступленнем аркестраў[3].

Пры арганізацыі чайных быў выкарыстаны вопыт заходнееўрапейскіх кавярняў, якія паспяхова дзейнічалі ў Вялікабрытаніі, Германіі і Швецыі. Аднак замест кавы насельніцтву было вырашана прапанаваць чай, які каштаваў менш, карыстаўся большай папулярнасцю і нават лічыўся „нацыянальным напоем"[4].

Чайная павінна была стаць месцам, дзе можна было правесці вольны час, пагутарыць, дзе ў адрозненні ад дома людзі знаходзілі чысціню і камфорт. Акрамя арганізацыі продажу напояў і закусак, павінна была стаць месцам здаровага і карыснага адпачынку, дзякуючы настольным гульням, музычным інструментам, грамафонам, газетам і народным чытанням. Планавалася, што ў выпадку паспяховай дзейнасці народныя чайныя стануць фінансава самастойнымі ўстановамі і не будуць залежыць ад дзяржаўнай падтрымкі і прыватных ахвяраванняў. Поспехі дзяржаўных чайных прывялі б да ўзнікнення падобных прыватных устаноў. Як вынік, распаўсюджанне спажывання чаю павінна было прывесці да скарачэння спажывання алкаголю[5].

Мэтавай аўдыторыяй чайных лічыліся прадстаўнікі „простага народу" — сяляне і рабочыя. Разлічвалася, што заможныя людзі маюць магчымасць піць чай дома, і ў чайную дзеля гэтага не пойдуць. З гэтай нагоды, найбольш прымальным месцам для чайной у горадзе і мястэчку лічылася базарная плошча. У выпадку, калі чайная размяшчалася нават на суседняй вуліцы, тут назіралася рэзкае скарачэнне колькасці наведвальнікаў, у выніку чаго, чайная цярпела вялізныя страты[6].

На працягу дня асноўны кантынгент чайных складалі: з раніцы — рабочыя, вечарам — гандляры і рамеснікі, у базарныя дні з 12 да 16 гадзін — сяляне. Чайныя працавалі з 7 да 23 гадзін, напярэдадні святаў і святочных дзён да 18 гадзін, а ў святочныя дні з 12 гадзін[7].

[3] НГАБ, ф. 2296, воп. 1, адз. з. 5, арк. 56-57.
[4] *Значение чайных в борьбе с алкоголизмом*, Санкт-Петербург 1903, с. 10.
[5] Там жа, с. 13.
[6] НГАБ, ф. 2555, воп. 1, адз. з. 109, арк. 27.
[7] НГАБ, ф. 2709, воп. 1, адз. з. 2, арк. 65.

У абавязак сідзельцаў і загадчыкаў чайных уваходзіў падлік наведвальнікаў, што адлюстроўвалася ў штогадовых справаздачах.

Само памяшканне чайной павінна было дзяліцца на кухню, буфет, памяшканні для наведвальнікаў (белае і чорнае), асобныя памяшканні для пражывання сідзельцаў (адміністратараў) і прыслугі, калі яна мелася. Белае памяшканне прызначалася для больш заможных кліентаў, чорнае — для маламаёмных, акрамя таго тут дазвалялася курыць. Аднак на практыцы чайныя часцей размяшчаліся ў памяшканнях, дзе такі падзел быў немагчымы. Асобна вызначаўся і інтэр'ер памяшкання. Аклейка сцен шпалерамі лічылася надта непрактычнай з'явай, бо яны дастаткова хутка забруджваліся, што надавала памяшканню занядбаны выгляд, найбольш мэтазгодным лічылася пабелка сцен і фарбаванне панэляў. Сталы рэкамендавалася накрываць абрусам толькі ў белай частцы, астатнія ці аббіваліся кляёнкай, ці фарбаваліся пераважна ў шэры колер[8]. На сценах віселі іконы, партрэт імператара і карціны рознага зместу.

Наведваць чайную мог кожны з мэтай адпачыць, абагрэцца, схавацца ад дажджу, пры гэтым плата з яго не спаганялася, а персанал чайной не мог перашкодзіць гэтаму. Наведвальнікі чайных павінны былі паводзіць сябе ціха і сціпла, шум і лаянка забараняліся. Калі наведвальнік быў незадаволены дзейнасцю персаналу альбо якасцю прадуктаў, ён мог паскардзіцца загадчыку чайной, ці зрабіць запіс у кнігу скаргаў[9].

Прыбытак чайным павінен быў прыносіць продаж прадукцыі, аднак і тут надзеі арганізатараў не спраўдзіліся. Асартымент чайных не адрозніваўся разнастайнасцю і складаўся з чаю і халодных страў (часцей за ўсё булкі, баранкі і селядцы), акрамя гэтага чайныя ажыццяўлялі продаж тытуню, папярос, канцылярскіх тавараў і марак. Адна порцыя чаю ў сярэднім каштавала ад 4 да 6 капеек. Для параўнання, фунт сітнага хлеба каштаваў 3 капейкі, а за 6 капеек можна было набыць фунт ялавічыны другога гатунку[10]. Наведвальнік атрымліваў два чайнікі з кіпенем, 2-3 кавалкі цукру і пакет з чаем, запячатаны загадчыкам чайной. Прыгатаваць напой трэба было самастойна, буфетчыкам і сідзельцам заварваць чай кліентам катэгарычна забаранялася, каб пазбегнуць крадзяжу і падману кліента. Дадатковы цукар і чай павінны былі аплачвацца асобна[11]. Пры гэтым колькасць кіпеню і асоб на адну порцыю была неабмежавана і ў сярэднім складала 5-6

[8] НГАБ, ф. 2555, воп. 1, адз. з. 109, арк. 27адв.
[9] НГАБ, ф. 2555, воп. 1, адз. з. 113, арк. 141.
[10] «Двинский листок», 1900, 12 ноября, с. 4.
[11] НГАБ, ф. 2555, воп. 1, адз. з. 113, арк. 141.

чалавек. Прадугледжваўся таксама і продаж чаю кубачкамі за адну капейку, што было разлічана на бедных кліентаў і тых, хто не меў дастаткова часу.

Першапачаткова інтарэс насельніцтва да чайных, як да новай з'явы, быў дастаткова вялікі. Але асноўнае іх прызначэнне не зусім было зразумела. Так, у вёсцы Княжыцы Магілёўскага павета папячыцель Міхаіл Кадрэвіч арганізоўваў гутаркі з сялянамі аб карысці чаю і на першы раз частаваў іх за свой кошт[12]. З цягам часу народныя чайныя не вытрымлівалі канкурэнцыі з корчмамі і прыватнымі ўстановамі. Згодна з захаваўшыміся дадзенымі можна прасачыць дынаміку наведвання чайных у Магілёўскім павеце ў 1899-1905 гг.[13]:

| Год | Колькасць чайных | Агульная колькасць наведвальнікаў | Сярэдняя колькасць наведвальнікаў на 1 чайную |
|---|---|---|---|
| 1899 | 9 | 234 031 | 26 003 |
| 1900 | 10 | 300 961 | 27 360 |
| 1902 | 9 | 217 264 | 24 140 |
| 1903 | 9 | 183 919 | 20 435 |
| 1905 | 8 | 139 974 | 17 496 |

Большасць наведвальнікаў чайных складалі мужчыны. Жанчыны, занятыя хатняй гаспадаркай, публічныя месцы наведвалі не часта. Вясной і летам у час сельскагаспадарчых работ чайныя гублялі амаль усіх кліентаў, а некаторыя, каб не несці фінансавых страт, увогуле зачыняліся. Аднак і тыя, хто наведваў чайныя, вялікіх прыбыткаў не прыносілі. У справаздачы Чэрыкаўскага павятовага камітэта ў 1903 годзе пазначалася: «Главный элемент посетителей чайных составляют крестьяне, которые ходят в чайные для беседы и чтения, чаю требуют очень мало, из расчёта не тратить трудовую копейку на баловство, как они называют питьё чая»[14].

Калі ў справе распаўсюджвання чаю і замяшчэнні ім алкагольных напояў чайныя не дасягнулі вялікага поспеху, то ў галіне асветы і арганізацыі здаровага правядзення вольнага часу справа стаяла інакш.

[12] НГАБ, ф. 2296, воп. 1, адз. з. 1, арк. 24адв.

[13] С. В. Мяньчэня, *Установы Магілёўскага павятовага папячыцельства аб народнай цвярозасці (1897-1914 гг.)*, [у:] *Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць. Зборнік навуковых прац удзельнікаў IX Міжнар. навук. канф., 25-26 чэрвеня 2015 г., г. Магілёў*, уклад. А. М. Бацюкоў, І. А. Пушкін, Магілёў 2015, с. 128.

[14] *Отчёт о деятельности Могилёвского попечительства о народной трезвости за 1903 год*, Могилёв 1904, с. 10.

Кожны жадаючы мог бясплатна наведаць чайную з мэтай чытання газет і часопісаў, якія знаходзіліся тут у свабодным доступе. Наведвальнікі маглі азнаёміцца з мясцовымі губернскімі ведамасцямі і іншымі часопісамі і газетамі („Вокруг света", „Крестьянское хозяйство", „Русский паломник"), спіс якіх вывешваўся на сцяне. Асноўнай мэтай дадзеных выданняў было, як вызначалі ў Веліжскім павятовым камітэце: „предупреждение посредством, помещаемых в чайных патриотических изданий, дикой разнузданости простого населения уезда по политическому вопросу"[15]. На сценах чайной вывешваліся плакаты з правіламі гігіены і здаровага ладу жыцця, урадавыя пастановы (у чайных актыўна распаўсюджваліся матэрыялы, якія тлумачылі сэнс мерапрыемстваў рэформы Пятра Сталыпіна), рэкамендацыі па ўладкаванню гаспадаркі (карысць травасеяння, выкарыстання ўгнаенняў, замежны вопыт)[16]. Для наведвальнікаў тут знаходзіліся сталы для гульні ў лато і шашкі, музычныя інструменты. Былі грамафоны, паслухаць якія наведвальнікі прыходзілі ўсёй сям'ёй.

Пры чайных ствараліся бясплатныя бібліятэкі і чытальні, якія дазвалялі браць кнігі і перыядычныя выданні на абанемент, ці чытаць на месцы. Сярод рэкамендаваных выданняў для чытальняў была мастацкая літаратура, кнігі па гісторыі, геаграфіі, гаспадарцы, пажарнай бяспецы. Адміністрацыя чайных вяла ўлік чытачоў па прынцыпах узросту і веравызнання. Большасць чытачоў прадстаўлялі вучнёўскую моладзь, месцамі пераважалі яўрэі, што было абумоўлена спецыфікай гарадскіх паселішчаў беларускіх губерняў. Хрысціяне часцей за ўсё чыталі творы духоўнага зместу, кнігі, прысвечаныя сельскай гаспадарцы і перыядычныя выданні, яўрэі — кнігі па славеснасці, пажарнай бяспецы[17].

Цікавым фактам з'яўляецца знаходжанне тут беларускамоўных выданняў *Выбіраймася ў прочкі! Скарэй у Томск!* і *Слова аб праклятай гарэлцы і аб жыцці і смерці п'яніцы*. Выйшлі яны ў выглядзе ананімных гутарак, але па некаторых дадзеных можна з упэўненасцю назваць іх аўтарам беларускага краязнаўцу і гісторыка Аляксандра Ельскага (1834-1916). Першая брашура была прысвечана праблеме самавольнага перасялення ў Сібір, а вось *Слова аб праклятай гарэлцы...* (1900 г.) па сутнасці з'яўляецца першым антыалкагольным беларускім выданнем. Выданне складалася з дзвюх частак. Першая — „шчырая праўда" — прадстаўляе гістарычны экскурс аб з'яўленні і распаўсюджванні гарэлкі, палітыцы дзяржаўнай манаполіі і шкоднасці п'янства.

[15] НГАБ, ф. 2709, воп. 1, адз. з. 82, арк. 19.
[16] НГАБ, ф. 2296, воп. 1, адз. з. 8, арк. 3, 15.
[17] НГАБ, ф. 2709, воп. 1, адз. з. 61, арк. 48.

Вось як аўтар, для прыкладу, ацэньвае дзяржаўную палітыку „віннай манаполіі”: „былі пакасаваны у сіолах усе корчмы і заведзян так называемы „манаполь” казіонны, с цэлью штоб народ меў менш можнасці пьянстваваць, дурэць, губіць свае пажыткі, здароўя і душу”[18]. Але дадзеныя меры выклікалі зусім адваротную рэакцыю: „народ... як толькі уніклі корчмы, стаў піць бязабразна проста на уліцы, пры манаполях, стаў буяніць і гайдамачыць зверска, так, што часта ад таго бываюць крыміналы і калецтвы”[19]. Другая частка выдання — „казка” — верш аб жыцці і смерці п’яніцы, дзе п’янства вызначаецца як асноўная прычына занядбанасці гаспадаркі, беднасці і заўчаснай смерці:

„Сяло вышла у поля Юрью падзівіцца,
А іон тыц да шынку, каб на смерць запіцца.
Чэрці ж такі ўзялі да сваіога панства!
От які канец лайдацтва і пьянства!
Паслухайце людзі маю добру раду:
Няўлягайця ў чарку, калі робіць здраду!”[20]

Яшчэ адным накірункам культурна-асветніцкай дзейнасці стала правядзенне папячыцельствамі аб народнай цвярозасці народных чытанняў, месцамі правядзення якіх часта выступалі чайныя ці залі народных дамоў. Чытанні праводзіліся на разнастайную тэматыку і пры гэтым антыалкагольная тэматыка не была пераважнай. Для прыкладу, з 122 чытанняў, якія былі праведзены Віцебскім павятовым камітэтам папячыцельства аб народнай цвярозасці ў 1899 годзе, 48 былі чытаннем мастацкіх твораў, 46 мелі рэлігійны змест, 25 былі прысвечаны гістарычным падзеям, 13 — біяграфіям, 7 — геаграфічным звесткам, 3 — прыродазнаўству. З мастацкай літаратуры часцей за ўсё гучалі творы Аляксандра Пушкіна, Мікалая Гогаля і Усевалада Гаршына, гістарычная тэматыка ў асноўным датычылася асоб расійскіх імператараў і падзей расійскай гісторыі (Палтаўская бітва, вайна 1812 г. і інш.)[21].

Найбольшую цікавасць у насельніцтва выклікалі чытанні з „туманнымі карцінамі чароўнага ліхтара” (праектара), сюды людзі прыходзілі ўсёй сям’ёй і па некалькі разоў. Аднак зразумела, што наведваліся такія чытанні не столькі з-за цікаўнасці да інфармацыі, колькі з-за відовішча саміх чароўных ліхтароў. Але ўжо ў 1909 годзе Віцебскі

[18] А. І., *Слова аб праклятай гарэлцы і аб жыцці і смерці п’яніцы*, Пецярбург 1900, с. 4.
[19] Там жа, с. 5.
[20] Там жа, с. 9.
[21] НГАБ, ф. 2555, воп. 1, адз. з. 7, арк. 7, 29-30.

павятовы камітэт у сваёй справаздачы адзначаў, што правядзенне чытанняў немагчыма з прычыны недахопу сродкаў на набыццё новых камплектаў да чароўных ліхтароў, бо да старых карцін, як і да чытанняў насельніцтва згубіла ўсялякі інтарэс[22].

Якасць правядзення чытанняў і разнастайнасць іх тэматыкі залежала і ад асабістых якасцей, узроўню адукацыі і зацікаўленасці лектараў. У Мінску папулярнымі сярод насельніцтва былі лекцыі Мінскага таварыства дактароў па пытаннях гігіены, фізіялогіі і аховы здароўя[23]. Ахвотна наведвалі і чытанні аграномаў на сельскагаспадарчую тэматыку. Аднак часцей за ўсё лектарамі выступалі мясцовыя настаўнікі і святары, таму тэматыка была абмежавана сферай іх кампетэнцый. Акрамя таго чытанні праходзілі выключна на рускай мове, што змяншала аўдыторыю. Часам інфармацыя лектара не супадала з рэальнасцямі жыцця. Так апісвае „Наша Ніва" чытанне ў вёсцы Зубава Бельскага павета Гродзенскай губерні: „Поп паказваў лятарню чарадзейную (валшэбную), дзе былі абразы з святога жыцця. Потым пачытаў кніжку аб тым, як трэба гаспадарыць па-новаму. Мужыкі паслухаўшы казалі: дайце нам па 66 дзесяцін зямлі, дык мы ўжо патрапім гаспадарыць, беда толькі, што ў нас па 2 дзесяціны ўсяго, дык тут не пагаспадарыш"[24].

Дзеля павышэння якасці чытанняў Мінскі павятовы камітэт прапаноўваў арганізаваць плату настаўнікам за адно чытанне ў памеры 2 рублёў, аднак з-за недахопу фінансавання прапанова была перагледжана, і аплачваліся толькі тыя чытанні, што суправаджаліся выступленнем народных хароў[25]. Арганізацыя народных хароў лічылася вельмі важнай састаўной здаровага вольнага часу: „стройное хоровое пение всегда привлекает много слушателей... особенно важно здесь [*на тэрыторыі Беларусі — С. М.*], где есть костёлы с их органами"[26]. У гэтай справе лідарства належала Мінскай губерні, якая па колькасці хароў займала другое месца па імперыі, саступаючы толькі Пермскай[27]. Удзельнікі хароў выступалі пад час народных чытанняў, багаслужэнняў, урачыстых мерапрыемстваў.

Народныя дамы давалі магчымасць праявіць сабе аматарам тэатральнага мастацтва і азнаёміць з ім мясцовае насельніцтва, пераважнай большасці якога тэатр быў недаступны з прычыны вялікай адлег-

22 НГАБ, ф. 2555, воп. 1, адз. з. 239, арк. 1.
23 «Двинский листок», 1901, 25 дек., с. 3.
24 «Наша Ніва», 1908, № 3, с. 6.
25 НГАБ, ф. 132, воп. 1. адз. з. 5, арк. 26.
26 НГАБ, ф. 132, воп. 1, адз. з. 5, арк. 25-26.
27 *О роли попечительств о народной трезвости в борьбе с народным пьянством*, Петербург 1910, с. 9.

ласці ці высокіх коштаў на квіткі. У Магілёўскім народным доме тэатральная трупа складалася з аматараў, якія гралі бясплатна, адзіным прафесіяналам быў рэжысёр, прафесійны акцёр Падбярэскі. Квіткі на спектаклі каштавалі ад 7 да 80 кап., аднак публіка ў асноўным выкупляла толькі танныя квіткі, астатнія высылаліся ў выглядзе запрашэнняў. У антракце публіку забаўляў духавы аркестр з мясцовага сіроцкага дома[28]. Сцэны народных дамоў з'яўляліся пляцоўкамі для выступу і гастралюючых труп. Менавіта на сцэне Дзісненскага народнага дома ў жніўні 1910 года адбылося першае на тэрыторыі сучаснай Беларусі выступленне трупы Ігната Буйніцкага: „Дзісна не помніць такога збору народу. Інтэлігенцыя і просты народ усе шчыра віталі беларусаў; магучая ідэя нацыянальнага адраджэньня гарачымі праменьнямі сваімі ўсіх з'яднала, разварушыла застыгшыя сэрцы, заіскрыла выцьвяўшы ад сьпекі вочы і першае роднае слова са сцэны вітана было не аднэй сьлязой"[29].

Чайныя і народныя дамы з'яўляліся месцам правядзення ўрачыстасцей з нагоды святкавання 50-годдзя скасавання прыгоннага права (1911), 100-годдзя вайны з Напалеонам (1912), 300-годдзя дынастыі Раманавых (1913). З гэтай нагоды арганізоўваліся тэматычныя чытанні і раздача памятных лісткоў і брашур. Ладзіліся тут і дабрачынныя акцыі — латарэі на карысць бедных жыхароў (Дзісненская чайная ў 1909 годзе)[30], святкаванні Раства Хрыстова для навучэнцаў мясцовых школ і дзетак з маламаёмных сямей з раздачай падарункаў, выступленнямі фокуснікаў і дэманстрацыяй грамафона. Моладзь у чайных праводзіла танцавальныя вечары, запрашаючы музыкаў за свой кошт[31].

У Люцынскай гарадской чайнай у 1901 годзе ажыццяўлялася бясплатная раздача чаю жабракам. Мясцовымі ўладамі быў паказаны спіс з 15 самых бедных хрысціян, якія ў асенне-зімовы перыяд маглі атрымаць 2 шклянкі чаю штодня, аднак Віцебскі губернскі камітэт не толькі не пагадзіўся ўзяць такі прыклад, але і забараніў бясплатную раздачу, каб пазбегнуць хваляванняў[32]. У шэрагу чайных Віцебскай губерні (Віцебск, Рэжыца) была арганізавана бясплатная юрыдычная дапамога насельніцтву. Тут давалі кансультацыі па пытаннях зямельных спрэчак, перасялення ў Сібір, прызыву ў войска[33]. Але дадзеная практыка была асабістай ініцыятывай асобных сяброў папячыцельства аб народнай цвярозасці і шырокага распаўсюджвання не атрымала.

[28] НГАБ, ф. 2296, воп. 1, адз. з. 5, арк. 56.
[29] «Наша Ніва», 1910, № 35.
[30] «Наша Ніва», 1909, № 35-36.
[31] НГАБ, ф. 2709, воп. 1, адз. з. 79, арк. 3.
[32] НГАБ, ф. 2709, воп. 1, адз. з. 61, арк. 96
[33] НГАБ, ф. 2709, воп. 1, адз. з. 79, арк. 224адв.

Вялікія выдаткі на ўтрыманне чайных, скарачэнне дзяржаўнага фінансавання папячыцельстваў аб народнай цвярозасці прывялі да паступовай ліквідацыі народных чайных і дамоў. Ролю, якую яны гралі ў жыцці насельніцтва, можна вызначыць па наступных дакументах. Прывядзем вытрымку з ліста калежскага асэсара Івана Дуброўскага ў Віцебскі павятовы камітэт аб народнай цвярозасці з нагоды закрыцця чайной у горадзе Сураж: „от христианского населения заштатного города Суража имею честь почтительно просить Витебский уездный комитет (...) не закрывать в Сураже народной чайной, оказавшей населению пользу отрезвлением, просвещением (...) возможностью обогреться (...) отвлечься от скуки и поучиться чему-либо доброму и полезному. Трезвое же и просвещённое население более способно и к угождению Богу, и к исправному отбытию государственных повинностей, что в общем вполне способно пополнить государственному казначейству быть может получаемый какой-либо сравнительный недобор”[34]. Сама мэтавая аўдыторыя чайных — сялянства — таксама бачыла плён у захаванні дадзеных устаноў. Сяляне Круглянскай воласці Магілёўскага павета, звяртаючыся да губернатара з нагоды закрыцця чайной у сакавіку 1906 года, пазначалі: „закрыть чайную, значит лишить нас духовной пищи и света и отдать в руки евреев (...) снова будем искать убежища в еврейских притонах, где нас будут обдирать. Было так хорошо: зайдешь в чайную, увидишь здесь святую икону, послушаешь чтения, которые здесь проводятся и с удовольствием идешь домой”[35].

Такім чынам, народныя чайныя і дамы папячыцельстваў аб народнай цвярозасці павінны былі стаць цэнтрамі культурнага жыцця і адукацыі насельніцтва і садзейнічаць абмежаванню спажывання алкаголю, але гэтыя мэты не супадалі з рэчаіснасцю. Па-першае, гэтыя ўстановы павінны былі стаць фінансава самастойнымі пры аказанні шэрагу бясплатных паслуг і нізкім узроўні жыцця мэтавай аўдыторыі. Па-другое, ігнараваліся этна-канфесійныя асаблівасці Беларусі, адукацыя і асвета насіла афіцыйна рускі характар, колькасць чытанняў і выданняў на беларускай мове была абмежавана. Па-трэцяе, ігнаравалася прыватная ініцыятыва, а бюракратызацыя працэсу прывяла да спынення дзейнасці большасці чайных. Па-чацвёртае, чайныя і народныя дамы ў асноўнай сваёй масе не маглі даць насельніцтву нічога акрамя „духоўнай ежы” і не вытрымалі канкурэнцыі з боку піцейных устаноў, дзе адпачывалі са значна меншай карысцю „і душой, і целам”.

[34] НГАБ, ф. 2555, воп. 1, адз. з. 146, арк. 28.
[35] НГАБ, ф. 2296, воп. 1, адз. з. 4, арк. 17.

**Summary**
**The cultural and educational function of tea-houses and community centres in the Belarusian governorates at the turn of the 20th century**

The article is devoted to cultural and educational activities of tea-houses and community centres run by committees supporting citizens' sobriety. The facilities offered access to periodicals and published government regulations, provided leisure activities, organized libraries and reading rooms, as well as public readings and charity events. The author emphasizes that the goals of the tea-houses and community centres were not achieved due to insufficient funding, bureaucracy, inadequate legislation and people's illiteracy, as a result of which most of those institutions were closed down.

**Streszczenie**
**Kulturalno-oświatowa funkcja herbaciarni i domów ludowych w guberniach białoruskich w końcu XIX i na początku XX w.**

Artykuł dotyczy działalności kulturalno-oświatowej herbaciarni i domów ludowych prowadzonych przez komitety popierania trzeźwości ludowej. Placówki te proponowały ludności dostęp do prasy, w tym urzędowej, zapewniały pożyteczne spędzanie czasu, organizowały biblioteki i czytelnie, urządzały wspólne czytania i przedsięwzięcia dobroczynne. Autor podkreśla, że postawione przed herbaciarniami i domami ludowymi cele nie zostały osiągnięte z powodu niedostatecznego finansowania, biurokracji, niedoskonałości prawa, analfabetyzmu ludności, co z kolei doprowadziło do likwidacji większości tego rodzaju placówek.

**Siarhiej Miańčenia** — starszy wykładowca w Katedrze Dyscyplin Społeczno-Humanistycznych Białoruskiego Państwowego Uniwersytetu Rolniczo-Technicznego w Mińsku. Zainteresowania badawcze: historia najnowsza Białorusi.

**Oleg Łatyszonek**
(Białystok)

# Ihnat Abdzirałovič i początki białoruskich rozważań nad przynależnością cywilizacyjną swojego kraju

Położenie Białorusi na pograniczu chrześcijańskiego Wschodu i Zachodu, uosabianych przez Bizancjum i Rzym, a sprowadzanych zazwyczaj do wymiarów Rosji i Polski, stanowiło i stanowi dla Białorusi poważny problem kulturowy i polityczny, a także wyzwanie dla białoruskich historiozofów. Zgodnie bowiem z teorią wielości cywilizacji, są one dla siebie wzajemnie nieprzetłumaczalne, a konwergencja między nimi jest niemożliwa. Dlatego też dzieje białoruskiej myśli narodowej to w znacznej części historia prób zrozumienia i przezwyciężenia dzielących Białorusinów różnic wyznaniowych i kulturalnych.

Podwaliny koncepcji wielości cywilizacji położył rosyjski uczony Nikołaj Danilewski, a nim znalazła odzwierciedlenie w myśli białoruskiej, rozwinęli ją twórczo Konstanty Leontiew i Oswald Spengler.

Nikołaj Danilewski w swoim klasycznym dziele *Rosja a Europa* odrzucił pojęcie wspólnych dziejów ludzkości. Wyróżnił typy historyczno-kulturowe, których rozwojem miało rządzić pięć praw: pokrewieństwo językowe, konieczność niepodległości politycznej, nieprzekazywalność cywilizacji, różnorodność i siła elementów składowych typu (federacja państw) oraz krótkość okresu rozkwitu cywilizacji. Poprzez wydzielenie typów kulturowo-historycznych Danilewski stworzył prototyp klasycznej teorii wielości kultur. Europa była w jego oczach polem zmagań dwóch takich typów: romano-germańskiego i najmłodszego — słowiańskiego. Według rosyjskiego uczonego Białorusini należą rzecz jasna do słowiańskiego typu historyczno-kulturowego. Rosyjski uczony zaliczał „plemię” białoruskie, obok wielkoruskiego i małoruskiego (czyli ukraińskiego), do aktywnych obywateli Rosji, utożsamiających się z tym państwem. Polaków natomiast uważał za element temu państwu wrogi[1]. Przyczynę tej wrogości upatrywał w złym wpływie duchowieństwa katolickiego i szlachty na lud polski. Mimo iż poddany przemożnemu wpływowi kultury zachodnioeuropejskiej, Polak zdaniem Danilewskiego nie mógł stać się prawdziwym Europejczykiem, a jedynie zepsutym Słowianinem[2]. Tak więc Polska to według niego odwieczna zdrajczyni Słowiańszczyzny, a szlachta na wszelkie sposoby dąży do przywrócenia swojego panowania nad milionami ruskiego ludu,

[1] Н. Я. Данилевский, *Россия и Европа*, Москва 1991, с. 410.
[2] Tamże, s. 395.

w ogóle nie przejmując się głoszoną przez samą siebie zasadą narodowości. Ze wszystkich krajów słowiańskich tylko Polska może liczyć na przychylność Europy, bo jest obrazem tego, jak Europa chciałaby przerobić innych Słowian, by ich zniewolić[3].

W związku z powyższym Danilewski widział konieczność wyparcia polskich wpływów z zachodnich obszarów Cesarstwa Rosyjskiego, a więc i z Białorusi[4]. Na ogół sprawa polska była dla Danilewskiego najtrudniejszym problemem w konstruowaniu wymarzonego przezeń Związku Wszechsłowiańskiego, który miał być państwową emanacją cywilizacji słowiańskiej. W jego pismach brak ostatecznego rozwiązania tej kwestii[5].

Wielki krytyk Danilewskiego, Konstantin Leontiew, uważał, że wspólnota słowiańska jest mało istotna w porównaniu ze wspólnotą wyznaniową wschodniego chrześcijaństwa — bizantyńską. O Białorusi nie wspomina w ogóle, ale pewne wnioski można wysnuć z jego wypowiedzi o „Małorosji" (czyli Ukrainie). O dziwo, „Małorosja" jest dla niego osobnym krajem, a „Małorossowie" — cudzoziemcami, tak jak Niemcy, Anglicy czy Turcy[6]! Niemniej jednak ci „Małorossowie" dowiedli jego zdaniem, że wolą zjednoczenie z Rosją niż związek z Polską, mimo wielu polskich cech w ich kulturze materialnej i duchowej[7]. Zapewne to samo powiedziałby o Białorusinach.

Oswald Spengler wyłożył swój pogląd na historię w dziele *Zmierzch Zachodu*. Jego idee są na tyle bliskie pomysłom Danilewskiego, że można domniemywać inspirację ze strony rosyjskiego myśliciela, chociaż w swoim dziele do jego koncepcji się nie odwołuje[8]. Typom kulturowo-historycznym Danilewskiego odpowiadają u Spenglera wielkie kultury, wzajemnie nieprzenikliwe. Oryginalnym pomysłem Spenglera jest rozróżnienie pojęć kultury i cywilizacji. Kultura to według niego pierwotny, twórczy okres życia społecznego organizmu, czas religii, tradycji, rycerskiego etosu, poszanowania wyższego autorytetu. Po okresie kultury następuje cywilizacja, okres, w którym zaczyna dominować nauka, postęp, militaryzm i kult rozumu. O ile energia człowieka kultury skierowana była do wewnątrz, energia człowieka cywilizacji kieruje się na zewnątrz, a jego działania dominuje pogoń za zyskiem i dobrami materialnymi. Mimo tej zewnętrznej krzątaniny, w rzeczywistości mamy do czynienia ze stagnacją kultury.

[3] Tamże, s. 321.

[4] Tamże, s. 390-395.

[5] J. Diec, *Cywilizacje bez okien. Teoria Mikołaja Danilewskiego i późniejsze koncepcje monadycznych formacji socjokulturowych*, Kraków 2002, s. 97.

[6] К. Н. Леонтьев, *Византизм и славянство*, [w:] *Россия глазами русского. Чаадаев, Леонтьев, Соловьев*, отв. ред. и автор вступ. статьи А. Ф. Замалеев, Санкт-Петербург 1991, с. 183.

[7] Tamże, s. 216.

[8] A. Kołakowski, *Spengler*, Warszawa 1981, s. 20-21.

Zdaniem Oswalda Spenglera, Zachód rozciągał się od Warszawy do San Francisco[9]. „Po tamtej stronie Wisły" rozpościerał się Wschód[10]. Poprowadzenie przez Spenglera granicy Zachodu i Wschodu po Wiśle można złożyć na karb jego klasycznego wykształcenia. W zasadzie jednak szło mu tylko o to, że „od Polski po Amur" rozpościerała się w jego przekonaniu Rosja[11]. Granica między tymi krajami była przy tym według Spenglera granicą nie dwóch narodów, lecz dwóch światów. Podczas gdy na Zachód padał już cień zmierzchu, ponieważ wszedł w okres cywilizacji w XVIII w., rosyjskość była dopiero zapowiedzią kultury, gdyż początek kultury rosyjskiej filozof wyznaczał na koniec XV w. Kultura rosyjska byłaby więc jedyną żywą kulturą na świecie, gdyż inne niż Zachód kultury były jeszcze starsze. Na swoje nieszczęście kultura rosyjska została poddana pseudomorfozie. Pod tym terminem Spengler rozumiał wpływ starszej kultury na młodszą, jeszcze nie ukształtowaną, której starsza narzuca obcy jej język formy. W wypadku Rosji chodzi rzecz jasna o wpływ Zachodu, poczynając od reform Piotra I po bolszewizm[12].

Rosjan w ogóle nie uważał za naród, jak niemiecki czy angielski; jego zdaniem zawierali w sobie możliwości wielu przyszłych narodów, niczym Germanie z czasów Karolingów[13]. Tak więc Białorusini byliby dla Spenglera (gdyby o nich słyszał) możliwością narodu w ramach wielkiej kultury rosyjskiej. Jako tacy, należeliby w klasyfikacji Spenglera do ludów „kolorowych", tak jak i reszta mieszkańców Rosji[14].

Ogólnie można stwierdzić, że uznając w zasadzie przynależność Białorusi do cywilizacji wschodniej (słowiańskiej, bizantyńskiej czy rosyjskiej), zauważano obecność na jej terytorium elementów kultury zachodniej, łacińskiej w związku z historycznym rozprzestrzenieniem się katolicyzmu.

Białoruskie rozważania nad własną tożsamością na początku XX w. sprowadzały się do określania swojego miejsca pomiędzy Polską a Rosją, wykorzystującymi do własnych celów katolicyzm i prawosławie. W zgodnej opinii badaczy białoruskiej myśli narodowej właściwe dociekania tożsamości Białorusinów zapoczątkowali Ihnat Kančeŭski i Uładzimir Samojła[15].

[9] O. Spengler, *Duch pruski i socjalizm*, [w:] Tenże, *Historia, kultura, polityka. Wybór pism*, wybór i wstęp A. Kołakowski, przekł. A. Kołakowski i J. Łoziński, Warszawa 1990, c. 155.

[10] Tenże, *Powinności polityczne młodzieży niemieckiej*, [w:] Tenże, *Historia...*, s. 244.

[11] Tamże, s. 244.

[12] Zob.: O. Spengler, *Zmierzch Zachodu. Zarys morfologii historii uniwersalnej*, skrót H. Werner, przełożył i przedmową opatrzył J. Marzęcki, Warszawa 2001, s. 302-306.

[13] O. Spengler, *Duch...*, s. 228.

[14] Tenże, *Pesymizm?*, [w:] Tenże, *Historia...*, s. 80-82.

[15] Zob.: В. Акудовіч, *Сучасная беларуская філасофія: гісторыя паўставаньня*, сайт «Беларускі Калегіюм», дата доступу: 16.10.2016, <http://old.belcollegium.org/antalohija/art02.htm>; У. Конан, *Беларуская нацыянальная ідэя: трады-*

Ihnat Kančeŭski opublikowal w 1921 r. pod nazwiskiem Ihnat Abdziraŀovič broszurę pt. *Odwiecznym szlakiem. Badanie białoruskiego światopoglądu*[16]. Kančeŭski był człowiekiem bardzo młodym — urodził się w 1896 r. w Wilnie. Jego ojciec Włodzimierz był sekretarzem okręgowego sądu wojskowego. Tutaj też Ihnat ukończył w 1913 r. szkołę realną. Studiował w petersburskim Instytucie Technologicznym, ale bardziej interesowały go literatura i filozofia, przyłączył się także do białoruskiego ruchu narodowego. Przeniósł się do Moskwy i podjął studia na wydziale historyczno-filologicznym Uniwersytetu Moskiewskiego. W czasie pierwszej wojny światowej w 1916 r. powołano go do wojska; po szkole wojskowej w stopniu chorążego (*praporszczika*) walczył na Froncie Rumuńskim. W czasie rewolucji lutowej znalazł się na Ukrainie. Był zwolennikiem programu partii socjalistów-rewolucjonistów (eserów). Jesienią 1917 r. Kančeŭski wstąpił na wyższe kursy kooperatywne przy Ludowym Uniwersytecie im. A. Szaniawskiego w Moskwie. Po ich ukończeniu pracował w związku hodowców lnu w Smoleńsku, a po proklamowaniu Białoruskiej SSR — w Mińsku jako instruktor w Radzie Rolnictwa Ludowego, a później w centralnym Związku Spożywczych Towarzystw Białorusi. Po zajęciu Mińska przez Polaków przeniósł się do Wilna, chociaż na początku 1920 r. władze Mińskiego Białoruskiego Instytutu Pedagogicznego oferowały mu posadę wykładowcy. W Wilnie Kančeŭski był członkiem Białoruskiego Towarzystwa Naukowego, prowadził też uczniowskie kółko geograficzne w Gimnazjum Białoruskim. Założył również białoruskie kółko jogi. Publikował w białoruskiej prasie swoje wiersze i artykuły. Zmarł na suchoty na początku 1923 r.[17]

Pseudonim Abdziraŀovič, pod którym przeszedł do historii białoruskiej filozofii i literatury, Kanczeŭski wziął z powieści Maksima Hareckiego „Dwie dusze" — tak nazywał się jej bohater, rozdarty między białoruskością a rosyjskością.

*цыі, сучасныя праблемы і прагнозы на будучыню*, [w:] *Матэрыялы канферэнцыі «Беларуская нацыянальная ідэя» (Гародня, 18-19 красавіка 1999 г.)*, сайт «Беларусь — Наша Зямля», дата доступу: 15.10.2016, <http://nashaziamlia.org/2006/04/23/58/>; Г. Клімовіч. *Беларускі філасофскі ландшафт першай паловы XX стагоддзя*, «Вестник Полоцкого государственного университета, серия E: Педагогические науки. Философия», 2014, № 15, с. 76.

16 І. Абдзіраловіч, *Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветагляду*, Вільня 1921, Львоў 2007; сайт «Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка Kamunikat.org», <kamunikat.org/download.php?item=3584-2.pdf>; І. Абдзіраловіч, *Адвечным шляхам: Дасьледзіны беларускага сьветагляду*, прадм. С. Дубавец, Мінск 1993. W języku polskim fragment zob.: I. Kanczeuski, *Odwiecznym szlakiem*, przeł. Cz. Seniuch, „Krasnogruda", 2000, nr 12, s. 207-210.

17 С. Ф. Дубянецкі, *Канчэўскі Ігнат*, [w:] *Беларуская энцыклапедыя*, т. 8, Мінск 1999, с. 16; *Myśl białoruska XX wieku. Filozofia, religia, kultura (Antologia)*, wybór tekstów, wstęp i opr. J. Garbiński, Warszawa 1988, s. 73.

*Odwiecznym szlakiem* Kanczeŭskiego-Abdzirałoviča to esej filozoficzny[18]. Według jego autora białoruskość przyjmowana jest zazwyczaj jako coś bardzo niewyraźnego. Białoruski filozof w zasadzie zgadza się z takim określeniem. Jego zdaniem przyczyną tego, że lud białoruski nie stworzył wyraźnej kultury, jest „tragedia ducha", którą obok Białorusinów przeżyły tylko nieliczne europejskie narody — Białoruś od X wieku do czasów współczesnych autorowi była faktycznie polem walki dwóch kierunków europejskiej kultury: wschodniego i zachodniego. „Granica obu wpływów, dzieląc Słowiańszczyznę na dwa obozy, przechodzi przez Białoruś, Ukrainę i kryje się w krajach bałkańskich"[19]. Nie jest to jednak granica ciągła — jego zdaniem Wschód i Zachód toczą ze sobą nieustającą walkę w duszy Białorusina. Kierunki te Abdzirałovič nazywa też typami kulturowymi, niewątpliwie wzorując się na Danilewskim.

Wschód, inaczej Bizancjum, Abdzirałovič utożsamia właściwie ze wschodnią Słowiańszczyzną. Za najbardziej charakterystyczną cechę Słowian Wschodnich uznaje skłonność do skrajności, wyrazistości, określoności. Słowianie ci nie lubią zaś niczego połowicznego; wiecznie szukają jakiejś ogólnej, jednolitej formy. Wykutą według bizantyńskiego wzoru moskiewską państwowość cechuje skłonność do wyraźnej jednoczącej formy, do ostatecznego i bezwarunkowego wprowadzenia jej w życie, która przejawia się w idei jedynej władzy politycznej, wcześniej znajdującej wyraz w haśle „Cała władza w ręce cara", a w czasach współczesnych autorowi — „Cała władza w ręce Rad". Człowiek Wschodu uważa, że jego życie powinno mieć określony sens, że ukrywa się w nim jakaś jedynie prawdziwa istota, którą właśnie trzeba określić. Z tej przyczyny na Wschodzie nie mogą istnieć obok siebie dwie przeciwstawne idee. Jakakolwiek walka na Wschodzie trwa aż do zupełnego wytępienia przeciwnika, a ustępstw nie czyni się nawet w najmniejszych drobiazgach.

Zupełnie inne stosunki właściwe są według białoruskiego filozofa Zachodowi. Tutaj po walkach dochodzi do uspokojenia i współżycia. Podstawą europejskich stosunków jest mianowicie kompromis. Kultura Zachodu wyrosła w walce ze skrajnymi prądami, które chciały opanować życie całkowicie. I tak katolicyzm zrodził mnóstwo wyznań protestanckich; nie zdołano też zrealizować idei Świętego Imperium, które rozpadło się na kilka różnych państw. Nawet europejski socjalizm musiał się pogodzić z kapitalizmem. Taki jest los na Zachodzie każdej szerokiej idei, która chciałaby objąć wszelkie aspekty życia; na Zachodzie taką ideę zetrą, skrócą, obwa-

[18] Т. Слінка, *Праблема беларускай ідэнтычнасці ў тэксце Ігната Абдзіраловіча „Адвечным Шляхам"*, Мінск 2005, сайт «Беларускі Калегіюм», дата доступу: 15.10.2016, <http://old.belcollegium.org/lekcyji/litaratura/slinka01.htm>.

[19] І. Абдзіраловіч, *Адвечным...*, Вільня 1921, Львоў 2007, с. 3-4.

rują tysiącami kompromisów. W życiu politycznym, w przeciwieństwie do Wschodu, gdzie władza ma być w jednych rękach, czy to cara, czy to klasy, na Zachodzie władza jest podzielona między panujące klasy, lecz nikt nie ma pełnej władzy i nikt nie jest całkowicie jej pozbawiony. To samo dotyczy siły ekonomicznej, i własności nie jest pozbawiony nawet proletariat, co jest zupełnie niemożliwe na Wschodzie. Zdaniem autora nawet taka umiarkowana amerykańska idea jak Liga Narodów poniosła klęskę, bo w Europie wydawała się zbyt radykalna. Z tego wypływa rozpylenie życia, istnienie wielu osobnych, niczym niezwiązanych cząstek.

Autor dostrzega jednak, że określoność obu kulturowych typów wraz z upływem czasu bardzo się popsuła w wyniku wymieszania i współcześnie trudno mówić o istotnej różnicy między bizantynizmem i latynizmem, mimo zachowania widocznej odrębności.

Zdaniem Abdzirałoviča, przez długie wieki Białorusini stali na rozdrożu. Wahanie między Wschodem a Zachodem i szczery brak przychylności do jednego i drugiego to podstawowa cecha historii narodu białoruskiego. Białorusini tylko z formy byli katolikami lub prawosławnymi. Szukali nowego wyrazu w reformacji, ale ta szybko przeminęła, nie wywierając większego wpływu. Tylko najgorsze elementy narodu, wcześniej szlachta, a później część inteligencji, oderwały się od ludu, który zaczął żyć własnym życiem, kierując się ideałami i przekonaniami swej dawnej pogańskiej wiary.

Za postaci archetypiczne w białoruskich dziejach filozof uważa połockiego władcę Wsiesława Czarodzieja, budowniczego soboru św. Sofii, jednocześnie uchodzącego za wilkołaka. Przychylność do starej pogańskiej wiary spowodowała, że w XIII w. Białoruś złączyła się z pogańską Litwą. Z czasem jednak białoruska niewyraźność i wahanie stały się fatalne. Co ciekawe i bardzo rzadkie w białoruskiej nauce i publicystyce, za najbardziej odpowiedzialnego za ten fatalny obrót spraw uważa wielkiego księcia litewskiego Witolda. Brak pozytywnej polityki w stosunku do białoruskiej arystokracji i ludu doprowadziły w końcu do sukcesu Moskwy, która z pomocą bizantyńskiej kultury i przynależnej do niej idei samowładztwa stworzyła potężne państwo i wygrała ostatecznie z Litwą-Białorusią walkę o zjednoczenie „całej Rusi". Białoruś straciła niepodległość państwową i możliwość wyrażenia swojego kulturalnego oblicza. Jak zauważa filozof, wahaniom tym zaczyna towarzyszyć „błądzenie po naszym kraju granicy państwowej"[20], przesuwającej się ze wschodu na zachód i z powrotem (warto przypomnieć w tym miejscu, że esej Kančeŭskiego powstał tuż po traktacie ryskim 1921 r., dzielącym Białoruś między Polskę i bolszewicką Rosję).

[20] Tamże, s. 6.

Jako przykład doprowadzania przez Wschód do absurdu jednakowej formy Abdzirałovič podaje dążenie do całkowitego „zmoskalenia" Białorusinów. Według niego rusyfikatorzy nie rozumieli, że wraz z białoruskością Białorusini tracą „lepszą część człowieczeństwa"[21]. Ratunku oczekiwali Białorusini od Zachodu. Co prawda, stwierdza autor, najbliższym Zachodem byli dla nich Polacy, którzy nadali zachodnim wpływom specyficzny, słowiański charakter. Polska nie wierzy jednak w swoje słowiańskie przeznaczenie, a jej mesjanizm jest ukształtowany na wschodnie kopyto, gdyż jego twórcą jest Białorusin z pochodzenia — Mickiewicz. Mickiewiczowski mesjanizm był tylko sztuczną ozdobą na bardzo od niego dalekiej, lecz zrozumiałej dla prawdziwego Polaka „idei jagiellońskiej", sprowadzonej do marzeń o Polsce „od morza do morza"[22]. Tak więc ani zachodnia, ani wschodnia kultura nie zapewnią wolnego rozwoju białoruskiego ducha, bo zwracają się doń w formie gwałtownego, ludożerczego wręcz mesjanizmu. Wolną twórczość we wszystkich dziedzinach życia może zapewnić Białorusinom tylko stworzenie własnych, białoruskich form życia. Duch narodowy zawsze jest mocniejszy i czystszy wśród narodów uciskanych. Wraz z początkiem realizacji własnej państwowości, wraz z jej uciskiem duch narodowy jest postponowany, albo całkiem ginie, jak na przykład w Rosji czy Polsce. Należy więc stanowczo unikać niebezpieczeństwa stworzenia własnego, białoruskiego mesjanizmu.

Dziesięciowiekowe wahania świadczą zdaniem Abdzirałoviča o tym, że Białorusini, Ukraińcy i Słowianie bałkańscy nie potrafili przyłączyć się ani do wschodniego, ani zachodniego kierunku kulturowego. Z tej też przyczyny, konstatuje autor, uchodzą za „narody dzikie".

Białoruski filozof widzi możliwość ratunku dla swojego narodu w upadku tego, co dotychczas uważane było za „kulturę", a przez to zdjęciu z narodu białoruskiego odwiecznych łańcuchów i wyzwolenia duszy Białorusina. Naród białoruski powinien wstąpić, czy też raczej powrócić na „szlak Skaryny". Franciszek Skaryna z Połocka na początku XVI w. przetłumaczył i wydał białoruską Biblię, występował przy tym jako chrześcijanin, a nie katolik czy prawosławny. Jego wyznanie długo budziło kontrowersje, chociaż dziś można stwierdzić z całą pewnością, że był pierwszym katolikiem w prawosławnej rodzinie[23]. Zdaniem Abdzirałoviča, szlak Skaryny powi-

[21] Tamże, s. 10.

[22] Określenie „od morza do morza" Abdzirałovič podał w polskim oryginale. Tamże, s. 11.

[23] Wszelkie wątpliwości w tej sprawie, których źródłem było przypisanie Skarynie imienia Jerzy (*Georgius*) w jednym z dokumentów, długo znanym tylko z kopii, rozwiał J. Halenczanka, publikując oryginał dokumentu, w którym Skaryna występuje nie jako *Georgius*, lecz jako *egregius*, Г. Галенчанка, *Канец застарэлага міфу: новы дакумент пра Скарыну*, [w:] *Полацк: карані нашага радавода. По-*

nien doprowadzić Białorusinów do zbudowania nowego ogólnoludzkiego ideału. Fragmenty eseju odnoszące się do potencjalnej, własnej białoruskiej formy twórczej pracy we wszelkich dziedzinach są najsłabsze. Zapewne przyczyną była niechęć autora do formy jako takiej, z czego wypływała jego deklarowana wprost przychylność dla anarchizmu. Jako jedyny znany sobie przejaw jednoczenia się wolnych jednostek w dziejach białoruskiego i ukraińskiego chłopstwa Abdziraŀovič wskazuje Sicz Zaporoską, którą uważa za rodzaj bractwa rycerskiego. Żałuje też, że w czasach wszechwładnego państwa takie bractwo nie może istnieć. Tak więc współczesnym sposobem łączenia się wolnych jednostek miał być ruch spółdzielczy, w który autor był osobiście zaangażowany.

Największy wpływ na Abdziraŀoviča wywarł Nietzsche, od którego przejął takie idee, jak przewartościowanie starych ideałów, „stworzenie własnych form życia", sprzeciwienie się przymusowi w jakichkolwiek przejawach i życia jako największej wartości. Historiozofia Abdziraŀoviča pochodzi przede wszystkim od Nikołaja Danilewskiego, Konstantina Leontiewa i Oswalda Spenglera. Niemniej jednak, jak twierdzi białoruska badaczka Taciana Ślinka, dla białoruskiego filozofa nie do przyjęcia okazał się europejski pesymizm Spenglera, rosyjsko-bizantyński mesjanizm Leontiewa i pewien amoralizm politycznej doktryny Danilewskiego[24].

Abdziraŀovič nie jest w swoim tekście teoretykiem wielości cywilizacji *sensu stricto*, gdyż sytuacją poza kontynentem europejskim się nie zajmuje. O tym, że przejawiał ciekawość innych cywilizacji, dobitnie świadczy jednak jego czynne zainteresowanie jogą. Przedstawiona przez białoruskiego historiozofa dychotomia Wschodu i Zachodu jasno wskazuje przy tym, że widział w nich dwie przeciwstawne jednostki cywilizacyjne. O tym, że cywilizacje (typy, kierunki kulturowe) są według białoruskiego uczonego w zasadzie dla siebie niezrozumiałe, świadczy też jego przekonanie, że współczesne narody europejskie przejęły z kultury starożytnej „wyłącznie formę w państwowości, religii i prawie, lecz ducha helleńsko-rzymskich narodów przejąć nie zdołały". Jest to oczywiste odwołanie się do historiozofii Spenglera.

Zachód i Wschód według Abdziraŀoviča to w konkretnej sytuacji Białorusi wciąż Polska i Rosja, niemniej jednak badacz ten jako jedyny z Białorusinów tej epoki jasno określił, co przez Zachód i Wschód rozumie. Posługuje się tutaj kategorią typów kulturowych, zapożyczoną od Danilewskiego, chociaż nie używa terminów romańsko-germański czy słowiański, a łaciński i bizantyński, właściwszych Leontiewowi. O ile opis Zachodu

*лацкая зямля як сацыякультурная прастора ўзнікнення і развіцця беларускага этнасу і нацыянальнай дзяржаўнасці*, Полацк 1996, s. 72-77.

24 Т. Слінка, *Праблема...*

***16. Асобные дадаткі —***
***17. Адрэс:*** *Менск Губэрнаторская вул., дом № 52, кв. 3*

*В. Матэйчук (подпіс)*[10]

Звяртае тут увагу 4-ы пункт анкеты «Рэлігія», дзе В. Матэйчук, хрышчоная ў праваслаўнай царкве, так вызначала сваю канфесійную прыналежнасць: «Ні праваслаўная, ні каталічка, а прыхільніца ўніі». Пачынаючы з 1917 г., відаць пад уплывам выкладчыка Свіслацкай настаўніцкай семінарыі Баляслава Пачобкі яна на даволі працяглы перыяд свайго жыцця вызнавала сябе прыхільніцай царкоўнай уніі. Прынамсі, у 1927 г. у хадэцкай газеце «Беларуская крыніца» змешчаны яе рэпартажы з Беласточчыны, у якіх яна адкрыта выказвала свае сімпатыі да ўніі.

Пра тое, што Б. Пачобка сярод праваслаўных слухачоў Свіслацкай беларускай настаўніцкай семінарыі (апошнія складалі амаль увесь кантынгент навучэнцаў) праводзіў адкрытую ўніяцкую прапаганду, сігналізаваў у сваім лісце да Антона Луцкевіча ўвосень 1917 г. другі выкладчык семінарыі Баляслаў Квецінскі: «Рэлігія выкладаецца курсістам датычна — каталіцкая, бо выкладае яе пан Пачобка... Дайшло да таго, што ён упісаў у праграму для дзяцей праваслаўных па рэлігіі каталіцкія элямэнты, для таго каб курсісты спісалі гэта і вучылі з гэтага ў сваіх школах... Зараз, доўга ня думаўшы, Пачобка стараецца, каб для праваслаўных дзяцей былі пераложаны кароценькія стары і новы тэстамэнты і катэхезіс,...і каб язык рэлігійны ў перакладзе не хаваўся, бо у п. Пачобкі Цэркві ўжо няма, а астаўся толькі Касьцёл, і каб гэтыя кніжкі былі разосланы па ўсіх беларускіх школах»[11]. Падобнае стаўленне В. Маслоўскай да праваслаўнай царквы ў той час магчыма звязана з тымі абставінамі, што амаль увесь клір Расійскай праваслаўнай царквы падчас адступлення царскай арміі ў 1915 г. з'ехаў на ўсход, пакінуўшы сваіх праваслаўных вернікаў без духоўнай апекі[12]. З больш чым 600 праваслаўных святароў, псаломшчыкаў і манахаў, якія абслугоўвалі звыш 600 парафій, на захопленай нямецкімі войскамі тэрыторыі Віленскай праваслаўнай епархіі засталося не больш 6 праваслаўных духоўных асоб[13], у той час як з Гарадзенскай губерні летам 1915 г. эвакуявалася ўглыб расійскай тэрыторыі ўсяго 9 рымска-каталіцкіх пробашчаў і 1 дэкан[14].

[10] НАРБ, ф. 368, воп. 1, спр. 16, арк. 63.
[11] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 133, арк. 18-19.
[12] Там жа, ф. 3, воп. 1, спр. 140, арк. 17.
[13] Там жа, ф. 3, спр. 34, арк. 49-50; «Литовские епархиальные ведомости», 1924, январь, с. 47.
[14] НАРБ, ф. 610, воп. 1, спр. 50, арк. 4-4адв.

Надалей у В. Маслоўскай было настаўніцтва ў менскіх беларускіх школах, праца школьным інструктарам Наркамасветы ССРБ з лета 1920 г. Увосень 1921 г. яна засылаецца з Менску на падпольную працу па заданні партыі беларускіх эсэраў на Беласточчыну. У 1923 г. яе чакаў судовы працэс і прысуд на 6 гадоў польскай вязніцы. Але, гэта ўжо іншая гісторыя.

### *Родам з Мастаўлянаў*

Мастаўляны — цяперашняя вёска ў Беластоцкім павеце Падляшскага ваяводства сучаснай Польшчы, што размясцілася на левым беразе Свіслачы недалёка ад чыгуначнай станцыі Зубкі і знаходзіцца ў некалькіх кіламетрах ад польска-беларускай мяжы. Мастаўляны вядомы ўсім як радзіма Канстанціна Каліноўскага, аднаго з арганізатараў антырасійскага паўстання 1863-1864 гг. у Беларусі. Але ён далёка не адзіны з мастаўлянаў, хто меў дачыненне да беларускай справы. Гаворка далей пойдзе пра Рамана Зарэцкага, ураджэнца гэтай жа вёскі, актыўнага паплечніка Усевалада Ігнатоўскага, сябра беларускіх эсэраўскіх гурткоў «Наш край» і «Маладая Беларусь», а пазней Беларускай камуністычнай арганізацыі.

У тым жа фондзе НАРБ «Часовы Беларускі нацыянальны камітэт» выяўлены жыццяпіс Р. Зарэцкага, складзены 19 траўня 1920 г., а таксама яго справаздачны рапарт за 19 студзеня 1920 г. у якасці інструктара ЧБНК у Барысаўскім павеце па арганізацыі беларускіх кааператываў. Вось невялікі фрагмент з яго аўтабіяграфіі: «Бацькаўшчына мая знаходзіцца ў в. Мастаўляны Горадзенскай губ. і павету. Там жылі мае дзяды і прадзеды. Ад іх мне дасталося ў спадчыну земля ў ліку 10 дзесяцін, а таксама рухомая і нерухомая маётнасьць. З 10-ці лет мяне бацька аддаў вучыцца ў г. Горадню ў 2-клясовую школу пры духоўнай кансісторыі. Правучыўшыся там, я паступіў дзеля далейшай адукацыі ў Свіслачскую настаўніцкую семінарыю»[15]. Далей у сваім жыццяпісе ён распавядае аб пачатку свайго нацыянальнага ўсведамлення: «Хоць у семінарыі ўсё навучэньне велося ў строга маскоўскім напрамку і не допускалі ніводнай кніжкі на роднай мове, але-ж все-такі сярод вучняў істнаваў нелегальны гурток, каторы тайно адтрымоўваў беларускую літэратуру і часопісь і стараўся пашыраць іх сярод вучняў. Часто можно было пачуць на таварышаской пагулянцы сьціхі Янкі Купалы, Орла і інш., каторые всягды дзекламаваліся з велькім мастацтвам і з ахвотаю выучываліся наізусьць. Скончыўшы семінарыю, я ўжо меньш баяўся сваего начальства і выпісываў «Нашу Ніву», «Саху», каторые пашыраў сярод селянства, як сваей вёскі, так

[15] Там жа, ф. 368, воп. 1, спр. 38, арк. 21.

і там, дзе быў настаўнікам. Селяне заўсегды з ахвотаю выслуховывалі, калі ім што чытаў па-беларуску і асабліво любілі яны беларускіе жарты»[16].

Далей у яго было навучанне ў Мінскім настаўніцкім інстытуце, перарванае мабілізацыяй у царскае войска: «З інстытуту меня ўзялі ў 1915 р. на вайну. Знаходзячыся на вайсковай службе ў Рэвеле, я цекавіўся беларускімі справамі і завёў перапіску з Беларускай Радай Мінска, ад каторай адтрымовываў як газэту, так і розныя паведамленьня аб беларускім руху. Знайшоўшы ашчэ некалькі больш-меньш сьвядомых беларусаў у Рэвелі, мы заарганізавалі ініцыатыўную групу, каб залажыць нацыянальную беларускую арганізацыю сярод войск Рэвельскаго гарнізона і Паўночнаго фронту. Але хуткае наступленьне немцаў не дало нам распачаць сваей працы»[17].

У студзені 1918 г., пасля дэмабілізацыі з войска, Раман Зарэцкі едзе ў Яраслаўль, каб працягнуць навучанне ў Мінскім настаўніцкім інстытуце, што быў эвакуяваны туды яшчэ ў кастрычніку 1915 г. У Яраслаўлі таксама аказаліся яго родныя і сваякі, якія апынуліся тут падчас бежанства. У яраслаўскі перыяд свайго жыцця Р. Зарэцкі прымае чынны ўдзел ва вышэйзгаданых эсэраўскіх суполках пад кіраўніцтвам У. Ігнатоўскага. Ён таксама вядзе агітацыйную працу сярод тамтэйшых беларусаў-уцекачоў, «кожны раз паведамляя іх аб становішчы нацыянальнай справы, і выклікая у іх нацыянальные пачуцьця»[18]. Вясной 1919 г. ён вяртаецца ў Менск.

Тут ён перажыў пачатак бальшавіцкай улады і прыход у горад польскіх легіянераў. На хвалі антыпольскіх настрояў, выкліканых не ў апошнюю чаргу зачыненнем Менскага (Беларускага) педагагічнага інстытута і рабаваннем вучэбнага абсталявання польскімі вайскоўцамі, у студзені 1920 г. Р. Зарэцкі разам з пару дзясяткамі студэнтаў, выкладчыкаў інстытута і настаўнікаў мясцовых школ утвараюць Беларускую камуністычную арганізацыю на чале з У. Ігнатоўскім. Атрымаўшы легальны мандат рэвідэнта (інструктара) Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта, Зарэцкі накіроўваецца ў Барысаўскі павет з заданнем арганізаваць беларускія кааператывы і культурна-асветныя гурткі, а таксама правесці выбары дэлегатаў на планаваны ў Менску 15 траўня 1920 г. з’езд Цэнтральнага беларускага саюза сельскай гаспадаркі. Разам з легальнай чыннасцю былы студэнт актыўна вядзе падпольную працу сярод сялян у антыпольскім духу.

[16] Там жа.
[17] Там жа.
[18] Там жа, арк 21адв.

У архіве захаваўся яго рапарт на адрас старшыні ЧБНК Кузьмы Цярэшчанкі, у якім ён распавядае аб выніках сваёй працы ў якасці каапэратыўнага інструктара, а таксама пра настроі сялянства. Вось вытрымкі з гэтага дакумента: «Адтрымаўшы належачые паперы ад Беларускаго камітэту і польскай улады, я атправіўся на павет для выпаўненьня заданьняў Нацыянальнаго камітэту: правесьці выбарную кампанію на Беларускі Коопэратыўны зьезд, а таксама, калі пазволіць час і варункі, залажыць, па магчымасьці, сельска-гаспадарскія таварыства і аткрываць культурна-прасьветные гурткі. Маючы ўсе гэта на ўвазі, я і распачаў сваю працу ў гэтым кірунку. Мой раіён як раз прыходзіўся ў Смалевічскай воласьці, Барысаўскаго павету... Працу распачаў з мястэчка Смолевічы... На чале ураду [коопэратыва] стаіць нехто пан Велічко. Он хоці і не можа добра гутарыць па-беларуску і мало знаёмы наогул з беларускай справай, але будучы сам беларусам, вельмі спачувае ўсяму беларускаму і гатоў сам працаваць на карысьць беларускаго народу... Выбары на зьезд былі ўжо зроблены. Выбран мейсцовы жыхар Жолубко, ён мае сваю землю і маётнасьць, добра ведае інтарэсы беларускаго насельньня і заўсегды падтрымае беларускую справу. Што датычыць мейсцовых культурных сіл, то яны ўжо обужываюцца, і з імі можна было бы распачаць культурна- прасьветную працу, калі б пасядзець на мейсцы, забраць іх, бо яны раскіданы па розных вёсках... Раней у школах выкладаньне велось на чыста расейскай мове, а цяпер ужо часто пачуеце чысто беларускую гутарку настаўнікаў у школе з вучнямі... З Смалявіч я паехаў у Мало-Залужье. На зробленым сходзе былі выбраны на зьезд паны Петр Полягошко і Міхаіл Полягошко... Абодва яны... спачуваюць беларускай справе, але мало ведалі аб тым, як гэтая справа пашыраецца ў Менску. Даўшы ім інфармацыю накошт коопэратыўнаго зьезду, а таксама пазнаеміўшы іх з артыкуламі, напечатаннымі ў газэці «Беларусь», я вынес уражэньне, што яны моцно будуць стаяць за беларускую справу... Чуецца велькае жаданьне працаваць над адбудаваньнем незалежнай бацькаўшчыны... З Смалевіч я паехаў у Высокіе Ляды... пазнаеміўшыся на месьці з выбранымі: панамі Андрэем Тумаром і Францом Кохаиоўскім, я убачыў, што гэта...— вядомые беларусы і верные будуць заступнікі інтарэсаў сваей Бацькаўшчыны... Прышлося много гутаркі мець з мейсцовымі жыхарамі, а неабхадзімасьці все сілы даваць сваего беларускаго народу на паўстаючае адбудаваньне роднай Бацькаўшчыны і выясьніць, якое велькае значэньне ў гэтай працы мае Менскі нацыянальны беларускі камітэт, па каторым пакуль што на адным і ляжыць ўся гэта праца. Адным словам, відно, што калі нават тут і відна была сонніца, то пачуўшы, что-небудзь цяпер о своем родным, населеньне пачынае абужацца, і толькі трэба было бы іх веру ў незалежнасьць Беларусі падтрымовываць больш канкрэтнай працай на мейсцох. А гэта

можна было бы зрабіць, калі б сядзець там на мейсцы, рабіць частые выезды па вёскам. Тады я думаю хутка пашла бы арганізацыя ўсякіх культурных арганізацыяў. Быў я таксама у Забалацьці і Чарніцах; тут выбары прашлі вельмі добра ў інтарэсах беларускай справы. Усюды, дзе я быў, стараўся раздаць много беларускіх газэт, якіх я купіў на свой кошт»[19].

Пасля прыходу бальшавікоў большасць сябраў БКА ўлілася ў склад Кампартыі Беларусі. Раман Зарэцкі, Гіпаліт Поляк, Тамаш Гаўрыловіч і шэраг іншых асоб па розных прычынах адмовіліся ўступаць у шэрагі КПБ(б). Г. Поляк, напрыклад, растлумачыў свае нежаданне ўступаць у бальшавіцкую партыю «расчараваннем у камуністычнай ідэалогіі». Як склаўся лёс Рамана Зарэцкага — мы не ведаем. Новых дакументаў, што адлюстроўваюць ягоную дзейнасць пасля 1921 г., пакуль не выяўлена.

### *Паданне Уладзіміра Цыркуна*

Раман Зарэцкі быў не адзіным студэнтам Менскага (Беларускага) педагагічнага інстытута, які паходзіў з Падляшша. Вучыўся тут яшчэ адзін ураджэнец Беластоцкага павета Уладзімір Цыркун, народжаны 11 ліпеня 1892 г. (паводле юліянскага календара). Пра гэту асобу мы ведаем вельмі мала. У фондзе ЧБНК захавалася ягонае паданне ў Камітэт: «Прашу Вас даць мне пропуск у Беласток і назад. Еду з жонкай Надзеждай к бацькам за сваей 2-гадовай дзяўчынкай. Студэнт Менскаго пэдагогічнаго інстытуту Ў. Цыркун»[20]. Можам дакладна сказаць, што пасля вучобы ў МПІ ён закончыў педагагічны факультэт БДУ і ў 1920-1930-я гг. выкладаў у адной з менскіх сямігодак. Пражываў з сям'ёй па вул. Дзяржынскага, д. 3/32, кв. 7. 1 кастрычніка 1937 г. ён будзе арыштаваны НКВД па абвінавачванні ў «антысавецкай дзейнасці», а 20 лістапада пазасудовай «тройкай» прыгавораны да «вышэйшай меры пакарання». Расстраляны 3 студзеня 1938 г. у менскай вязніцы НКВД. Рэабілітаваны Пракуратурай БССР 23 сакавіка 1989 г.[21]

### *Яшчэ адзін Хлябцэвіч, якога мы не ведалі*

Беластоцкія беларусы ды і ўсе, хто цікавіцца беларускай гісторыяй, выдатна ведаюць Яўгена Хлябцэвіча (псеўданім «Халімон з-пад Пушчы»; 1884-1953), знанага беларускага культурнага дзеяча, бібліёграфа

[19] НАРБ, ф. 368, воп. 1, спр. 38, арк. 22-23.

[20] Там жа, ф. 368, воп. 1, спр. 6, арк. 200.

[21] *Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі*, укл. Л. Маракоў, [дата доступу: 1.11.2015], <http://www.marakou.by/by/davedniki/repres_nastaunik.html> Асабовая судовая справа У. Цыркуна пад грыфам «Ц. № 21337-с» захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

і літаратуразнаўца, непарыўна звязанага з Беласточчынай, які значную частку свайго жыцця правёў у в. Кленікі Бельскага павета Гарадзенскай губерні (цяпер Гайнаўскі павет Падляшскага ваяводства). Спецыялісты таксама маюць звесткі пра ягонага бацьку — праваслаўнага святара а. Івана (1857-1919) і малодшага брата — заўчасна памерлага таленавітага этнографа Уладзіміра Хлябцэвіча (1894-1917). У НАРБ выяўлена дакументальная крыніца, на падставе якой можна сцвярджаць, што быў яшчэ адзін Хлябцэвіч — Мікалай. І вельмі падобна, што гэта забыты і ніколі нікім не ўзгаданы родны брат Яўгена і Уладзіміра. Падставай для такіх сцвярджэнняў можа быць названы дакумент — заява ўзгаданай асобы ў ЧБНК у Менску з просьбай прызначэння на пасаду беларускага інструктара ў адзін з паветаў Меншчыны:

*У Беларускі Нацыянальны Камітэт*
*(м. Менск, вул. Міцкевіча, Беларускі Дом)*
*Грамадзяніна Мікалая Хлебцэвіча*

*ЗАЯВА*

*Жадаючы працаваць на карысць беларускай справы, прашу аб прызначаньні мяне на пасаду інструктара па нацыянальным справам. Я нарадзіўся ў 1890 г. ў м. Жыровіцах, Слонімскага пав. Гораднен. губ. Увесь час да вайны 1914—1918 гг. жыў на Беларусі і ў Польшчы, гдзе ўчыўся ў Варшаўскім Універсітэце. У 1913 г. скончыў праўнічы аддзел і паступіў маладзейшым кандыдатам пры Акружным Судзе ў м. Горадні. 3 студзеня 1914 г. быў прыйняты на вайсковую службу. У часе вайны служыў у 16-й гарматнай брыгадзе, 16-м паркавам гармат. дывызіоне і корпусным Судзе 1-го Гвардзейскага корпусу. Па аканчаніі вайны с Нямеччынай працаваў ў Ліквыдацыйнай Камісіі пры 2-м Украінскім Эвакуац. пункце і другіх установах. Быў сябром беларускага культурна-прасветн. гуртка «Зорка» ў Кіеві. Вернуўся на Бацькаўшчыну ў сьнежню 1919 г.*

*М. Хлебцевіч*[22]

Шэраг фактаў пацвярджаюць нашу версію. Мікалай, як і Яўген, і Уладзімір, нарадзіўся ў Жыровічах — у той час, калі Іван Андрэевіч Хлябцэвіч працаваў у мясцовай праваслаўнай духоўнай вучэльні. У заяве адзначаецца, што Мікалай у 1917-1919 гг. знаходзіўся ў Кіеве і з'яўляўся сябрам кіеўскай беларускай маладзёвай арганізацыі «Зорка». Якраз у гэты ж час у Кіеве жыў і працаваў Яўген Хлябцэвіч, які таксама быў актыўным удзельнікам гэтай нацыянальнай маладзёвай

[22] НАРБ, ф. 368, воп. 1, спр. 39, арк. 13.

суполкі. Зусім верагодна, што гэта Яўген якраз і прыцягнуў Мікалая да беларускай працы.

Паводле рэзалюцыі К. Цярэшчанкі Мікалай Хлябцэвіч 23 чэрвеня 1920 г. быў прызначаны інструктарам ЧБНК па Ігуменскім павеце[23]. Ці дабраўся ён да месца свайго прызначэння — невядома. Можам толькі меркаваць, што гэтага зрабіць не ўдалося. Ужо пачалося наступленне чырвонага войска па ўсім беларускім участку Заходняга фронту і 11 ліпеня 1920 г. бальшавікі ўвайшлі ў Менск.

Новымі звесткамі аб далейшым лёсе Мікалая Хлябцэвіча мы пакуль не валодаем. Магчыма, нейкія згадкі пра яго ёсць у архіве заўчасна памерлай даследніцы Марыі Базылюк (1959-1996)?

### *З роду Семянякаў*

Існуе на паўднёвы захад ад Крынак хутар Азерскія. Гэта недалёка ад тракту Крынкі — Гураны (Górany) і менш за кіламетр ад Паўднёвага Вострава. А паўсталі Азерскія з выселак вёскі Азераны яшчэ ў XIX ст. Большая частка гэтых азерчан насілі прозвішча Семяняка (Семяняко). Адсюль паходзіць бацька слыннага беларускага кампазітара Юрыя Семянякі (1925-1990), Уладзімір Іванавіч[24]. Цікава, што да азерскіх Семянякаў належыць яшчэ адзін раней невядомы актывіст беларускага нацыянальнага руху, прафесійны вайсковец, які прайшоў Першую сусветную вайну, стаяў ля вытокаў арганізацыі беларускага нацыянальнага войска ў 1920 г. і які з'яўляўся адным з камандзераў 1-й Слуцкай брыгады БНР падчас антысавецкага збройнага чыну на Случчыне ў лістападзе-снежні 1920 г.

У тым жа фондзе Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта НАРБ намі выяўлены жыццяпіс былога капітана ўкраінскай арміі Аляксандра Лаўрэнцьевіча Семянякі. Дзеля важнасці крыніцы падаем гэты дакумент цалкам:

*Да Беларускага Нацыянальнага Камітэта ў Менску*
*Жыхара места Барысава Александра Лаўрэнцьева Семеняко,*
*часова пражываючага ў Менску па Грыгорэўскай вуліцы, № 26, кв.3,*

*ЗАЯВА*

*Згодна з абвесткай часопісі «Беларусь» аб патрэбнасьці Камітэту асоб дзеля культурна-нацыянальнай працы гэтым маю гонар прасіць аб назначэньні мяне на пасаду інструктра.*

[23] Там жа.

[24] Укладальнік біяграфічнага даведніка *Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі* (Мінск 2007, т. 4)

*Curriculumvitae: я лічусь сталым мешканцам вёскі Азерскі Крынскае воласьці Горадзенскага павету і губ. Радзіўся 4 сьнежня 1887 г. (32 лет), праваслаўны, жанаты, беларус. Адукацыю атрымаў у Панявежскай вучыцельскай сэмінарыі ў 1907 г., быў народным вучыцелям да 1914 г. на Літве, па мабілізацыі забран быў на вайну, калі скончыў Віленскае вайсковае вучылішчэ і служыў афіцэрам у рускай і ўкраінскай арміі. За часоў акупацыі нямецкай, бальшавіцкай ці польскай служыў начальнікам міліцыі ў м. Барысаве і яго павеці. З пачаткам фармаваньня нацыянальнага войска залічан да рэзэрву афіцэраў.*

*Уладаю мовамі: беларускай, рускай, польскай, літоўскай, латышскай і часьцінай нямецкай. Знаком з беларускім нацыянальным рухам, літэратурай, гісторыяй і географіяй. Курсы беларусазнаўства мной праслуханы ў прошлым гаду.*

*С арганізацыйнай працай знаём, бо сам дужа працаваў ў гуртках беларускіх, быў кіраўніком беларускай рады ў 1 украінскай дывізіі. Цяпер маю жаданьне працаваць на карысьць Бацькаўшчыны.*

*Рэкомэндацыю аб маей асобе могуць даць беларускія дзеячы п.п. Грыб, Дзякуць-Малей, Медзіолко, Бараноў і інш.*

*18/IV-1920 г.* *А. Семеняко*[25]

Як мы бачым, са сваіх 37 гадоў Аляксандр Семяняка 7 гадоў аддаў настаўніцкай працы, пазней стаў прафесійным вайскоўцам, закончыў элітную Віленскую вайсковую вучэльню. Падчас Першай сусветнай вайны і пачатку савецка-ўкраінскай вайны (1914-1918 гг.) паспеў павяваць і на расейскім Паўднёва-Усходнім фронце і ў складзе 1-й Украінскай дывізіі Войскаў УНР супраць бальшавікоў. Вядома, што адзначанае вайсковае фармаванне было ўтворана ў жніўні 1917 г. у складзе ўкраінізаванага 34-га армейскага корпусу Паўднёва-Заходняга фронту пад камандаваннем Якуба Гандзюка. Пасля бальшавіцкага перавароту ў Петраградзе ў кастрычніку 1917 г. дывізія была перакінута ў Кіеў, каб не дазволіць мясцовым бальшавікам узяць уладу ў свае рукі. Часткі дывізіі ў ноч з 29 на 30 лістапада 1917 г. раззброілі пра-

Леанід Маракоў на падставе дадзеных Архіва КДБ Рэспублікі Беларусь падае звесткі пра Уладзіміра Іванавіча Семяняку (1896-?), ураджэнца в. Азёры Гродзенскага павета, беларускага журналіста, які да пачатку 1930-х гг. працаваў у Менску ў часопісе «Калгаснік Беларусі», а 16.03.1933 г. быў арыштаваны ГПУ за «антысавецкую дзейнасць» і прыгавораны на 5 год «исправительно-трудовых лагерей» (Асабістая справа пад грыфам «С № 31378 — Архив КДБ Республики Беларусь»). Хутчэй за ўсё тут ідзе гаворка пра бацьку кампазітара Ю. В. Семянякі. Мяркуем, што ўкладальнік даведніка памылкова перанёс хутар Азерскі ў цяперашні Гродзенскі раён, дзе сапраўды маецца вёска Азёры (цяпер аграгарадок).

25 НАРБ, ф. 368, воп. 1, спр. 16, арк. 86.

бальшавіцка настроеныя аддзелы мясцовага гарнізона, якія падтрымлівалі бальшавікоў і ўзялі горад пад свой кантроль. Гэтыя ж часткі баранілі ўкраінскую сталіцу ад савецкіх войск у студзені 1918 г.[26]

Верагодна, што А. Семяняка вярнуўся ў Беларусь пасля падпісання Берасцейскага міру ў сакавіку 1918 г. (у *Curriculum vitae* не пададзена, што яго аўтар трапіў у Барысаў яшчэ пры немцах). Таксама мы можам сцвярджаць, што А. Семяняка паспеў пабываць таксама і на сваёй малой радзіме. Пра гэта кажа яго блізкае знаёмства з беларускімі дзеячамі, што з пачатку 1919 г. працавалі ў Горадні і ў Крынках: Т. Грыбам, П. Мядзёлкай, С. Баранам і Л. Дзекуць-Малеем.

Рэакцыя на заяву А. Семянякі з боку кіраўніцтва ЧБНК была даволі стрыманай. На заяве маецца рэзалюцыя К. Цярэшчанкі: «Запытаць Вайсковую Камісію, ці патрэбны ён там. К. Т. 21.IV.20». Кіраўнік ЧБНК стараўся прызначаць на адказныя пасады «праверaных» асоб і пераважна левай палітычнай арыентацыі: эсэраў ці нацыянал-камуністаў. Семяняка ж з гэтага пункту гледжання не выклікаў абсалютнага даверу. Да таго ж, К. Цярэшчанка пасля снежня 1919 г. знаходзіўся ў жорсткай канфрантацыі з эсэрамі на чале з Тамашам Грыбам, а апошні быў названы А. Семянякам у якасці паручыцеля. Магчыма Цярэшчанку насцярожыў факт службы капітана ва ўкраінскіх вайсковых фармацыях пад загадам гетмана Паўла Скарападскага. Тым не менш кіраўніцтва Беларускай вайсковай камісіі ўзяло на сваё забеспячэнне новага афіцэра.

У гістарычнай літаратуры склалася пэўная блытаніна: факты, звязаныя з чыннасцю Аляксандра Семянякі прыпісваюць іншаму чалавеку — «беларускаму бацьке Махно» — халопеніцкаму атаману Лукашу Семянюку, які «партызаніў» у 1918-1920 гг. у Барысаўскім павеце. Відаць па ўсім, гэтую блытаніну стварыла блізкасць прозвішчаў, а таксама брак біяграфічных звестак пра абодвух вайскоўцаў. Нават з’явіўся гібрыд з двух прозьвішчаў — *Сяменік*. Недахоп інфармацыі парадзіў легенду аб тым, што зялёнадубаўскі атаман Л. Семянюк (Сяменік) не толькі змагаўся з бальшавікамі на Барысаўшчыне[27], але пры-

[26] *Малий словник історії України*, Київ 1997.

[27] С. А. Ваупшасов, *На тревожных перекрестках: Записки чекиста*, Москва 1988, [даступная ў электроннай версіі на сайце «Военная литература», дата доступу: 19.09.2015], <http://militera.lib.ru/memo/russian/vaupshasov/index.html> В. Кищенко, *Советско-польская война на Борисовщине. Воспоминания участников и очевидцев событий*, [сайт Государственного учреждения культуры «Борисовская центральная районная библиотека им. И .Х. Колодеева», дата доступу: 8.07.2016], <http://www.borlib.by/istoriya-borisovschini-sobitiya-i-fakti/sovetsko-polskaya-voyna-na-borisovschine-vospominaniya-uchastnikov-i-ochevidtsev-sobitiy>.

маў актыўны ўдзел у Слуцкім збройным чыне ў канцы 1920 г.[28] і нават у пазнейшай антысавецкай партызанцы, падчас якой яго быццам забіваюць у 1922 г. [29]

Падрабязна разгледзім гэтае пытанне.

1. *Адносна ўдзелу «Семянюка—Семянякі» ў Слуцкім збройным чыне ў лістападзе — снежні 1920 г.* У сваіх ўспамінах ці сведчаннях «з-за кратаў» адны сведкі (Тодар Данілюк, Васіль Русак, Антон Сокал-Кутылоўскі, Юрка Харытончык) называюць удзельнікам капітана ***Семянюка*** (без пазначэння яго імені)[30]. І толькі Уладзімір Пракулевіч ў сваіх падрабязных следчых паказаннях указвае іншае прозвішча: «***капітан Семяняка***»[31].

2. *Адносна ваеннай пасады, займаемай у камандным складзе 1-й Слуцкай брыгады.* Амаль усе ўказалі, што «Семянюк—Семяняка» прыбыў у Слуцк з Горадні ў складзе групы афіцэраў Беларускай вайсковай камісіі і ўзначаліў пазней 2-гі Грозаўскі полк паўстанцаў. І толькі Антон Сокал-Кутылоўскі сцвярджае: «Быў створаны 1-ы Слуцкі полк пад камандаваньнем капітана Анцыповіча, а пасьля — капітана Семенюка. Праз колькі дзён зайшла патрэба стварыць другі — Грозаўскі полк, пад камандаваньнем палкоўніка Гаўрыловіча»[32].

Першым гэтую блытаніну заўважыў гісторык Алесь [Васільевіч] Пашкевіч. Робячы навуковыя каментарыі да новага выдання кнігі Юр-

[28] Ст-іч, *Л. Сяменік*, «Беларускае жыцьцё», 1920, № 3 (25), 9 люты; Ю. Віцьбіч, *Антысавецкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі*, Вільня 2006, с. 184-190; А. С. Пашкевіч, *Пляц Волі. Раман-дакумент*, кн. 1: *І дам табе вянок жыцця*, Менск 2001, 345 с.; *Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах*, укл. У. Ляхоўскі, У. Міхнюк, А. Гесь, 2-ое выд., дапрац., Мінск 2006, с. 186, 194, 203, 211, 246, 247, 328, 347, 368; А. П. Грыцкевіч, *Вакол «Слуцкага паўстаньня» (Барацьба з контррэвалюцыяй у Беларусі ў апошні пэрыяд грамадзянскай вайны)*, Мінск 1987, 63 с.; яго ж, *Слуцкае паўстаньне 1920 г. — збройны чын у барацьбе за незалежнасьць Беларусі*, «Спадчына», 1993, № 2.

[29] Прынамсі літаратар Алесь Сцяпанавіч Пашкевіч ў сваёй трылогіі *Пляц Волі*, быццам бы спасылаючыся на Рамуальда Зямкевіча, безапеляцыйна падае, што Л. Семянюк загінуў ад рук «чырвоных» у 1922 г. Насамрэч Р. Зямкевіч такога не сцвярджаў. У сваім лісце да В. Ластоўскага ад 27 снежня 1922 г. ён паведамляў: «(...) запісаў я са слоў Дзергача (Адамовіча) шмат фактаў, каторыя правяраю ў гутарках з ваякамі Балаховіча і сьв. памяці Семянюка» (*Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі*, Вільня — Нью Ёрк — Менск — Прага 1998, т. 1, кн. 2, с. 1366). З ліста вынікае, што яго аўтар не ўказаў дакладнай даты смерці зялёнадубскага важака, а пісьменнік беспадстаўна прыраўняў дату напісання ліста да прыкладнай даты гібелі партызанскага атамана.

[30] *Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах...*, с. 176, 186, 193-194, 203, 207, 211.

[31] Там жа, с. 246.

[32] Там жа, с. 186.

кі Віцьбіча *Антысавецкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі*: «Аднак зьвесткі, якія падае Ю. Віцьбіч пра партызанскага атамана Лукаша Семенюка ў адмысловым артыкуле, выклікаюць сумнеў, ці зьяўляецца Семянюк — партызан і Семянюк — слуцкі паўстанец адной і той жа асобай»[33].

Выяўлены дакумент з *Curriculum vitae* Аляксандра Семянякі здымае гэтае пытанне і размяжоўвае жыццёвыя шляхі гэтых асоб. Хаця, зусім верагодна, што яны маглі перасякацца адзін з другім у рэальным жыцці ці ведаць адзін аднаго. Атаман Лукаш Семянюк, спачатку абласканы савецкай уладай, а потым стаўшы яе злейшым ворагам, дзейнічаў са сваім аддзелам у Халопеніцкай воласці. Прыкладна ў гэты ж час капітан А. Семяняка ўзначальвае барысаўскую міліцыю, якая змагалася з бандытызмам у павеце.

Па-першае, цяпер вядомы іх *месцы нараджэння*. Лукаш Семянюк паходзіць з в. Селішча Красналуцкай воласці Барысаўскага павета[34], а Аляксандр Семяняка — з-пад Крынак Гарадзенскага павета. Па-другое, Л. Семянюк спачатку ўзначальваў Халапенецкі валасны рэўкам, а пазней выступіў супраць савецкай улады і сышоў у партызанку[35]. А. Семяняка з канца 1918 г. і, хутчэй за ўсё да прыходу палякаў у жніўні 1919 г., узначальваў барысаўскую гарадскую міліцыю. Па-трэцяе, Л. Семянюк наўрад ці меў вайсковае званне вышэй за паручніка (не меў належнага адукацыйнага цэнзу), у той час як А. Семяняка закончыў элітную Віленскую вайсковую вучэльню і даслужыўся да капітана. Па-чацвёртае, ёсць усе падставы лічыць, што атаман Л. Семянюк не дажыў да Слуцкага паўстання і быў забіты чырвонымі яшчэ летам 1920 г. Пра гэта сведчыць у сваіх успамінах вельмі дакладны і зачэ-

[33] Ю. Віцьбіч, *Антысавецкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі...*, с. 251.

[34] В. Кищенко, *Советско-польская война на Борисовщине. Воспоминания участников и очевидцев событий*, [сайт Государственного учреждения культуры «Борисовская центральная районная библиотека им. И.Х. Колодеева», дата доступу: 8.07.2016], <http://www.borlib.by/istoriya-borisovschini-sobitiya-i-fakti/sovetsko-polskaya-voyna-na-borisovschine-vospominaniya-uchastnikov-i-ochevidtsev-sobitiy>.

[35] С. Ваўпшасаў так характарызаваў «беларускага Махно»: «Семенюк был родом из Борисовского уезда, происходил из крепких середняков, служил в царской армии, показал себя храбрецом в империалистическую войну. После революции он перешел на сторону Советской власти и стал первым комиссаром Холопенического волревкома в своем уезде. Его решительности и мужеству мог позавидовать любой, однако политически он не созрел и не соответствовал должности. От природы склонный к крайностям, он скоро начал предаваться левацким загибам. В качестве главы волостного ревкома Семенюк стал расстреливать без суда и следствия всех сколько-нибудь провинившихся людей...» ( С. А. Ваупшасов, *На тревожных перекрестках: Записки чекиста...*).

пісты чалавек з добрай памяццю — прафесійны разведчык і таемны агент ГПУ Станіслаў Ваўпшасаў: «Во время наступления на Западном фронте в 1920 г. красные войска добили Семенюка»[36].

Такім чынам, мы можам упэўненна заяўляць хто быў у шэрагах слуцкіх паўстанцаў і камандаваў 2-м Грозаўскім палком 1-й Слуцкай брыгады БНР. Гэта быў ураджэнец хутара Азерскія Крынскай воласці Гарадзенскай губерні Аляксандр Лаўрэнцьеў Семяняка. У траўні 1920 г. у Менску ён трапіў у склад Беларускай вайсковай камісіі. Застаецца прабел у яго біяграфіі з ліпеня па кастрычнік 1920 г. У лістападзе з Горадні разам з яшчэ 20 афіцэрамі БВК ён накіроўваецца на Случчыну ў падтрымку беларускіх паўстанцаў. Пасля ліквідацыі паўстання са студзеня 1920 г. яго сляды губляюцца. Сярод інтэрнаваных случакоў у Дарагуску ён не значыўся. Таксама няма сведчанняў, што ён застаўся ў памежным пасе для працягу антысавецкай партызанкі. Верагодней за ўсё А. Семяняка вярнуўся да сваёй хаты ў Азёрскі. Постаць, безумоўна, вельмі цікавая, а сама тэма патрабуе далейшага даследавання.


**Summary**

**New archival documents with biographies of participants in the Belarusian national movement in 1917-22 born in the Białystok region**

The global geopolitical conflict in 1914-18 became a strong catalyst in the development of the Belarusian national movement. *Bezhenstvo* and the army were the main factors contributing to its growth and strengthening. Probably for the first time many Belarusian peasants and townsmen felt to be a part not only of their little homeland — a village or town — but also of a wider community called Belarus. Activists from the Białystok region played an important role in the Belarusian social, political and cultural movement. In the article the author mentions new facts from the life of a well-known Belarusian activist Wiera Matejczuk (by her first marriage Masłowska, later Karczewska, 1896-1981) and introduces into academic literature names of people born in the Białystok region who actively participated in the Belarusian national movement in the years 1917-22: Roman Zarecki (1895-?), Aleksander Siemieniaka (1887-?), Mikołaj Chlebcewicz (1880-?) and Uładzimir Cyrkun.



**Streszczenie**

**Nowe dokumenty archiwalne z życiorysami uczestników białoruskiego ruchu narodowego w latach 1917-1922 urodzonych na Białostocczyźnie**

Globalny konflikt geopolityczny lat 1914-1918 stał się mocnym katalizatorem rozwoju białoruskiego ruchu narodowego. Głównymi czynnikami sprzyjającymi jego wzrostowi ilościowemu i umocnieniu się stało się *bieżeństwo* i wojsko. Wielu białoruskich chłopów i mieszczan w tym czasie prawdopodobnie po raz pierwszy psychicznie poczuło się częścią nie tylko swojej małej ojczyzny — wsi, miasteczka czy miasta, ale bardziej szerokiej ekumeny zwanej Białorusią.


[36] С. А. Ваупшасов, *На тревожных перекрестках: Записки чекиста...* . Ю. Віцьбіч у сваёй кнізе *Антысавецкия паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі* датуе гібель Л. Семянюка яшчэ 1919 г.

W białoruskim ruchu społeczno-politycznym i kulturalnym osoby pochodzące z Białostocczyzny zajmowały niepoślednie miejsce. Wielu działaczy z tego regionu, utożsamiających się ze zwolennikami niezależnej Białorusi, znanych jest szerokiej społeczności. Jednak życie nie stoi w miejscu: badacze przywracają z zapomnienia nowe nazwiska, odkrywają nowe fakty z ich życia.

W artykule autor przytacza nowe fakty z życia znanej białoruskiej aktywistki społecznej Wiery Matejczuk (1° v. Masłowskiej, 2° v. Karczewskiej, 1896-1981), wprowadza do obiegu naukowego nazwiska osób urodzonych na Białostocczyźnie, które aktywnie uczestniczyły w białoruskim ruchu narodowym w latach 1917-1922: Romana Zareckiego (1895-?), Aleksandra Siemieniaki (1887-?), Mikołaja Chlebcewicza (1880-?) i Uładzimira Cyrkuna.

**Uładzimir Lachoŭski** — absolwent Wydziału Historycznego Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego w Mińsku (1993), docent na Wydziale Stosunków Międzynarodowych tejże uczelni (od 2008 r.). Zainteresowania badawcze: białoruski ruch narodowy w I poł. XX w., stosunki międzynarodowe i handel zagraniczny Białorusi.

**Уладзімір Валодзін**
(Мінск)

# Крымінальны пераслед мужчын-гомасексуалаў у БССР: невядомыя статыстычныя дадзеныя з архіўных крыніц*

Напісанне гісторыі гомасексуальнасці часта ператвараецца ў напісанне гісторыі гамафобіі. Крыніцы па крымінальным пераследзе гомасексуалаў у многіх выпадках з'яўляюцца адносна лёгкадаступнымі і дастаткова шматкольнаснымі, каб менавіта з іх пачынаць вывучэнне гісторыі гомасексуальнасці таго ці іншага перыяду ў той ці іншай краіне Еўропы. Такім чынам, і наша даследаванне гісторыі гомасексуальнасці ў Беларусі другой паловы XX стагоддзя не магло пазбегнуць вывучэння і інтэрпрэтацыі крыніц па крымінальным пераследзе мужчын, якія мелі аднаполы секс. Натуральна, даследаванне гісторыі аднаполай сексуальнасці не павінна замыкацца толькі на крымінальным ці псіхіятрычным пераследзе. Значна больш цікавасці ўяўляе, напрыклад, гісторыя паўсядзённага жыцця гомасексуалаў. Але паколькі крымінальны пераслед гомасексуалаў у Беларусі раней не вывучаўся ані гісторыкамі, ані нават журналістамі, то варта прысвяціць яго разгляду хаця б адзін артыкул.

### Крымінальнае заканадаўства СССР і гомасексуалы

У Расійскай імперыі ў XIX стагоддзі добраахвотнае „мужаложства" каралася: у пэўны перыяд пазбаўленнем усіх правоў стану і ссылкай у Сібір на пасяленне, а ў пазнейшы час турэмным зняволеннем. Артыкул прымяняўся не вельмі часта і даволі выбарачна, але прымяняўся[1]. У 1918 годзе бальшавікі адмянілі адразу ўсё заканадаўства імперыі, і артыкул, які караў „мужаложства", перастаў дзейнічаць. У Крымінальным кодэксе РСФСР 1922 года такога артыкула не было. Не з'явіўся ён і ў Крымінальным кодэксе РСФСР 1926 года. Публічная рыторыка тых часоў паказвае, што гэта было не выпадковасцю, а паслядоўнай пазіцыяй большасці бальшавіцкіх спецыялістаў ад права і медыцыны[2]. У БССР з 1 ліпеня 1922 года дзейнічаў Крымінальны кодэкс РСФСР. Праца над праектам Крымінальнага кодэкса БССР пачалася

* Аўтар выказвае падзяку Ірыне Ралдугінай (Масква) за апрацоўку дакументаў з фондаў Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі і за карысныя парады.

1 Д. Хили, *Гомосексуальное влечение в революционной России: Регулирование сексуально-гендерного диссидентства*, пер. с англ., Москва 2008, с. 100-124.

2 Там жа, с. 143-171.

ў 1925 годзе. Крымінальны кодэкс БССР быў уведзены ў дзеянне 15 лістапада 1928 года[3]. Ён таксама не ўтрымліваў артыкула, які б караў за аднаполыя стасункі[4].

Тым не меней, вядомыя выпадкі (напрыклад, у Адэсе), калі ў 1920-я гады гомасексуалаў пераследавалі па іншых артыкулах крымінальнага кодэкса[5].

У суседняй Польшчы (а значыць, і ў Заходняй Беларусі) гомасексуальнасць была дэкрыміналізаваная ў 1932 годзе. У СССР жа стан спраў набываў адваротны кірунак.

У жніўні-кастрычніку 1933 года Паўнамоцнае прадстаўніцтва Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (АДПУ) у Ленінградскай ваеннай акрузе правяло масавыя арышты сярод гомасексуалаў Ленінграда. Агулам было арыштавана не менш за 198 чалавек, большасць з якіх у далейшым была асуджана за „контррэвалюцыйную агітацыю і прапаганду" (арт. 58[10] КК РСФСР). Крымінальная справа ў 8 тамах захоўваецца ў архіве Упраўлення ФСБ РФ па Санкт-Пецярбургу і Ленінградскай вобласці. Першым апублікаваў артыкул па матэрыялах гэтай крымінальнай справы прафесар Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта Віктар Іваноў, які, аднак, не здолеў стрымацца ад гамафобных каментарыяў[6].

13 снежня 1933 года намеснік старшыні АДПУ Генрых Ягода накіраваў сакратару ЦК УКП(б) Іосіфу Сталіну запіску, у якой прапаноўваў рэкрыміналізаваць „педэрастыю". На запісцы з'явілася ўхвальная рэзалюцыя Сталіна, і ўжо 16 снежня Палітбюро ЦК УКП(б) прыняло пастанову „Аб крымінальнай каранасці за педэрастыю"[7].

7 сакавіка 1934 года Прэзідыум ЦВК СССР прыняў пастанову „Аб крымінальнай адказнасці за мужаложства", у якой былі зменены ў параўнанні з першапачатковым праектам фармулёўкі і ўсталяваныя

[3] В. Круталевіч, І. Юхо, *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі (1917-1945 гг.)*, Мінск 2000, с. 172.

[4] *Крымінальны Кодэкс Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі*, Менск 1929.

[5] И. Ролдугина, *„И если будет продолжаться наше преследование, тоже мы не станем лучше". Раннесоветские гомосексуалы от первого лица: новые источники по истории гомосексуальных идентичностей в России*, „Ab Imperio", 2016 (в печати).

[6] В. Иванов, *Контрреволюционные организации среди гомосексуалистов Ленинграда в начале 1930-х годов и их погром*, „Новейшая история России", 2013, № 3, с. 126-143. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: <http://cyberleninka.ru/article/n/kontrrevolyutsionnye-organizatsii-sredi-gomoseksualistov-leningrada-v-nachale-1930-h-godov-i-ih-pogrom.pdf> Дата звароту: 14.02.2016.

[7] *„Примерно наказать этих мерзавцев"*, „Источник", 1993, № 5-6, с. 164-165.

ніжнія межы пакарання. Пастанова была абавязковай для выканання цэнтральнымі выканаўчымі камітэтамі ўсіх саюзных рэспублік[8].

У Крымінальны кодэкс Беларускай ССР адпаведны артыкул 235[1] быў уведзены 30 красавіка 1934 года. Вось яго тэкст:

„Палавыя зносіны мужчыны з мужчынам (мужаложства), выклікаюць

— пазбаўленне свабоды на тэрмін ад трох да пяці год.

Мужаложства, учыненае з прымяненнем насілля або са скарыстаннем залежнага становішча пацярпеўшага, выклікае

— пазбаўленне свабоды на тэрмін ад пяці да васьмі год”[9].

У 1960-1961 гадах ва ўсіх саюзных рэспубліках СССР былі зменены крымінальныя кодэксы. У Крымінальным кодэксе Беларускай ССР, які ўступіў у дзеянне з 1 красавіка 1961 года, артыкул меў іншы нумар і змененую фармулёўку. Таксама была адменена ніжняя мяжа пакарання:

„Артыкул 119. Мужаложства

Палавыя зносіны мужчыны з мужчынам (мужаложства)

— караюцца пазбаўленнем волі на тэрмін да пяці год.

Мужаложства, учыненае з ужываннем фізічнага насілля, пагроз ці ў адносінах да непаўналетняга, або з выкарыстаннем залежнага становішча пацярпеўшага, —

караецца пазбаўленнем волі на тэрмін да васьмі год”[10].

Савецкія крыміналісты спрачаліся, якім быў узрост згоды — 18 ці 16 гадоў (на сённяшні дзень у Беларусі — 16 гадоў). Не было прапісана заканадаўча, але мелася на ўвазе, што паводле гэтага артыкула мог карацца толькі анальны секс (coitus per anum) паміж мужчынамі. Узаемная мастурбацыя і аральны секс былі намінальна легальнымі.

У розных рэспубліках СССР санкцыя магла быць рознай. Так, у Эстонскай ССР артыкул 118 прадугледжваў па першай частцы зняволенне да 2 год, а па другой частцы — зняволенне ад 2 да 6 год са ссылкай ці без ссылкі да 3 год[11].

[8] Д. Хили, *Гомосексуальное влечение в революционной России...*, с. 223-230.

[9] *Крымінальны кодэкс БССР. Са змяненнямі на 1 чэрвеня 1935 года. Афіцыйны тэкст*, Менск 1935, с. 57.

[10] *Крымінальны кодэкс Беларускай ССР (на беларускай і рускай мовах)*, Мінск 1961, с. 46.

[11] T. Veispak, *Homosexuality in Estonia in the 20th Century: Ideological and Juridical Aspects*, [in:] *Sexual Minorities and Society: the Changing Attitudes toward Homosexuality in the 20th Century Europe. Papers presented to the international conference in Tallinn May 28-30, 1990*, ed. by U. Parikas and T. Veispak. Tallinn, 1991, p. 111.

### Экспертныя погляды на заканадаўчыя нормы

Беларускія юрысты стараліся ніяк артыкул 119 КК БССР не каментаваць. Так, у беларускім падручніку па крымінальным праве для студэнтаў-юрыстаў тлумачэнне гэтага артыкула зводзілася да пераказу крымінальнага кодэкса сваімі словамі. Змест тэрміну „мужаложства" тлумачыўся праз сінонімы „гомасексуалізм", „педэрастыя", а таксама праз вызначэнне „мужаложствам з'яўляюцца палавыя зносіны мужчыны з мужчынам"[12]. Нават лацінскага тэрміну coitus per anum аўтары падручніка пабаяліся (а можа, яго і не ведалі). Адпаведна, студэнты-юрысты ў БССР нават не вельмі выразна сабе ўяўлялі, што ж пераследавалася крымінальным кодэксам.

Разам з тым, у Расіі некаторыя юрысты адкрыта выступалі за адмену артыкула „мужаложства" і прыводзілі разгорнутую аргументацыю на карысць адмены. Так, супрацоўнікі кафедры крымінальнага права Ленінградскага ўніверсітэта прафесар Міхаіл Шаргародскі і дацэнт Павел Осіпаў настойвалі на „мэтазгоднасці выключэння з дзейнага заканадаўства склада добраахвотнага мужаложства паміж паўнагадовымі" і прыводзілі даволі разгорнутую аргументацыю на карысць адмены першай часткі артыкула 121 КК РСФСР. Так, яны пісалі: „У савецкай юрыдычнай літаратуры ані разу не прадпрымалася спроба падвесці трывалую навуковую базу пад крымінальную адказнасць за добраахвотнае мужаложства, а адзіны довад, які звычайна прыводзіцца (маральная разбэшчанасць суб'екта і парушэнне ім правілаў сацыялістычнай маральнасці), нельга прызнаць слушным, бо адмоўныя ўласцівасці асобы не могуць служыць падставай для крымінальнай адказнасці, а амаральнасць дзеяння недастатковая для абвяшчэння яго злачынным"[13]. Сярод аргументацыі Шаргародскага і Осіпава была і спасылка на дэкрыміналізацыю гомасексуальнасці ў краінах „народнай дэмакратыі" (ГДР, Венгрыі, Чэхаславакіі, Балгарыі, Польшчы).

Раней Павел Осіпаў выказваўся за дэкрыміналізацыю „добраахвотнага мужаложства паміж поўнагадовымі мужчынамі" ў сваёй кандыдацкай дысертацыі, аб чым можна меркаваць па аўтарэфераце[14]. Там жа П. Осіпаў больш шырока крытыкаваў „змены, унесеныя ў сістэму складаў палавых злачынстваў у 30-х гадах".

[12] *Уголовное право БССР. Часть Особенная*, ред. И. Горелик, М. Ефимов и И. Тишкевич, Минск 1971, с. 148.

[13] М. Шаргородский, П. Осипов, *Преступления против личности*, [в:] *Курс советского уголовного права*, т. 3: *Часть особенная*, отв. ред. Н. Беляев и М. Шаргородский, Ленинград, 1973 с. 647.

[14] П. Осипов, *Половые преступления (общее понятие, социальная сущность и система составов)*, автореферат диссертации на соискание ученой степени кандидата юридических наук, Ленинград 1967, с. 11.

Вялікі раздзел „Мужаложства" ўтрымліваецца ў манаграфіі *Палавыя злачынствы* дацэнта Таджыцкага дзяржаўнага ўніверсітэта, былога супрацоўніка АДПУ Якава Якаўлева[15]. З аднаго боку, Я. Якаўлеў таксама выступаў за дэкрыміналізацыю добраахвотнай мужчынскай гомасексуальнасці[16]. Разам з тым, юрыст з Душанбэ рэкамендаваў паліцыі весці картатэкі гомасексуалаў: „Вялікае значэнне для папярэджання палавых злачынстваў маюць аператыўныя мерапрыемствы органаў міліцыі па выяўленні асоб, здольных здзейсніць палавыя злачынствы. Да ліку такіх асоб адносяцца: асобы, якія пакутуюць на палавыя анамаліі, у тым ліку падазраваныя ў гомасексуальных схільнасцях; (...). Для выяўлення ўказаных асоб неабходна выкарыстоўваць спецыяльныя сродкі і метады (аператыўны ўлік, асабісты сыск, назіранне і г.д.), якія маюцца ў распараджэнні органаў міліцыі"[17].

Паслядоўна выказваўся за дэкрыміналізацыю гомасексуальнасці доктар юрыдычных навук Аляксей Ігнатаў з Масквы. У сваёй кнізе 1966 года *Адказнасць за злачынствы супраць маральнасці* ён асцярожна пісаў, што „ў літаратуры неаднаразова выказвалася меркаванне пра немэтазгоднасць карання добраахвотнага мужаложства"[18]. Пры тым прыводзіліся спасылкі на працы расійскіх юрыстаў 1920-х гадоў. У кнізе *Кваліфікацыя палавых злачынстваў*, якая выйшла на восем гадоў пазней, А. Ігнатаў прыводзіў ужо разгорнутую аргументацыю за дэкрыміналізацыю гомасексуальнасці:

„...Выклікае вялікія сумневы мэтазгоднасць карання добраахвотнай гомасексуальнай сувязі дарослых людзей.

У шырокай медыцынскай і юрыдычнай літаратуры, як айчыннай, так і замежнай, даводзілася, што такія гомасексуальныя сувязі не ўяўляюць грамадскай небяспекі і не наносяць шкоды дзяржаве. Таксама даводзілася, што барацьба з такой з'явай, як гомасексуалізм, мерамі крымінальнай рэпрэсіі неэфектыўная, бо ў выпадку паталагічнага характару яна бессэнсоўная, а ў іншых выпадках утрыманне гомасексуаліста ў зняволенні з асобамі аднаго з ім полу можа толькі замацаваць гомасексуальныя тэндэнцыі. Забарона крымінальным законам перашкаджае гомасексуалістам звяртацца да ўрачоў і падвяргацца лячэнню"[19].

Каб абгрунтаваць гэтае сцвярджэнне, аўтар спасылаўся ўжо не толькі на літаратуру 1920-х гадоў, але і на дарэвалюцыйную літара-

[15] Я. Яковлев, *Половые преступления*, Душанбе 1969, с. 303-343.
[16] Там жа, с. 323, 342.
[17] Там жа, с. 414.
[18] А. Игнатов, *Ответственность за преступления против нравственности (Половые преступления)*, Москва 1966, с. 182.
[19] А. Игнатов, *Квалификация половых преступлений*, Москва 1974, с. 233-234.

туру, выдадзеную ў Расіі. Ён таксама спасылаўся на рэзалюцыю IX Міжнароднага кангрэса крымінальнага права (Гаага, 1964), якая рэкамендавала не забараняць добраахвотныя гомасексуальныя стасункі дарослых людзей. Нарэшце, А. Ігнатаў спасылаўся на праўную практыку іншых дзяржаў, як капіталістычных, так і саюзнікаў СССР: „У цяперашні час аніводная з еўрапейскіх сацыялістычных дзяржаў, акрамя Савецкага Саюза, не ўстанаўлівае крымінальную адказнасць за добраахвотны гомасексуалізм”[20]. Тут неабходна агаварыцца, што мужчынская гомасексуальнасць да 1995 года перасьледавалася ў Албаніі. У Румыніі як мужчынская, так і жаночая гомасексуальнасць была дэкрыміналізавана толькі ў 1996 годзе. На час публікацыі кнігі А. Ігнатава *Кваліфікацыя палавых злачынстваў* захоўваўся крымінальны пераслед гомасексуалаў ва ўсёй Югаславіі (у 1977 годзе адбылася дэкрыміналізацыя ў Славеніі, Харватыі, Чарнагорыі і Ваяводзіне). Але Албанія была ў той час у самаізаляцыі, яшчэ ў 1960-я гады выйшла з Савета эканамічнай узаемадапамогі і Арганізацыі Варшаўскай дамовы. Югаславія ніколі ў Арганізацыю Варшаўскай дамовы не ўступала, а ў Савеце эканамічнай узаемадапамогі была назіральнікам. Нарэшце, Румынія захоўвала свой удзел у названых арганізацыях, але Нікалае Чаўшэску імкнуўся мінімізаваць залежнасць ад СССР і праводзіў самастойную знешнюю палітыку ў дачыненнях з капіталістычнымі краінамі і Кітаем. Такім чынам, не даводзіцца здзіўляцца, што Албанія, Румынія і Югаславія выпалі з поля зроку А. Ігнатава, затое былі ім заўважаныя ГДР, Польшча, Чэхаславакія, Венгрыя і Балгарыя.

Кнігі А. Ігнатава і Я. Якаўлева, выдадзеныя ў часы „застою”, насілі грыф „для службовага карыстання”. Гэты грыф у Расіі не зняты да сёння, што азначае пэўныя складанасці ў атрыманні доступу да кніг у дзяржаўных бібліятэках. Але адначасова адна з прыватных фірмаў у Маскве адкрыта прадае ксеракопіі і сканы з кнігі *Кваліфікацыя палавых злачынстваў.* А ў некаторых былых саюзных рэспубліках кнігі даўно знаходзяцца ў адкрытым доступе. Напрыклад, з *Кваліфікацыяй палавых злачынстваў* А. Ігнатава можна свабодна азнаёміцца ў бібліятэцы Тартускага ўніверсітэта, а з *Палавымі злачынствамі* Я. Якаўлева — у бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта. Праўны статус кніг у Беларусі незразумелы, паколькі ў каталогах публічных бібліятэк краіны іх няма.

Што ж хавалі і хаваюць ад шырокага чытача цэнзары? Пра метады раскрыцця рэальных і ўяўных злачынстваў, якія і зараз могуць залічвацца да закрытых звестак, у кнігах А. Ігнатава размова не вядзецца. Кніга *Кваліфікацыя палавых злачынстваў* прысвечана, як і сведчыць назва, юрыдычнай кваліфікацыі дзеянняў следствам і ў судах і нека-

[20] Там жа, с. 234.

торым аспектам крымінальнага працэсу. Хутчэй за ўсё, у часы СССР яна падпала пад грыф „для службовага карыстання” з-за таго, што там прыводзілася статыстыка па некаторых відах злачынстваў. Разам з тым, закрытым для шырокай публікі заставалася меркаванне А. Ігнатава пра неабходнасць адмены артыкула „мужаложства”. У адкрытым друку яно з’явілася ў 1988 годзе ў артыкуле для часопіса „Савецкая юстыцыя”[21].

Вядома, што А. Ігнатаў не толькі выказваўся за дэкрыміналізацыю гомасексуальнасці ў сваіх кнігах, але і спрабаваў узняць гэтае пытанне ў 1979 г. перад кіраўніцтвам міністэрства ўнутраных спраў СССР (беспаспяхова)[22].

Спрабаваў выказацца ў друку за дэкрыміналізацыю гомасексуальнасці і сацыёлаг Ігар Кон. Артыкул на гэтую тэму ён напісаў у 1982 годзе па прапанове галоўнага рэдактара часопіса „Савецкая дзяржава і права” Міхаіла Піскоціна. Станоўчыя водгукі на артыкул далі відныя навукоўцы сексапатолаг Георгій Васільчанка і псіхіятр Дзмітрый М. Ісаеў. Але артыкул не прайшоў абмеркавання на рэдкалегіі часопіса, як не прайшоў і ўзгаднення ў адміністрацыйным аддзеле ЦК КПСС. Спробу публікацыі артыкула І. Кон апісаў у аўтабіяграфіі[23]. Ізноў жа, даступным шырокай публіцы меркаванне Ігара Кона стала толькі ў гады „перабудовы”.

Выказванні за дэкрыміналізацыю мужчынскай гомасексуальнасці маглі з’явіцца ў 1960-я і 1970-я гады дзякуючы працэсам сексуальнай лібералізацыі, якія ішлі ў СССР. Так, у 1955 годзе былі легалізаваныя аборты, а ў 1968 годзе дэмакратызавалася заканадаўства пра шлюб і сям’ю. Разам з тым, у грамадстве адбываліся змены ў сексуальных паводзінах „знізу”. Сексуальная рэвалюцыя ў СССР другой паловы 1980-х, калі інфармацыя пра палавое жыццё і кантрацэпцыю стала шырока даступнай, трапіла на гатовую да яе глебу. Пісьмовыя аўтабіяграфіі і вусныя інтэрв’ю з пецярбуржцамі, сабраныя калектывам расійскіх і фінскіх сацыёлагаў у 1990-я гады, указваюць на значна большую ступень сексуальнай разняволенасці ў Ленінградзе 1960-1970-х гг., чым магло б падацца з-за афіцыйнага замоўчвання тэматыкі сексуальнага жыцця. На гэтым фоне вышэйпрыведзеныя экспертныя выказванні выглядаюць не галасамі дзівакаватых адзіночак, а праявамі ціхіх грамадскіх змен[24].

[21] А. Игнатов, *Об ответственности за половые преступления*, „Советская юстиция”, 1988, № 3, с. 28-29.

[22] И. Кон, *Любовь небесного цвета*, Санкт-Петербург 2001, с. 196.

[23] И. Кон, *80 лет одиночества*, Москва 2008, с. 334-336.

[24] А. Роткирх, *Мужской вопрос. Любовь и секс трех поколений в автобиографиях петербуржцев*, Санкт-Петербург 2011, с. 31-38, 192-195, 268, 284.

Па-свойму „распрацоўвалі” праблематыку спецыялісты ад судовай медыцыны. Сярод іх не было чуваць галасоў за дэкрыміналізацыю. Найбольш падрабязна пра анатамічныя асаблівасці гомасексуалаў пісаў супрацоўнік Бюро судова-медыцынскай экспертызы Масквы і Маскоўскай вобласці І. Блюмін. Ён распрацаваў даволі падрабязную інструкцыю па „экспертызе гомасексуалізму”[25] і нават абараніў кандыдацкую дысертацыю, цалкам прысвечаную судмедэкспертызе „мужаложства”. Дысертацыя насіла завуаляваную назву „Матэрыялы да экспертызы палавых станаў”. У пачатку аўтарэферата дысертацыі рытуальна кляймілася „распуста”:

„Сярод палавых злачынстваў па ступені сацыяльнай небяспекі і складанасці расследавання асобае месца займае мужаложства (гомасексуалізм, педэрастыя).

У капіталістычных краінах гэты від палавога вычварэння атрымаў шырокае распаўсюджанне (...).

Іншае становішча ў нашай краіне. Ліквідацыя прастытуцыі і парнаграфічнай літаратуры, якія культывуюць розныя палавыя вычварэнні, агульнае аздараўленне побыту савецкіх людзей і маральны кодэкс прывялі да таго, што ў Савецкім Саюзе выпадкі гомасексуалізму і іншыя палавыя злачынствы сустракаюцца рэдка. Аднак, нягледзячы на гэта, яны ўяўляюць пэўную сацыяльную і грамадскую небяспеку”[26].

І. Блюмін абапіраўся на аўтараў другой паловы XIX стагоддзя (Амбруаза Тардзьё, Ёгана Каспера ды іншых) і выказваў шкадаванні, што з таго часу судовая экспертыза не займалася „мэтаскіраванымі даследаваннямі па дадзеным пытанні”. Судова-медыцынскі эксперт прапускаў міма сваёй увагі, што ў большасці краін Еўропы на час абароны яго дысертацыі гомасексуальнасць была дэкрыміналізаваная.

Метады расследавання спраў па артыкуле „мужаложства” апісаны дацэнтам Саратаўскага юрыдычнага інстытута Міхаілам Хлынцовым[27]. Наступная разгорнутая цытата дае ўяўленне пра тое, якім чынам узбуджаліся крымінальныя справы па „мужаложстве” ў расійскай правінцыі (Саратаўская, Куйбышаўская ды іншыя вобласці): „Справы аб мужаложстве сустракаюцца ў следчай практыцы вельмі рэдка. Гэта ў значнай ступені звязана са складанасцямі ў выяўленні такіх злачынстваў. (...) Асаблівасці расследавання мужаложства заключаюцца ў тым, што сведкаў-відавочцаў такога злачынства практыч-

[25] И. Блюмин, *Судебно-медицинская экспертиза половых состояний мужчин*, Москва 1967, с. 48-59.

[26] И. Блюмин, *Материалы к экспертизе половых состояний*, автореф. дис. на соискание ученой степени канд. мед. наук, Москва 1970, с. 3.

[27] М. Хлынцов, *Расследование половых преступлений*, Саратов 1965, с. 141-157.

на не бывае, а ўдзельнікі яго (калі мужаложства здзяйсняецца паводле згоды абодвух бакоў) не схільны даводзіць свае дзеянні да агульнага ведама. (...) Большай часткай нагодамі для ўзбуджэння крымінальнай справы аб мужаложстве з'яўляюцца заявы розных асоб, якія з нейкіх крыніц даведаліся пра факт мужаложства ці звярнулі ўвагу на незвычайныя стасункі паміж двума мужчынамі, на дзівакаватасць у іх паводзінах, на іх падазроныя схільнасці і звычкі ці заспелі ўдзельнікаў мужаложства на месцы злачынства. Часам такія заявы могуць паступіць ад асоб, якіх тая ці іншая асоба схіляла да мужаложства ці знаёмым якіх рабілася падобная прапанова"[28]. На наступнай старонцы ізноў падкрэсліваецца роля пільных суседзяў у завядзенні крымінальных спраў супраць гомасексуалаў: „Не рэдкія факты, калі самі заяўнікі, западозрыўшы кепскае ў паводзінах тых ці іншых асоб, пачынаюць прыглядацца да абставін сустрэч паміж падазраванымі, асабліва калі гэтыя асобы не маюць паміж сабой нічога агульнага, і паведамляюць у адпаведныя органы пра такую сустрэчу неадкладна, што дазваляе часам заспець злачынцаў на месцы злачынства"[29].

### Крымінальная статыстыка: архіўныя крыніцы пра колькасць асуджаных за „мужаложства"

Як вядома, у СССР большая частка статыстыкі была сакрэтнай. Гэта тычылася і крымінальнай статыстыкі. Апублікаваных дадзеных пра абсалютную колькасць пакараных няма, але цэнзура дазволіла агучыць, што ў 1961-1973 гадах судзімасць па артыкуле 119 у БССР складала ад 0,02% да 0,7% ад ліку асуджаных за злачынствы супраць асобы[30].

Здаецца, упершыню (у абсалютных лічбах) статыстыка асуджэнняў у СССР па артыкуле „мужаложства" была апублікавана Цііітам Вэйспакам у 1991 годзе. Гэтая статыстыка датычылася толькі Эстоніі, была толькі за 1960-1989 гады і паходзіла з архіва Міністэрства юстыцыі Эстонскай Рэспублікі[31].

У расійскім перакладзе кнігі Дэна Хілі *Гомасексуальная цяга ў рэвалюцыйнай Расіі* змешчаны невялікі дадатак пад назвай „Колькі ўсяго ахвяр закона супраць мужаложства?"[32]. У гэтым дадатку англійскі

[28] Там жа, с. 145-146.

[29] Там жа, с. 147.

[30] И. Горелик, И. Тишкевич, *Вопросы уголовного права (Особенной части) в практике Верховного Суда БССР*, Минск 1976, с. 14.

[31] T. Veispak, *Homosexuality in Estonia in the 20th Century: Ideological and Juridical Aspects*, [in:] *Sexual Minorities and Society: the Changing Attitudes toward Homosexuality in the 20th Century Europe. Papers presented to the international conference in Tallinn May 28-30, 1990*, ed. by U. Parikas and T. Veispak, Tallinn 1991, p. 112.

[32] Д. Хили. *Гомосексуальное влечение в революционной России...*, с. 311-316.

даследчык прыводзіць архіўныя статыстычныя звесткі пра колькасць асуджаных па артыкуле „мужаложства" ў РСФСР за 1935-1950 гады (гэтыя звесткі ўрывачныя, няпоўныя) і пра колькасць асуджаных па артыкуле „мужаложства" ў СССР і РСФСР за 1961-1982 гады. Таксама Хілі перадрукоўвае звесткі Джэймса Рыярдана па асуджэннях у СССР у 1987-1990 гадах і ў РСФСР у 1991 годзе (падрабязней дакладнасць гэтых звестак разглядаецца ніжэй).

Дэн Хілі карыстаўся пераважна статыстыкай Міністэрства юстыцыі СССР. У сваім даследаванні мы пайшлі па аналагічным шляху і звярнуліся да статыстыкі Міністэрства юстыцыі БССР, якая захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (далей: НАРБ). Крымінальная статыстыка БССР рассакрэчана толькі па 1960 год уключна. Даваенныя фонды міністэрства юстыцыі захаваліся вельмі ўрывачна, статыстыка даваеннага часу не захавалася. Звесткі пра колькасць асуджаных па розных артыкулах крымінальнага кодэкса можна атрымаць з запоўненых бланкаў формы № 10. У гэтых бланках, якія выпрацоўваліся ў Маскве і былі аднолькавымі для ўсяго СССР, была асобная графа для артыкула 154а КК РСФСР і адпаведных артыкулаў крымінальных кодэксаў іншых рэспублік. У фондзе Міністэрства юстыцыі БССР захоўваюцца штоквартальныя справаздачы з абласцей. У кожнай вобласці рабілася асобная справаздача па судах першай інстанцыі („народных судах") і асобная — па абласным судзе. Гэтыя справаздачы абагульняліся ў Міністэрстве юстыцыі ў квартальныя, а затым і гадавыя рэспубліканскія, якія высылаліся ў Міністэрства юстыцыі СССР у Маскву (копіі захоўваліся ў Менску). Па справаздачах формы № 10 можна бачыць у якім квартале і ў якой вобласці былі асуджаны (ці апраўданы, ці справы ў дачыненні да іх спынены) людзі па тым ці іншым артыкуле. Больш за тое, у форме № 10 прыводзяцца звесткі пра прысуды, сацыяльнае паходжанне і ўзрост асуджаных і месца здзяйснення „злачынстваў" (горад ці вёска).

У статыстыцы не праводзіцца адрозненне паміж асуджанымі па першай і другой частках артыкула $235^1$ Крымінальнага кодэкса БССР. У большасці выпадкаў, аднак, колькасць асуджаных па першай і другой частках артыкула можна высветліць ускосна — праз працягласць пакарання.

Статыстыка першых пасляваенных гадоў недакладная — часта клеркі з абласных аддзелаў юстыцыі блыталі нумары артыкулаў ці ўпісвалі колькасць асуджаных па адным артыкуле ў графу асуджэнняў па іншым. У статыстычных бланках формы № 10, якія распаўсюджваліся Наркаматам (Міністэрствам) юстыцыі СССР, была асобная графа для асуджаных па артыкуле „мужаложства". У друкаваных бланках указваўся нумар артыкула Крымінальнага кодэкса РСФСР

і прапаноўвалася ўпісаць ад рукі нумар адпаведнага артыкула крымінальнага кодэкса савецкай рэспублікі. Часта адпаведнікам артыкула 154а КК РСФСР указваўся не артыкул 235[1] КК БССР, але артыкул 235, 235а, 236 ці нейкі іншы. Адпаведна, асуджаныя па артыкуле 235[1] маглі трапіць у графу „іншыя злачынствы супраць асобы".

Так ці іначай, але колькасць асуджаных у 1945-1960 гадах заставалася мізэрнай. Звяртае на сябе ўвагу, што ў некалькіх выпадках тэрмін зняволення асуджаных быў ніжэй за ніжні парог магчымага па артыкуле 235[1] (тры гады). Верагодна, быў прыменены артыкул 51 КК БССР: „Калі суд прызнае мэтазгодным назначыць меру сацыяльнай аховы ніжэй ніжэйшай мяжы размеру, устаноўленага адпаведным артыкулам гэтага Кодэкса, або выбраць іншую менш цяжкую меру, не ўказаную ў гэтым артыкуле, то суд можа гэта зрабіць, але не інакш, як дакладна выклаўшы ў прыгаворы матывы змякчэння"[33]. Верагодна, гэтая самая норма была прыменена ў 1958 годзе, калі па частцы 2 артыкула 235[1] двое былі асуджаны Гомельскім абласным судом менш, чым на пяць гадоў зняволення.

Бачна, што ў пераважнай большасці выпадкаў месцам здзяйснення „злачынстваў" названыя гарады і рабочыя пасёлкі, а не сельская мясцовасць (большасць жыхароў Беларусі тады яшчэ жыла на вёсцы). Гэта можна звязаць з большай заўважнасцю гомасексуальнасці ў гарадах (наяўнасць месцаў сустрэч гомасексуалаў, зачаткаў субкультуры).

У некалькіх выпадках артыкул 235[1] быў прыменены да зняволеных. Гэта бачна з дакументаў па форме № 11 („Судзімасць за асобныя віды злачынстваў па галінах народнай гаспадаркі і дзяржаўнага кіравання"), у якіх асобна адзначана колькасць асоб, асуджаных за злачынствы, здзейсненыя ў месцах зняволення, у тым ліку па арт. 154а КК РСФСР і аналагічных артыкулах крымінальных кодэксаў іншых саюзных рэспублік. У гэтай форме таксама ўказвалася, хто здзейсніў злачынствы — зняволеныя ці работнікі месцаў зняволення. Па прысуджаных тэрмінах пазбаўлення свабоды (да пяці год) бачна, што прымянялася першая частка артыкула 235[1]. Можна меркаваць, што ён выкарыстоўваўся адміністрацыяй карных устаноў, каб прынізіць непакорных зняволеных і пакінуць іх у месцах пазбаўлення волі на больш працяглы тэрмін.

[33] *Крымінальны кодэкс Беларускай ССР. Афіцыяльны тэкст са зменамі на 1 мая 1957 года і з дадаткамі сістэматызаваных матэрыялаў (на беларускай і рускай мовах)*, Мінск 1957, с. 14.

**Табліца 1.** Колькасць асуджаных па артыкуле 235[1] КК БССР (1945-1960 гады)

| Год | Коль-касць асуджа-ных | Заўвагі | Крыніца |
|---|---|---|---|
| 1945 | 0 | | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 304 |
| 1946 | 1 | Асуджаны ў Брэсцкай вобласці ў II квартале 1946 г. да пазбаўлення волі тэрмінам 5 год, служачы, узрост ад 26 да 50 год, месца здзяйснення „злачынства" – сельская мясцовасць; яшчэ адзін чалавек апраўданы. | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 305, арк. 57-57 адв., 119-119 адв. |
| 1947 | 0 | | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 306 |
| 1948 | 2 | Абое асуджаны ў I квартале 1948 г. у Магілёўскай вобласці да пазбаўлення волі тэрмінам 5 год, абое ўзростам ад 26 да 50 год, месца здзяйснення „злачынства" – гарады і рабочыя пасёлкі, 1 з асуджаных – рабочы, 1 – „нетрудящийся элемент". | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 310, арк. 2-2 адв., 7-7 адв. |
| 1949 | 0 (1?) | Агульнарэспубліканскія справаздачы не паказваюць асуджаных, але справаздачы па Мінскай вобласці даюць 1 асуджанага ў I квартале, які быў пазбаўлены свабоды на тэрмін больш за 3 гады да 4 год, сацыяльная група – „служачыя і іх сем'і", узрост ад 26 да 50 год, месца здзяйснення „злачынства" – „гарады і рабочыя пасёлкі". | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 313, арк. 17-17 адв., 260-260 адв. |
| 1950 | 0 | | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 315, 316 |
| 1951 | 1 | Асуджаны ў Палескай вобласці ў III квартале да пазбаўлення свабоды „звыш 7 да 8 год уключна", сацыяльная група – „служачыя і іх сем'і", узрост ад 40 да 49 год, месца здзяйснення злачынства – „гарады і рабочыя пасёлкі". | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 323, арк. 94-94 адв.; Там жа, спр. 324, арк. 121-121 адв. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1952 | 2 | У I квартале ў Гродзенскай вобласці адзін апраўданы і двое асуджаны. У адным выпадку – „пазбаўленне свабоды да аднаго года ўключна”, у другім – „пазбаўленне свабоды звыш 1 года да 2 гадоў уключна”. 1 асуджаны з сацыяльнай групы „рабочыя і іх сем'ї”, 1 – з групы „іншыя”, аднаму – „ад 25 да 29 гадоў”, другому – „ад 30 да 39 гадоў”, 1 – член УЛКСМ, 1 раней быў судзімы за „аднародныя злачынствы”. Месца здзяйснення „злачынства”: у адным выпадку – „гарады і рабочыя пасёлкі”, у другім – „сельскія мясцовасці”. | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 330, арк. 12-12 адв.; Там жа, спр. 331, арк. 74-74 адв. |
| 1953 | 1 | Асуджаны ў Віцебскай вобласці ў IV квартале да „пазбаўлення свабоды звыш 7 да 8 гадоў уключна”, сацыяльная група „рабочыя і члены іх сем'яў”, узрост „ад 18 да 19 гадоў”, раней судзімы „за разнародныя злачынствы”, месца здзяйснення „злачынства” – „гарады і рабочыя пасёлкі”. | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 338, арк. 70-70 адв.; Там жа, спр. 339, арк. 84-84 адв. |
| 1954 | 0 | | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 346 |
| 1955 | 0 (1?) | Агульнарэспубліканскія справаздачы не паказваюць асуджаных, але справаздача па Гомельскай вобласці за IV квартал дае 1 асуджанага, які быў пазбаўлены свабоды на тэрмін больш за 4 гады да 5 год уключна, сацыяльная група – „іншыя”, узрост ад 25 да 29 год, раней судзімы „за разнародныя злачынствы”, месца здзяйснення „злачынства” – „гарады і рабочыя пасёлкі”. | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 352, арк. 73-73 адв., 135-135 адв. |
| 1956 | 4 | Усе 4 асуджаны ў Віцебскай вобласці да пазбаўлення свабоды звыш 4 да 5 год уключна, раней судзімыя „за разнародныя злачынствы”, месцы здзяйснення „злачынстваў” – „гарады і рабочыя пасёлкі”, сацыяльная група – „іншыя”, узрост: „ад 18 да 19 год” – 1, „ад 25 да 29 год” – 3. Трое асуджаны ў II квартале, адзін – у III квартале. | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 358, арк. 25-25 адв., 43-43 адв., 122-122 адв. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1957 | 4 | Трое асуджаны ў I квартале ў Брэсцкай вобласці, усе трое – зняволеныя, 2 асуджаны да пазбаўлення свабоды „звыш 3 да 4 год уключна”, 1 – „звыш 4 да 5 год уключна”; узрост „ад 20 да 24 год” – 1, „ад 25 да 29 год” – 2.<br>Чацвёрты асуджаны ў II квартале ў Гомельскай вобласці да пазбаўлення свабоды „звыш 1 да 2 год уключна”, сацыяльная група – „рабочыя і члены іх сем’яў”, узрост „ад 40 да 49 год”, месца здзяйснення „злачынства” – „гарады і рабочыя пасёлкі”. | НАРБ,<br>ф. 99, воп. 6,<br>спр. 364,<br>арк. 1-1 адв.,<br>28-28 адв.;<br>Там жа,<br>спр. 365,<br>арк. 1-1 адв.,<br>24-24 адв.,<br>144-144 адв. |
| 1958 | 6 | Двое асуджаны Гомельскім абласным судом у III квартале па арт. $235^{1}$ ч. 2 да пазбаўлення свабоды „звыш за 3 да 4 год уключна”, сацыяльная група – „іншыя”, узрост „ад 18 да 19 год” – 1, „ад 20 да 24 год” – 1, абодвух судзілі раней „за разнародныя злачынствы”, месца здзяйснення „злачынства” – „гарады і рабочыя пасёлкі”, час здзяйснення – „у дадзеным годзе”.<br>Яшчэ двое асуджаны ў IV квартале ў Мінскай вобласці, да пазбаўлення свабоды „звыш за 2 да 3 год уключна” – 1, „звыш за 4 да 5 год уключна” – 1, сацыяльная група „рабочыя і члены іх сем’яў” – 1, „служачыя і члены іх сем’яў” – 1, узрост „ад 25 да 29 год” – 1, „50 год і старэйшы” – 1, месца здзяйснення „ў гарадах і рабочых пасёлках” – 2, час здзяйснення „ў дадзеным годзе” – 2.<br>Таксама двое асуджаны ў IV квартале ў Магілёўскай вобласці да пазбаўлення свабоды „звыш за 4 да 5 год уключна”, абое з сацыяльнай групы „рабочыя і члены іх сем’яў”, абодвух судзілі раней „за разнародныя злачынствы”, узрост „ад 25 да 29 год” – 1, „ад 30 да 39 год” – 1, месца здзяйснення „ў гарадах і рабочых пасёлках” – 2, час здзяйснення „ў дадзеным годзе” – 2. | НАРБ,<br>ф. 99, воп. 6,<br>спр. 372,<br>арк. 49-<br>49 адв.,<br>93-93 адв.,<br>95-95 адв.,<br>160-160 адв. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1959 | 4 | Двое асуджаны ў I квартале ў Гомельскай вобласці да пазбаўлення свабоды „звыш за 2 да 3 год уключна" – 1, „звыш за 4 да 5 год уключна" – 1, сацыяльная група „служачыя і члены іх сем'яў" – 1, „калгаснікі і члены іх сем'яў" – 1, узрост „ад 25 да 29 год" – 1, „ад 40 да 49 год" – 1, месца здзяйснення „ў гарадах і рабочых пасёлках" – 2, час здзяйснення „ў мінулым годзе" – 2.<br>Трэці асуджаны ў I квартале ў Магілёўскай вобласці да пазбаўлення свабоды „звыш за 4 да 5 год уключна", сацыяльная група – „рабочыя і члены іх сем'яў", узрост „ад 18 да 19 год", месца здзяйснення – „у гарадах і рабочых пасёлках", час здзяйснення – „у мінулым годзе".<br>Чацвёрты асуджаны ў III квартале ў Гомельскай вобласці да пазбаўлення свабоды „звыш за 7 да 8 год уключна", сацыяльная група – „рабочыя і члены іх сем'яў", „рабочы, які пакінуў работу", узрост „ад 25 да 29 год", быў судзімы раней „за аднародныя злачынствы", месца здзяйснення – „у сельскіх мясцовасцях", час здзяйснення – „у дадзеным годзе".<br>Адзін падсудны апраўданы ў III квартале ў Гродзенскай вобласці. | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 377, арк. 8-8 адв., 16-16 адв., 60-60 адв., 165-165 адв. |
| 1960 | 0 | | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 386 |

Карыстаючыся спасылкамі Дэна Хілі[34] на фонды Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі (Государственный архив Российской Федерации, далей: ГАРФ), атрымалася знайсці статыстыку наконт асуджаных па Беларускай ССР з 1961 года і пазней.

Звесткі за 1961-1991 гады ўзятыя з дакументаў па форме № 10а. Формы былі зменены ў сувязі з увядзеннем у дзеянне ў 1961 годзе новых крымінальных кодэксаў саюзных рэспублік. У гэтых дакументах няма дадзеных пра месцы здзяйснення „злачынстваў" (горад/вёска), прызначаныя пакаранні, узрост „злачынцаў" і сацыяльныя групы, з якіх яны паходзілі. У Маскве адклаліся толькі справаздачы саюзных рэспублік, абласных справаздач туды не дасылалі, адпаведна, мы не можам лакалізаваць асуджаных па абласцях.

[34] Д. Хили, *Гомосексуальное влечение в революционной России...*, с. 316.

Дзеля параўнання мы прыводзім звесткі за 1961-1991 гады ў табліцы 2 не толькі па БССР, але таксама па СССР, РСФСР, Украінскай ССР, Літоўскай ССР і Малдаўскай ССР. З гэтых звестак можна бачыць, што былі агульнасаюзныя трэнды па колькасці асуджаных, але ў асобных саюзных рэспубліках у розныя гады можна пабачыць даволі значнае адхіленне ад іх. Відавочна, што на колькасць асуджаных уплывала пазіцыя мясцовага кіраўніцтва міністэрства ўнутраных спраў, пракуратуры, камітэта дзяржбяспекі, а магчыма — і партыйных органаў[35].

Можна заўважыць, што колькасць асуджаных карэлюе з палітычнымі эпохамі. Так, у 1945-1954 гадах у сярэднім асуджаўся менш, чым адзін чалавек у год. За 1955-1964 гады — у сярэднім 4,7 асуджаных у год. За 1965-1974 гады — у сярэднім 18,6 асуджаных у год. За 1975-1984 гады — у сярэднім 28,3 асуджаных у год. За 1985-1989 гады — у сярэднім 19,8 асуджаных у год. Такім чынам, можна заўважыць, што ў познесталінскія гады карныя органы на такі экзатычны артыкул як „мужаложства” ўвагі амаль не звярталі. Перад імі стаялі больш пільныя задачы па так званай „барацьбе з бандытызмам”, прымусовай калектывізацыі Заходняй Беларусі, прымусовым утрыманні сялян у калгасах, а рабочых на заводах і г.д. У гады хрушчоўскай „адлігі” колькасць асуджаных паступова павялічваецца, каб у гады брэжнеўскага „застою” няўхільна нарастаць. Цікава, што ў гады гарбачоўскай „перабудовы” колькасць асуджаных змяншалася далёка не адразу і далёка не так хутка, як можна было б чакаць, сыходзячы з дэмакратычнай рыторыкі той эпохі. Інерцыя ў паліцыі, пракуратуры і судах была дастаткова вялікая, каб працягваць асуджаць па артыкуле „мужаложства” нават за лічаныя месяцы да яго адмены. На жаль, статыстыка асуджэнняў па артыкуле 119 КК БССР/РБ за другую палову 1991 года, 1992 і 1993 гады і пачатак 1994 года застаецца закрытай.

У некаторыя гады можна пабачыць, што колькасць асуджаных істотна ўзрастала, але ўжо на наступны год спадала. Верагодна, гэта вынікі арганізаваных аблаў на гомасексуалаў. На жаль, мы пакуль не можам суаднесці такія аблавы з дырэктыўнымі дакументамі міністэр-

[35] Наконт рэгулявання партыяй крымінальных асуджэнняў па артыкуле „мужаложства” Ігар Кон узгадваў: „Адзін з членаў рэдкалегіі, былы начальнік ленінградскай міліцыі, а затым усімі паважаны прафесар (сапраўды добры спецыяліст і мілы чалавек), проста развёў рукамі ад здзіўлення: як Ігар Сямёнавіч наогул можа ўздымаць гэтае пытанне?! І распавёў, як у свой час ён сабраў вялікі матэрыял на ленінградскіх гомасексуалаў, але ў абкаме партыі яму сказалі: «Ты што, хочаш зачыніць аркестр Філармоніі і Кіраўскі балет?!». Генералу давялося адступіць, але ён запамятаў крыўду, і нават пасля прачытання майго артыкула думка, што ў абкаме былі правы, а ён памыляўся, яго не наведала” (И. Кон, *80 лет одиночества*, Москва 2008, с. 335-336).

ства ўнутраных спраў ці кампартыі. Гэта можна параўнаць з апублікаванай раней статыстыкай па Эстонскай ССР: 1967 год — 17 асуджаных, 1968 год — 1 асуджаны (за 1966 год няма дадзеных)[36].

У Д. Хілі не прыведзена статыстыка па СССР і РСФСР за 1983-1986 гады: ці то яму не хапіла часу на апрацоўку архіваў, ці то ў той час, калі ён працаваў у архіве, дакументы за гэтыя гады яшчэ не былі рассакрэчаныя. Але акурат на гэтыя гады прыпадае пік асуджэнняў у СССР па артыкуле „мужаложства": 1440 асуджаных у 1983 годзе, 1516 — у 1984 г., 1620 — у 1985 г. і 1455 — у 1986 г. У БССР пік асуджэнняў даводзіцца на 1977 год — 49 асуджаных.

Дарэчы сказаць, апублікаваныя Джэймсам Рыярданам[37] і перадрукаваныя Дэнам Хілі лічбы асуджэнняў за 1987-1990 гады не адпавядаюць дадзеным з фонду Міністэрства юстыцыі СССР. Рыярдан у свой час абапіраўся на абрывачныя звесткі, атрыманыя з розных крыніц (газеты „СПИД-инфо", „Литературная газета" і справаздача Міжнароднай камісіі па правах чалавека для гомасексуалаў і лесбіянак), і да таго ж памылкова прыняў дадзеныя па РСФСР за дадзеныя па СССР у цэлым. Прыведзеныя ж у згаданай справаздачы Міжнароднай камісіі звесткі дакладныя; прынамсі, лічбы асуджэнняў па РСФСР за 1989 і 1990 гады супадаюць з лічбамі ў прагледжанай намі статыстыцы[38].

**Табліца 2.** Колькасць асуджаных па артыкуле 119 КК БССР, артыкуле 121 КК РСФСР і аналагічных артыкулах крымінальных кодэксаў саюзных рэспублік (1961-1991 гады)

[36] T. Veispak, *Homosexuality in Estonia in the 20th Century: Ideological and Juridical Aspects*, [in:] *Sexual Minorities and Society: the Changing Attitudes toward Homosexuality in the 20th Century Europe. Papers presented to the international conference in Tallinn May 28-30, 1990*, ed. by U. Parikas and T. Veispak, Tallinn 1991, p. 112.

[37] J. Riordan, *Sexual minorities: the status of gays and lesbians in Russian-Soviet-Russian society*, [in:] *Women in Russia and Ukraine*, ed. by R. Marsh, Cambridge 1996, p. 160-161.

[38] *Права гомосексуалов и лесбиянок в Российской Федерации. Отчет Международной комиссии по правам человека для гомосексуалов и лесбиянок*, подготовлен Машей Гессен, San Francisco 1994, с. 11.

| **Год** | **Коль-касць асуджа-ных у СССР** | **Коль-касць асуджа-ных у РСФСР** | **Коль-касць асуджа-ных ва Украін-скай ССР** | **Коль-касць асуджа-ных у БССР** | **Коль-касць асуджа-ных у Літоў-скай ССР** | **Коль-касць асуджа-ных у Малдаў-скай ССР** | **Крыніца** |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1961 | 705 | 464 | 50 | 10 | 19 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 58, арк. 2, 37, 40 адв., 42, 45 адв., 47, 70 адв., 71 адв., 99, 103, 107, 127, 131 |
| 1962 | 767 | 530 | 42 | 1 | 3 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 69, арк. 2, 150, 154, 158, 178, 182 |
| 1963 | 831 | 592 | 64 | 13 | 5 | 3 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 81, арк. 2, 47, 51, 55, 75, 79 |
| 1964 | 777 | 547 | 47 | 4 | 5 | 0 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 91, арк. 2, 52, 56, 60, 80, 84 |
| 1965 | 627 | 393 | 59 | 5 | 4 | 3 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 102, арк. 2, 50, 54, 58, 78, 82 |
| 1966 | 770 | 485 | 70 | 3 | 4 | 0 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 112, арк. 2, 45, 51 адв., 53, 73, 77 |
| 1967 | 940 | 617 | 68 | 25 | 3 | 1 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 128, арк. 2, 47, 51, 55, 75, 79 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1968 | 756 | 453 | 65 | 20 | 9 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 141, арк. 2, 47, 51, 55, 75, 79 |
| 1969 | 993 | 641 | 67 | 13 | 12 | 1 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 151, арк. 2, 41, 45, 49, 69, 73 |
| 1970 | 1223 | 787 | 84 | 33 | 11 | 6 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 161, арк. 2, 40, 44, 48, 68, 72 |
| 1971 | 1206 | 854 | 75 | 20 | 5 | 5 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 177, арк. 2, 45, 49, 53, 73, 77 |
| 1972 | 1255 | 882 | 57 | 10 | 3 | 4 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 193, арк. 2, 29, 33, 37, 57, 61 |
| 1973 | 1319 | 853 | 96 | 33 | 9 | 0 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 205, арк. 2, 26, 30, 34, 54, 58 |
| 1974 | 1355 | 883 | 95 | 24 | 11 | 6 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 221, арк. 2, 29, 33, 37, 59, 63 |
| 1975 | 1214 | 803 | 88 | 34 | 5 | 6 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 239, арк. 2, 28, 32, 36, 56, 60 |
| 1976 | 1181 | 773 | 87 | 36 | 9 | 3 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 254, арк. 2, 35, 39, 43, 63, 67 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1977 | 1320 | 877 | 85 | 49 | 7 | 7 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 271, арк. 2, 38, 42, 46, 66, 70 |
| 1978 | 1314 | 882 | 72 | 24 | 24 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 285, арк. 2, 36, 40, 44, 64, 68 |
| 1979 | 1262 | 822 | 81 | 23 | 13 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 300, арк. 2, 38, 42, 46, 66, 70 |
| 1980 | 1119 | 708 | 93 | 16 | 6 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 317, арк. 2, 39, 43, 47, 67, 71 |
| 1981 | 1229 | 849 | 76 | 15 | 7 | 5 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 328, арк. 2, 30, 34, 38, 58, 62 |
| 1982 | 1191 | 809 | 78 | 31 | 9 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 368, арк. 2, 27, 31, 35, 55, 59 |
| 1983 | 1440 | 1012 | 95 | 37 | 14 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 393, арк. 2, 32, 37, 41, 61, 65 |
| 1984 | 1516 | 1091 | 120 | 18 | 10 | 5 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 427, арк. 2, 24, 28, 32, 52, 56 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1985 | 1620 | 1106 | 148 | 29 | 3 | 3 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 466, арк. 2, 23, 27, 31, 51, 55 |
| 1986 | 1455 | 1011 | 93 | 23 | 8 | 8 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 500, арк. 2, 27, 31, 35, 55, 59 |
| 1987 | 1155 | 829 | 64 | 17 | 4 | 6 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 533, арк. 2, 25, 29, 33, 53, 57 |
| 1988 | 831 | 592 | 39 | 13 | 4 | 6 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 555, арк. 2, 26, 30, 34, 54, 58 |
| 1989 | 788 | 538 | 45 | 17 | 6 | 3 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 579, арк. 2, 21, 25, 29, 49, 53 |
| 1990 | 732 | 497 | 43 | 12 | няма дадзеных | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 605, арк. 2, 19, 23, 27, 49 |
| 1991 (першае паўгоддзе) | 343 | 247 | 17 | 9 | няма дадзеных | 0 | ГАРФ, ф. Р9492, воп. 6, спр. 650, арк. 2, 9, 13, 18, 36 |

**Надаць гісторыі твар: ад лічбаў да лёсаў**

Тое, як выглядалі крымінальныя справы па артыкуле „мужаложства", мы пакуль не можам уявіць на матэрыялах БССР ці РСФСР. Для большасці гэтых спраў доступ закрыты, бо дзейнічае 75-гадовы тэрмін тайны асабістага жыцця асуджаных. Дэн Хілі ў свой час здолеў адшукаць у архівах дакументы васьмі судовых працэсаў за 1935-1941 гады, якія выкарыстаў пры напісанні сваёй манаграфіі[39]. Пазней Д. Хілі таксама атрымаў доступ да дзвюх крымінальных спраў (1951 і 1959 гадоў) па Ленінградскай вобласці і апублікаваў даволі падрабязны разбор іх[40]. Больш свабодны доступ да крымінальных спраў такой катэгорыі ёсць у прыбалтыйскіх краінах.

Эстонскі мастак Янус Самма некалькі год даследуе жыццё гомасексуалаў у Эстонскай ССР, у тым ліку крымінальны пераслед. Яго выстава „Непрыдатны для працы. Паданне пра старшыню" (куратар Эўджэніо Віола) была размешчана ў эстонскім павільёне на Венецыянскай біенале 2015 года. Выстава распавядала пра старшыню калгаса, якога ў 1960-я гады спачатку пазбавілі пасады і выключылі з партыі за гомасексуальнасць, а потым і асудзілі па артыкуле 118 частка 1 КК ЭССР („мужаложства"). З кнігі, якая суправаджала выставу Я. Саммы, можна атрымаць уяўленне пра тое, як выглядала справа па артыкуле „мужаложства"[41]. Апублікавана хаця і меншая, але даволі прадстаўнічая частка крымінальнай справы: данос, з якога крымінальная справа была распачата, пратаколы допытаў сведак і абвінавачаных, пратакол вочнай стаўкі, акты судова-медыцынскай экспертызы (у тым ліку псіхіятрычнай), урыўкі з пратаколаў судовых пасяджэнняў, судовыя пастановы і іншыя дакументы.

Ад артыкула „мужаложства" ў СССР пацярпелі дзясяткі тысяч людзей. Сярод іх былі і вядомыя людзі, у тым ліку такія, біяграфія якіх звязаная з Беларуссю. Напрыклад, пецярбургскі археолаг Леў Клейн нарадзіўся ў 1927 годзе і пражыў да вайны ў Віцебску, хадзіў у школу з беларускай мовай навучання. Пасля вайны сям'я Клейнаў асела ў Гародні, і менавіта там скончыў педагагічны інстытут і пазней выкладаў у ім малодшы брат Льва, Барыс Клейн. Пачынаў вучыцца ў Гарадзенскім педагагічным інстытуце і Леў Клейн, але ў 1947 годзе вымушаны быў спешна перавесціся ў Ленінградскі ўніверсітэт з-за канфлікту з сакратаром Гарадзенскага гаркама партыі. У 1981 годзе

[39] Д. Хили, *Гомосексуальное влечение в революционной России...*, с. 253-269.

[40] D. Healey, *Comrades, Queers, and „Oddballs": Sodomy, Masculinity, and Gendered Violence in Leningrad Province of the 1950s*, „Journal of the History of Sexuality", Vol. 21, No. 3, September 2012, p. 496-522.

[41] J. Samma, *Not Suitable For Work. A Chaiman's Tale*, curated by Eugenio Viola, Berlin 2015.

Л. Клейн быў арыштаваны і асуджаны на тры гады зняволення па артыкуле „мужаложства”. Прыкладна ў той самы час у Ленінградзе былі арыштаваныя філолаг Канстанцін Азадоўскі (асуджаны нібыта за захоўванне наркотыкаў) і гісторык Арсеній Рагінскі (асуджаны нібыта за падробку дакументаў). Л. Клейн напалягае на тым, што прычынай яго арышту і асуджэння сталі яго занадта незалежныя і нязручныя для навуковага істэблішменту СССР (у першую чаргу, акадэміка Барыса Рыбакова) навуковыя погляды. Паводле звестак Л. Клейна, распараджэнне расправіцца з ім паступіла ад загадчыка аддзела навукі і навучальных устаноў ЦК КПСС Сяргея Трапезнікава[42]. Спачатку Л. Клейна асудзілі да 3 гадоў зняволення, але ён здолеў дамагчыся адмены прысуду, і ў другі раз ён атрымаў тэрмін 1,5 года, якія адбыў. У адрозненне ад Канстанціна Азадоўскага і Арсенія Рагінскага, Леў Клейн так і не быў рэабілітаваны. Яго пазбавілі навуковых ступеняў і званняў і ніколі іх не аднавілі — ён дамогся новых.

Іншая гучная справа па абвінавачанні ў „мужаложстве” — справа кінарэжысёра Сяргея Параджанава, якога арыштавалі ў Кіеве ў снежні 1973 года і асудзілі на 5 год зняволення. Параджанаў быў амніставаны і выпушчаны на год раней за заканчэнне тэрміну пад ціскам міжнароднай артыстычнай грамадскасці. Паводле легенды, вырашальную ролю ў датэрміновым вызваленні Параджанава адыграў Луі Арагон, які асабіста звярнуўся да Леаніда Брэжнева з просьбай вызваліць рэжысёра. Да арышту ў С. Параджанава былі канфлікты з уладамі з-за яго незалежнага характару. Нягледзячы на міжнародную вядомасць, яму не давалі здымаць фільмы. З Беларуссю справа Параджанава звязаная наступным чынам: 1 снежня 1971 года ў Менску прайшла творчая сустрэча з Сяргеем Параджанавым, арганізаваная дзеля прагляду яго фільма „Саят-Нава” („Колер граната”), якога не было ў шырокім пракаце. Пасля паказу фільма рэжысёр выступіў з даволі доўгай прамовай, у якой рэзка выказваўся пра кіраўніцтва Дзяржкіно СССР, кампартыі Арменіі і кампартыі Украіны[43]. Прамова была запісана супрацоўнікамі КДБ Беларускай ССР, а ў далейшым яе стэнаграма трапіла ў Маскву, у КДБ СССР і ЦК КПСС, адкуль была перасланая ў ЦК кампартыі Украіны[44]. Вадзіліся за Параджанавым і іншыя палітычныя „грахі”, таму яго зняволенне лічаць выкліканым палітычнымі прычынамі.

[42] Л. Клейн, *Трудно быть Клейном: Автобиография в монологах и диалогах*, Санкт-Петербург 2010, с. 322-332.

[43] О. Белоусов, *Искусство парадокса (Сергей Параджанов)*, [в:] О. Белоусов, *Мой город*, Минск 2005, с. 261-266.

[44] Л. Григорян, *Параджанов*, Москва 2011, с. 191-194.

Нам невядома, каб нехта раней у Беларусі ставіў пытанне пра рэабілітацыю людзей, асуджаных па першай частцы артыкула „мужаложства” Крымінальнага кодэкса Беларускай ССР (стасункі па ўзаемнай згодзе паміж мужчынамі, якія дасягнулі 18 гадоў). Падаецца відавочным, што такая рэабілітацыя, з верагоднай далейшай выплатай кампенсацый былым асуджаным і іх сем’ям, неабходная. Пры цяперашнім палітычным рэжыме гэта можа здавацца фантастычным, але на выпадак змены палітычнага рэжыму неабходна мець распрацаваны падыход да праблемы.

Шмат часу спатрэбілася, каб былі прызнаныя ахвярамі нацысцкага тэрору гомасексуалы, якія ў 1933-1945 гадах загінулі ці трапілі ў канцэнтрацыйныя лагеры на тэрыторыях, кантраляваных Трэцім Рэйхам. Артыкул 175 крымінальнага кодэкса, уведзены яшчэ за прускім часам, працягваў дзейнічаць у абедзвюх частках Германіі і пасля Другой сусветнай вайны. Зараз ставіцца пытанне пра тое, каб рэабілітаваць пацярпелых ад артыкула 175 пасля 1945 года[45]. Нямецкі вопыт можна вывучаць і пераймаць.

* * *

Рэкрыміналізацыя гомасексуальнасці ў СССР у 1933-1934 гадах была часткай кансерватыўнага павароту ў сталінскай палітыцы 1930-х гадоў („сталінскага тэрмідора”). Артыкул „мужаложства” быў уведзены ў Крымінальны кодэкс БССР 30 красавіка 1934 года.

На тэрыторыі БССР не з’явілася самастойных экспертных поглядаў на стасункі крымінальнага закону да аднаполай мужчынскай сексуальнасці, аднак такія погляды распрацоўваліся ў 1960-1970-я гады спецыялістамі з іншых саюзных рэспублік, у першую чаргу — РСФСР. Некаторыя юрысты (П. Осіпаў, Я. Якаўлеў, А. Ігнатаў), псіхіятры (Г. Васільчанка, Д. Ісаеў), сацыёлагі (І. Кон) адкрыта выказваліся за дэкрыміналізацыю гомасексуальнасці, у тым ліку ў друку.

З раней неапублікаванай статыстыкі вынікае, што за 1945-1990 гады ў БССР па артыкуле „мужаложства” (артыкул 235[1], а з 1961 года — артыкул 119 КК БССР) былі зняволеныя прынамсі 633 чалавекі.

[45] *Homosexualität-en*, herausgegeben von B. Bosold, D. Brill und D. Weitz, im Auftrag des Deutschen Historischen Museums und Schwulen Museums, Berlin 2015, p. 98-99, 112, 130, 156-157, 168, 205; *Self-Confidence and Persistence. Two Hundred Years of History*, ed. by Schwules Museum, Berlin 2004, p. 96-137, 149, 163-164.

**Summary**

**Persecution of male homosexuals in the Belarusian Soviet Socialist Republic: previously unknown statistical data from archival sources**

The penalization of homosexuality in the USSR (1933-4) was a part of a conservative turn in Stalin's policy in the 1930s („Stalin's Thermidor"). Article 235 (*muzhelozhstvo*) was introduced to the Criminal Code of the BSSR on 30 April 1934. On 1 April 1961 a new Criminal Code of the BSSR was introduced, and the article number changed to 119. No independent expert opinions appeared in the BSSR concerning the interrelation between criminal law and male homosexuality, but such opinions were formed during the 1960s and 1970s in other republics of the Soviet Union, mainly in the Russian Soviet Federative Socialist Republic. Some lawyers (P. Osipov, Y. Yakovlev, A. Ignatov), psychiatrists (G. Vasilchenko, D. Isaev) and sociologists (I. Kon) openly supported the decriminalization of homosexuality in their publications. It is evident from previously unpublished statistics that from 1945 up until 1990 at least 633 men were sentenced in the BSSR for *muzhelozhstvo*.

**Streszczenie**

**Prześladowanie homoseksualistów w BSRR: nieznana statystyka ze źródeł archiwalnych**

Penalizacja homoseksualizmu w ZSRR w latach 1933-1934 była częścią konserwatywnego zwrotu w polityce stalinowskiej lat trzydziestych (tzw. stalinowskiego thermidora). Paragraf 235[1] dotyczący „mężołóstwa" został wprowadzony do Kodeksu Karnego BSRR 30 kwietnia 1934 r. 1 kwietnia 1961 r. zaczął obowiązywać nowy Kodeks Karny BSRR, w którym paragraf o „mężołóstwie" otrzymał numer 119. Na obszarze BSRR nie formułowano samodzielnych poglądów eksperckich na stosunek prawa karnego do męskiej seksualności jednopłciowej, jednak takie poglądy w latach 1960-1970 były głoszone przez specjalistów w innych republikach związkowych, w pierwszej kolejności w Rosyjskiej Federacyjnej SRR. Niektórzy prawnicy (P. Osipow, J. Jakowlew, A. Ignatow), psychiatrzy (G. Wasilczenko, D. Isajew), socjolodzy (I. Kon) otwarcie opowiadali się za dekryminalizacją homoseksualizmu, również na łamach prasy. Z wcześniej niepublikowanej statystyki wynika, że w latach 1945-1990 w BSRR z paragrafu o „mężołóstwie" skazano co najmniej 633 osoby.

**Uładzimir Wałodzin** — pracownik naukowy Muzeum Literackiego Maksima Bahdanowicza w Mińsku. Absolwent Wydziału Historycznego Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego w Mińsku i studiów magisterskich w Europejskim Uniwersytecie Humanistycznym w Wilnie. Zainteresowania badawcze: nonkonformizm w BSRR w latach 1950-1980 w wymiarze politycznym, artystycznym, subkulturowym i życia codziennego. Autor publikacji na temat historii sztuki Białorusi w XIX i XX w., historii społeczno-politycznej Białorusi w XX w.

**Віктар Астрога**
(Мінск)

# Гісторыка-славяназнаўчыя даследаванні ў БССР (1945-1991 гг.)

Праблема вывучэння развіцця гістарычнай навукі Беларусі заўсёды захоўвае сваю актуальнасць. Аналіз досведу і вынікаў дзейнасці нашых папярэднікаў патрэбны для разумення агульнай карціны генезісу нацыянальнай гістарыяграфіі і фарміравання яе розных галін. У гэтай сувязі навуковую цікавасць выклікае развіццё гісторыка-славяназнаўчых даследаванняў у БССР.

Мінулае славянскіх народаў заўсёды прыцягвала ўвагу навукоўцаў БССР. Яшчэ ў 1920-я гг. у рэспубліцы працавалі вядомыя спецыялісты па гісторыі Польшчы і Чэхіі: Уладзімір Пічэта, Аляксандр Савіч, Стэфан Гельтман, Ян Віткоўскі, Антон Ясінскі і інш. Гэтая галіна была прадстаўлена пэўнай колькасцю публікацый. Але ў цэлым вывучэнне гісторыі славян у БССР яшчэ з даваеннай пары развівалася ў агульным рэчышчы савецкага славяназнаўства. Разам з тым, кола краін, якія вывучаліся, было вузкім. Найбольш актыўна распрацоўвалася гісторыя толькі дзвюх з іх: Польшчы і Балгарыі. Эпізадычна даследавалася гісторыя Чэхаславакіі і Югаславіі.

У існуючай гістарыяграфіі развіццю гістарычнай славістыкі ў Беларускай ССР нададзена пэўная ўвага. Напрыклад, тут магчыма вылучыць працы Адама Мальдзіса, Галіны Сяргеевай, Пятра Петрыкава і Уладзіміра Міхнюка аб агульным стане развіцця славяназнаўства ў БССР[1]. Генезіс гістарычнай балгарыстыкі аналізаваў Давід Мельцэр[2]. Значная ўвага надавалася гістарыяграфіі Заходняй Беларусі міжваеннага перыяду, што можна разглядаць у пэўным сэнсе і як частку польскай гісторыі. Сярод вядомых аўтараў — Іосіф Хаўратовіч, Вячаслаў Лявонавец, Генадзь Вахтомаў. Аднак тэма гісторыка-славяна-

[1] Г. В. Вахтомаў, *Станаўленне гістарыяграфіі рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі*, «Веснік Акадэміі навук Беларускай ССР», серыя грамадскіх навук,1988, № 5, с. 113-125; В. Ц. Леанавец, *Гістарыяграфія рэвалюцыйнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы працоўных Заходняй Беларусі*, «Веснік Акадэміі навук Беларускай ССР», серыя грамадскіх навук,1986, № 4, с. 65-72; Г. Г. Сяргеява, *Гісторыя славянскіх народаў у працах беларускіх савецкіх даследчыкаў*, Мінск 1988, 36 с.

[2] Д. Б. Мельцер, *Советская историческая болгаристика в Белоруссии*, [у:] *Советская болгаристика: Итоги и перспективы: материалы международной научной конференции, посвященной 1300-летию Болгарского государства, Львов, январь 1981 г.*, Москва 1983, с. 119-126.

знаўчых даследаванняў у БССР не з'яўляецца добра распрацаванай і патрабуе працягу ў сваім вывучэнні, асабліва па храналагічных перыядах, у нашым выпадку ў 1945-1991 гг., часу актыўнага стварэння беларускага славяназнаўства.

У пасляваенны перыяд гісторыка-славяназнаўчая праблематыка пераважала ў навуковых даследаваннях спецыялістаў Савецкай Беларусі ў галіне Новай і Найноўшай гісторыі. Штуршком развіцця беларускага славяназнаўства стала стварэнне ў 1959 г. пры АН БССР Беларускага камітэта славістаў. Па падліках аўтара, за перыяд з 1945 па 1991 гг. выйшла ў свет звыш 200 рознага роду публікацый па гэтай праблематыцы. У яе межах безумоўны прыярытэт аддаваўся гісторыі Польшчы (140 публікацый), затым Балгарыі (каля 60), Чэхаславакіі (15) і Югаславіі (3). Характэрна, што па дадзеных даведніка «Гісторыкі-славісты СССР» (1981), у цэлым па Савецкім Саюзеназіраўся той жа рэйтынг: па гісторыі Польшчы мелася 142 даследчыкі, Балгарыі — 105, Чэхаславакіі — 74, Югаславіі — 48[3]. З пункту гледжання цікавасці да гістарычных перыядаў, ён пераважна выяўляўся па Новай гісторыі. Гэта практычна было 60% усіх публікацый, а ў сярэднім па СССР — 45%. Тэматычна найбольшую ўвагу даследчыкаў выклікалі тэмы сацыялістычнага будаўніцтва, дзейнасці мясцовых камуністычных партый, супрацоўніцтва гэтых краін з СССР і БССР.

Вывучэнне кожнай са славянскіх краін мела сваю тэматычную спецыфіку. Так, навукоўцы-паланісты адносна вялікую ўвагу звярталі на міжваенны перыяд польскай гісторыі, сацыялістычнае будаўніцтва, дзейнасць Польскай аб'яднанай рабочай партыі (ПАРП/ PZPR), савецка-польскія адносіны і становішча Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы. Храналагічна звыш за палову ўсіх публікацый прыходзілася на 1970-1980-я гг. Доля рознага роду манаграфій у іх агульнай масе складала ў сярэднім 25%. Парадаксальна, але факт, у даведніку «Гісторыкі-славісты СССР», выдадзеным у Харкаве ў 1969 г., у ліку 200 савецкіх славістаў адзначана толькі 4 беларускія: Наталля Гусакова, Севярын Малевіч, Д. Б. Мельцэр і Аляксандр Хацкевіч[4]. На наш погляд, гэтая лічба некарэктная і зменшаная. У 1981 г. у маскоўскім біябібліяграфічным слоўніку-даведніку іх колькасць была некалькі вышэй, аднак таксама недакладная. Але такі быў знешні погляд калег на кадравы патэнцыял славістыкі БССР. Па дадзеных даведніка, Беларусь з'яўлялася трэцяй рэспублікай у Савецкім Саюзе па колькас-

[3] *Историки-слависты СССР: биобиблиографический словарь-справочник*, сост. С. И. Сидельников [и др.], Москва 1981, с. 38.

[4] *Историки-слависты СССР: биобиблиографический справочник*, сост. С. И. Сидельников, Г. И. Чернявский, Харьков 1969, 109 с.

ці гісторыкаў-славістаў (26 спецыялістаў) пасля Расіі (235) і Украіны (124), а Мінск — пятым цэнтрам у гэтай галіне пасля Масквы, Кіева, Львова і Ленінграда. Такім чынам, гістарычная паланістыка была найбольш папулярным у Савецкай Беларусі навуковым напрамкам у галіне замежнай гісторыі. На яе развіццё вялікі ўплыў аказвала і палітычная кан'юнктура. Да прыкладу, у 1993 г. у адным з выданняў Інстытута славяназнаўства і балканістыкі Расійскай АН адзначалася: «На (...) развіццё савецкай славістыкі асабліва моцнае ўздзеянне (...) аказала шырока разгорнутая сістэма мер па палітызацыі савецкага грамадазнаўства. Не столькі ад навуковых, колькі ад палітычных меркаванняў залежаў выбар тэматыкі даследаванняў»[5].

У Беларускай ССР кола краін, якія вывучаюцца гісторыкамі-славістамі, як ужо адзначалася, было нешырокім. Так, у 1978 г. вядомы беларускі славіст А. І. Мальдзіс, выступаючы на міжнароднай канферэнцыі па праблемах славянскай гісторыі, канстатаваў, што «найбольш актыўна і ўсебакова вывучаюцца пытанні беларуска-польскага культурнага ўзаемадзеяння», але «ўсё яшчэ нязначны лік славістаў, якія займаюцца Балгарыяй, Чэхаславакіяй і асабліва Югаславіяй»[6].

Гісторыя Польшчы прыцягвала ўвагу навукоўцаў БССР яшчэ з 1920-х гг. У значнай ступені на гэта ўплываў фактар непасрэднага суседства з гэтай краінай і яе цесна звязанае з Беларуссю мінулае. У выніку беларускія гісторыкі апынуліся ў першых шэрагах савецкай паланістыкі. У цэлым беларуская савецкая гістарычная паланістыка за ўвесь перыяд з 1921 па 1991 гг. налічвала, па падліках аўтара, звыш 300 рознага роду навуковых і навукова-папулярных публікацый, у тым ліку звыш сотні кніг і брашур. На даваенны і пасляваенны перыяды прыпадае прыкладна роўная іх колькасць.

Прыярытэтны заходнебеларускі аспект польскай праблематыкі знаходзіўся ў полі зроку навукоўцаў БССР да і пасля вайны. Першым пасляваенным артыкулам па гісторыі Заходняй Беларусі стала абагульняючая праца акадэміка Уладзіміра Перцава, апублікаваная ў 1947 г.[7] Сярод распрацаваных тэм — роля і дзейнасць кампартыі Заходняй Беларусі ў рэвалюцыйным і нацыянальна-вызваленчым руху. Але рэальна маштабныя даследаванні ў гэтай галіне пачаліся пасля 1956 г. У наступныя гады найбольш актыўна ў гэтым накірунку працавалі Уладзімір Лады-

[5] *Славяноведение в СССР. Изучение южных и западных славян. Биобиблиографический словарь*, Нью-Йорк 1993, с. 14.

[6] А. И. Мальдис, *Изучение славянских культур в Белоруссии*, [у:] *Комплексные проблемы истории и культуры народов Центральной и Юго-Восточной Европы: Итоги и перспективы исследований*, Москва 1979, 288 с.

[7] У. Перцаў, *Барацьба працоўных Заходняй Беларусі за сваё вызваленне ў перыяд польскай аккупацыі (1921-1939 гг.)*, «Бальшавік Беларусі», 1947, № 12, с. 30-38.

сеў, Пётр Зялінскі, Барыс Клейн, Уладзімір Палуян, Аляксандр Мацко[8]. З 1960-х гг. заходнебеларускую праблематыку пачалі браць у якасці тэм дысертацыйных даследаванняў. Сярод вядомых аўтараў, якія вывучалі рэвалюцыйны і нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі: С. Г. Анісім, Тамара Глінская, Аляксандр Царук, У. А. Палуян, Іван Палуян, Мікалай Ракевіч, А. А. Сарокін, А. М. Мацко, Б. С. Клейн. У некаторых працах раскрывалася сумесная барацьба палякаў і беларусаў за правы працоўных, супраць фашызму, папулярызацыя ленінскіх ідэй. Так, тэме барацьбы КПЗБ супраць фашызму і вайны ў 1934-1938 гг. была прысвечана кандыдацкая дысертацыя і шэраг прац І. Ф. Дзяшко[9]. Некаторыя публікацыі тычыліся эканамічнага становішча Заходняй Беларусі. Аднак у даследаваннях пераважаў аднабаковы падыход да асвятлення тэмы. Але ўжо напрыканцы 1980-х гг. частка аўтараў была далёкая ад стэрэатыпаў ранейшых гадоў. Яны спрабавалі аб'ектыўна асэнсаваць працэсы, якія адбываліся ў міжваенны перыяд на ўсходніх землях Польшчы, выкарыстоўваючы раней недаступныя публікацыі і архіўныя крыніцы[10]. Заходнебеларуская праблематыка мела вялікую актуальнасць, і па падліках беларускага эксперта ў галіне гісторыі Заходняй Беларусі Аляксандра Савіча, у Беларусі па гэтай тэматыцы было падрыхтавана 5 доктарскіх і 28 кандыдацкіх дысертацый, больш за 20 манаграфій, каля 200 артыкулаў і іншых публікацый[11].

Даваенны перыяд уласна польскай гісторыі таксама з'яўляўся аб'ектам навуковых даследаванняў. Найбольш дэталёва вывучанай тэмай стала міжнароднае становішча Польшчы і яе знешняя палітыка. Буйнымі даследчыкамі ў гэтай галіне былі Б. І. Загорскі і Рыгор Лазько[12]. У пуб-

[8] П. И. Зелинский, *Печать КПЗБ в борьбе за свободу*, Минск 1977, 144 с.; У. Ф. Ладысеў, *КПЗБ — арганізатар барацьбы працоўных за дэмакратычныя правы і свабоды (1934-1938 гг.)*, Мінск 1976, 168 с.; А. Н. Мацко, *Революционная борьба трудящихся Польши и Западной Белоруссии против гнёта буржуазии и помещиков. 1918-1939 гг.*, Минск 1972, 335 с.; В. А. Полуян, *Революционно-демократическое движение в Западной Белоруссии (1927-1937 гг.)*, Минск 1978, 359 с.

[9] И. Ф. Дешко, *Борьба коммунистической партии Западной Белоруссии за единый рабочий и народный фронт против фашизма и войны в 1934-1938 гг.*: автореф. дис. канд. ист. наук: 07.00.02, Белорус. гос. ун-т., Минск 1972, 25 с.

[10] Б. Клейн, *Западная Белоруссия: от иллюзий к реальноси*, «Неман»,1989, № 9, с. 125-139.

[11] А. А. Савіч, *Вывучэнне гісторыі КПЗБ і КСМЗБ у другой палове 1950-х — 1990-я гады*, [у:] *Гістарыяграфія гісторыі Беларусі: стан і перспектывы развіцця. Матэрыялы навук. канф., прысвечанай 70-годдзю Інстытута гісторыі НАН Беларусі, Мінск, 6-7 кастрычніка 1999 г.*, Мінск 2000, с. 249.

[12] Б. И. Загорский, *Антисоветская направленность внешней политики буржуазно-помещичьей Польши в 1934-1935 гг.*, «Вопросы истории», 1976, вып. 3, с. 150-157; Г. Г. Лазько, *Польша и франко-советский договор о взаимопомощи (май 1935 — март 1936 гг.)*, «Вопросы истории», 1979, вып. 6, с. 139-148.

ці трэці дзень у кватэру Кабычкіна для далейшага абмеркавання справы і атрымання інструкцый маёй дзейнасці на карысць ДПУ.

У прызначаны дзень прыйшоў да мяне Кабычкін, прапануючы зайсці да яго на вячэру, прычым ён зазначыў, што на вячэры будзе таксама Карытаў. На папрокі з майго боку наконт двухсэнсавай ролі, якую ён адносна мяне адыгрываў, Кабычкін сказаў, што цяпер няма чаго баяцца, што цяпер ён з'яўляецца „іх" чалавекам, што гэтая афера будзе працягвацца нядоўга і пасля яе заканчэння мы выедзем у Маскву ці яшчэ куды-небудзь, дзе ДПУ забяспечыць нам існаванне. Увогуле Кабычкін хутка перайшоў да абмеркавання дзённага парадку бягучай справы, абарочваючы ўсё ў жарты. Маю згоду супрацоўнічаць з К[абычкіным] не магу нічым іншым растлумачыць, як толькі тым, што Кабычкін аказваў на мяне ўплыў. Ён цалкам апанаваў мяне, у сувязі з чым я часта выконваў дзеянні, якія б уласна ніколі не здзейсніў. Падчас вячэры ў Кабычкіна — Карытаў інструктаваў мяне ў справе маёй будучай працы для польскай разведкі. Ён адзначыў, што ўсё павінна адбывацца як і раней, г.зн. што я буду ў далейшым прымаць пошту ад кур'ераў з Польшчы і перадаваць яе Кабычкіну і наадварот. Як супрацоўнік ДПУ я павінен быў атрымліваць месячны заробак у памеры 34 дол[араў]. Гэтае жалаванне я атрымліваў да канца, толькі ў астатні час у сав[ецкіх] рублях па афіцыйным курсе — што складала 66 руб[лёў] з капейкамі. Падчас нашай размовы ў пакоі прысутнічала *жонка Кабычкіна*[23], якая, відавочна, дэтальна ведала ўсю справу. З узаемаадносін Карытава з Кабычкіным я зрабіў выснову, што апошні ў ДПУ добра вядомы і да яго ставяцца як да адданага чалавека. Карытаў забараніў мне непасрэдна камунікаваць з ДПУ наконт маёй працы, а ўсе справы я павінен быў вырашаць толькі праз Кабычкіна, што выконвалася настолькі добра, што Кабычкін выплачваў мне нават заробак. Наколькі прыпамінаю, вясной 1926 г. прыйшоў да мяне кур'ер, якога ДПУ загадала адправіць без матэрыялаў пад выглядам таго, што за ім назіраюць агенты. Гэтае спатканне я дакладна апісаў у сваіх папярэдніх паказаннях, толькі з той розніцай, што ў рэчаіснасці ён не быў пад назіраннем, я паведаміў яму гэта па загадзе ДПУ. Прычына, па якой ДПУ не хацела пераслаць праз яго матэрыялы, мне не вядома. Калі запытаў аб гэтым Кабычкіна, той адказаў мне, што відавочна ДПУ не мае прыгатаванага матэрыялу.

Праз некаторы час пасля гэтага, позняй вясной, прыйшоў да мяне кур'ер Качан. Калі я паведаміў аб гэтым Кабычкіну, той загадаў мне сказаць кур'еру, каб пераначаваў у Мінску, бо матэрыял будзе падрыхтаваны толькі на наступны дзень. Я паўтарыў гэта ўсё Качану — Ка-

[23] У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.

чан паказаў мне сваё пасведчанне (вайсковую кніжку) і спытаў, ці з такім пасведчаннем у Мінску можна зарэгістравацца. Я паглядзеў дакумент і ўбачыўшы, што ён нічым не адрозніваецца ад іншых дакументаў падобнага роду, адказаў сцвярджальна. На другі дзень кур'ер у 3 гадзіны па абедзе прыйшоў у тэатр, атрымаў ад мяне матэрыял і сышоў. Ці быў Качан пад назіраннем ДПУ не ведаю, асабіста я гэтага не заўважыў.

Наколькі я прыпамінаю, *у жніўні 1926 г.*[24] выклікаў мяне Кабычкін да сваёй кватэры, дзе прысутны там Карытаў запытаў — ці не хацеў бы я паехаць у Вільню. Я згадзіўся і ў сувязі з гэтым, праз пэўны час, перад прызначаным папярэдне прыездам кур'ера Качана — Карытаў даў мне падрабязную інструкцыю наконт выезду ў Вільню. Інструкцыя была напісана на машынцы, складала аркуш паперы і ўтрымлівала наступныя пункты: праз знаёмых у Вільні ўсталяваць кантакт з палітычнымі дзеячамі беларускіх антысавецкіх арганізацый (*Беларуская нацыянальная рада*[25]), сарыентавацца ў дзейнасці гэтых арганізацый, пазнаёміцца з асобнымі дзеячамі, даведацца адкуль яны чэрпаюць сродкі на сваю дзейнасць і ў якіх памерах. З дзеячамі левых груп, у прыватнасці, з БСРГ[26] кантактаў не ўсталёўваць. Наконт стасункаў, што пануюць у Расіі, прадстаўляць справу такім чынам, каб схіліць беларусаў з правых арганізацый да пераезду ў СССР, прычым дзеля даверу перадаць, што шэраг беларускіх дзеячаў антыбальшавіцкага лагера, якія пасля прыехалі ў сав[авецкую] Беларусь — былі добра прынятыя, атрымалі пасады і добра жывуць. Для прыкладу я павінен быў называць прозвішчы Пракулевіча[27], Зайца[28], Каліноўскага[29],

[24] У арыгінале падкрэслена сінім алоўкам.

[25] У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.

[26] БСРГ — Беларуская сялянска-работніцкая грамада, беларуская палітычная арганізацыя левавардыкальнага кірунку, якая дзейнічала ў Заходняй Беларусі ў 1926-1927 гг. Па афіцыйных дадзеных налічвала больш за 100 тыс. сяброў.

[27] Уладзімір Пракулевіч (1887-1938) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст. Прыхільнік Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Адзін з арганізатараў Слуцкага паўстання 1920 г. У 1923 г. дзяржаўны сакратар урада БНР на эміграцыі. У маі 1926 г. пераехаў у БССР, працаваў у дзяржаўнай бібліятэцы, Інбелкульце. У 1930 г. арыштаваны па справе „Саюза вызвалення Беларусі". Расстраляны ў 1938 г.

[28] Лявон (Леанард) Заяц (1890-1935) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, юрыст. У 1918 г. дзяржаўны кантралёр у Народным сакратарыяце БНР. З 1919 па 1925 гг. займаў розныя пасады ва ўрадах БНР на эміграцыі. У 1925 г. пераехаў у Мінск, працаваў у наркамаце фінансаў БССР. У 1930 г. арыштаваны па справе „Саюза вызвалення Беларусі", памёр у турме падчас следства.

[29] Уладзімір Каліноўскі (1889-1940) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, юрыст. З 1922 г. пасол польскага сейма I склікання, уваходзіў у Беларускі пасольскі клуб. У 1923 г. рашэннем польскага суда пазбаўлены дэпу-

Красінскага[30] і іншых. Іншых указанняў наконт таго, як забяспечыць жадаючым выезд у СССР мне не было дадзена. Інструкцыя адносна самога выезду ў Польшчу і спосабу паводзін з афіцэрамі польскай разведкі была наступная: выехаць разам з кур'ерам Качанам, зрабіць выгляд нелегалаў па ініцыятыве Качана, пасля пераходу праз граніцу з'явіцца ў найбліжэйшы пост КАП[31] і запатрабаваць даставіць вас у Экспазітуру. У Экспазітуры прадставіць падрабязную арганізацыю рэзідэнтуры (ад Кабычкіна ў запячатаным канверце я вёз спіс людзей, якія працуюць у рэзідэнтуры), затым я павінен быў спытаць аб указаннях наконт далейшай працы, а таксама даведацца аб патрабаваннях Экспазітуры ў інфармацыйнай сферы. Атрымліваючы ўказанні, я павінен быў вывучыць канспіратыўную кватэру, у якой будуць праходзіць перамовы з афіцэрамі, працуючымі са мной. Па меры магчымасці трэба было даведацца іх прозвішчы, апісаць знешнасць, паведаміць пра іншыя падрабязнасці, якія датычацца іх асоб. Калі б мяне прымалі ў памяшканні Экспазітуры, зрабіць назіранні адносна размяшчэння пакояў, абстаноўкі, аховы, асоб, якія там працуюць, а таксама па меры магчымасці распазнаць сакрэтных функцыянераў Экспазітуры. Увогуле мне было загадана звяртаць увагу на ўсё, за чым можна назіраць. Таксама мне было даручана назіраць за спосабам і месцам перапраўкі мяне праз мяжу.

Пры бліжэйшым абмеркаванні пісьмовага задання Карытаў рэкамендаваў мне выкарыстаць для наладжвання кантактаў з беларускімі дзеячамі ў першую чаргу *Аляксея Кабычкіна*[32], затым Аляхновіча[33]. *А. Кабычкіну*[34] нельга было выдаваць нашу дзейнасць на карысць ДПУ, а маю і брата работу ў Экспазітуры мы маглі яму ўзгадваць у агульных рысах. Зазначу, што калі спаткаў Карытава запытаў яго,

тацкага мандата і высланы з Польшчы. Жыў у Мінску, працаваў на розных пасадах у ЦВК БССР, Беларускім дзяржаўным універсітэце.

[30] Мікалай Красінскі (1886-1938) — беларускі грамадска-культурны і царкоўны дзеяч, педагог. З 1920 г. быў сябрам Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. Працаваў выкладчыкам у Віленскай беларускай гімназіі, быў членам Віленскай праваслаўнай духоўнай кансісторыі, выступаў за беларусізацыю Праваслаўнай царквы. У сярэдзіне 1920-х гг. пераехаў у савецкую Беларусь, працаваў у Інбелкульце. У 1930 г. арыштаваны па справе „Саюза вызвалення Беларусі". Расстраляны ў 1938 г.

[31] КАП — Корпус аховы пагранічча.

[32] У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.

[33] Францішак Аляхновіч (1883-1944) — беларускі пісьменнік, драматург, тэатральны дзеяч. У 1926 г. з'яўляўся віцэ-старшынёй паланафільскай Беларускай нацыянальнай рады.

[34] У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.

[35] У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.

як сябе весці, калі і *А. Кабычкін*[35] захацеў бы прыехаць у Расію — Карытаў адказаў, каб я яму сказаў, што гэта яшчэ заўчасна. Пытанне наконт прыезду *А. Кабычкіна*[36] ў Расію я задаў Карытаву таму, што папярэдне Міхаіл К[абычкін] узгадваў, што яго брат мае жаданне прыехаць у Расію. Ніякіх грошай для *А. Кабычкіна*[37] мне не давалі. Ведаю толькі, што пасля майго вяртання з Вільні Міхаіл Кабычкін выслаў брату ад майго імя 50 ам[ерыканскіх] дол[араў]. Ці былі высланы якія грошы пасля гэтага — не ведаю. Далей Карытаў, даючы мне інструкцыі перад выездам, параіў мне затрымацца ў Вільні не менш, як на 3 тыдні, каб мець час на выкананне задання. Неабходна было зблізіцца *з кожным членам беларускай рады*[38], каб разабрацца ў яго характары, інтэлігентнасці, палітычнай дзейнасці, якую той праводзіць. Вывучыць, якія ўплывы мае БНР[39] у сялянскіх масах. Пазнаёміцца з выданнямі гэтай арганізацыі.

Адносна пераходу мяжы Карытаў адзначыў, што ў выпадку майго арышту сав[ецкімі] памежнікамі, я павінен быў патрабаваць у каменданта, каб у маёй справе звязаліся з мінскім ДПУ. Як у тым выпадку я павінен быў паводзіць сябе з кур'ерам Качанам — нічога мне не сказана.

Пасля прыезду ў Вільню, згодна з атрыманымі ў Карытава інструкцыямі, я ўсталяваў стасункі з дзеячамі Беларускай нацыянальнай рады, між іншым, з *Мамонькам*[40]*, Паўлюкевічам*[41]*, Більдзюкевічам*[42]*, Друцкім-Падбярэзскім*[43]*, Аляхновічам і Аляксеем Кабычкіным*[44]. У раз-

[36] У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.

[37] У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.

[38] У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.

[39] Беларуская нацыянальная рада.

[40] Язэп Мамонька (1889-1937) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, адзін з лідараў партыі беларускіх эсэраў. У адзначаны перыяд Мамонька не ўваходзіў у склад Беларускай нацыянальнай рады, а спрабаваў адрадзіць дзейнасць партыі беларускіх эсэраў у Заходняй Беларусі як альтэрнатыву прасавецкай БСРГ. У 1928 г. пераехаў у Латвію, а адтуль — у БССР, дзе быў адразу арыштаваны органамі АДПУ.

[41] Арсень Паўлюкевіч (1891-1941) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, лекар. Адзін з арганізатараў Слуцкага паўстання 1920 г. У 1924 г. утварыў у Вільні паланафільскую Часовую беларускую раду (пасля Беларускую нацыянальную раду), з'яўляўся яе старшынёй. У 1928 г. адышоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці. У 1935 г. арыштаваны за сувязь з савецкай разведкай.

[42] Усевалад Більдзюкевіч (1879-?) — беларускі грамадскі і царкоўны дзеяч. З 1918 г. уваходзіў у склад Рады БНР. У 1920-я гг. быў адным з членаў Часовай беларускай рады і іншых паланафільскіх арганізацый.

[43] Браніслаў Друцкі-Падбярэзскі (1884-?) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, лексікограф, юрыст. У 1920-я гг. уваходзіў у склад шэрагу беларускіх паланафільскіх арганізацый.

[44] Прозвішчы кожнага падкрэслены чырвоным алоўкам.

мове з гэтымі асобамі атрымліваў інфармацыю, якая была мне патрэбна. Для іх арганізоўваў час ад часу вячэры і прыёмы, пакрываючы выдаткі на гэтыя мэты з атрыманых ад Карытава 40 дол[араў].

*Пасля вяртання з Вільні ў Мінск Кабычкін звязаў мяне з Карытавым*[45]. *Я зрабіў дакладны рапарт аб маім побыце ў Вільні і падаў інфармацыю аб Беларускай нацыянальнай радзе*[46], характарыстыку асобных яе членаў, а таксама іншыя дадзеныя згодна з атрыманым заданнем. Наконт агульнага погляду на ўсю работу Рады — характарызаваў яе як арганізацыю, якая не прадстаўляе ніякай вартасці, бо не мае ўплыву на сялянскія масы. Характарызуючы асобных дзеячаў, я ўказаў толькі на *Паўлюкевіча*[47] як на чалавека з цвёрдымі антыбальшавіцкімі перакананнямі, а наконт іншых адзначыў, што за любыя грошы іх можна падкупіць. Пазначыў, што *Аляхновіч*[48] імкнецца да выезду ў СССР і што я дапамог яму даслаць ліст Ульянаву[49], як свайму знаёмаму, каб ён выдаў *Аляхновічу*[50] візу на выезд у СССР. Карытаў зрабіў мне вымову, падкрэсліваючы, што я не меў на гэта паўнамоцтваў і што мог сапсаваць цэлую справу дзякуючы такім пачынанням. Я прадставіў падрабязную справаздачу аб усіх размовах, якія меў з афіцэрамі Экспазітуры, *апісаў іх знешнасць і іншыя дадзеныя, якія датычыліся гэтых афіцэраў*[51]. Затым паўтарыў інструкцыі, якія атрымаў для дзейнасці названай рэзідэнтуры. Заданне для рэзідэнтуры (заданне памятаў дакладна, таму што перад выездам з Вільні вывучыў яго на памяць). *Апісаў таксама шлях, які прайшоў ад мяжы, спосаб і месца перакідкі мяне праз мяжу*[52]. Паведаміў таксама Карытаву пра мітынг БСРГ, які адбыўся ў кінатэатры „Helios" у Вільні *8 жніўня 1926 г.*[53] Калі сказаў Карытаву, што Беларуская нацыянальная рада атрымлівае субсідыі са Староства ў Вільні, — Карытаў адказаў, што гэта няпраўда, што Белар[уская] рада атрымлівае грошы ад „польскай дэфензівы". Увогуле Карытаў быў незадаволены выкананнем мною задання, сцвярджаючы, што я мог атрымаць больш падрабязныя дадзеныя. Прыпамінаю таксама, што Карытаў задаў мне пытанне — ці

45 У арыгінале падкрэслена сінім алоўкам.
46 У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.
47 У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.
48 У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.
49 Аляксандр Ульянаў (1901-1938) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч. У 1925-1928 гг. працаваў дарадцам паўнамоцнага прадстаўніка СССР у Польшчы.
50 У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.
51 У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.
52 У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.
53 У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.

не чуў я чаго-небудзь аб палітычным дзеячу Ваявудскім[54]. Наконт Мамонькі я паведаміў, што спаткаў яго ў Вільні, Мамонька прыехаў нядаўна з Літвы і мае намер нанова распачаць палітычную дзейнасць у Вільні, а таксама хоча разам з Гурыным[55] выдаць нейкую газету. Карытаў загадаў мне ўсё тое, што я яму паведаміў, зрабіць у форме пісьмовага рапарту. Рапарт такі напісаў. Ён складаў 8 старонак рукапіснага тэксту.

Неўзабаве пасля прыезду з Вільні я страціў пасаду, аб чым ужо раней падрабязна расказаў. Кабычкін М. у той час атрымаў пасаду рэферэнта ў Камісарыяце гандлю сав[ецкай] Беларусі. Пасада прыбытковая, ён атрымліваў спачатку 140 руб., затым 180 руб. штомесяц.

З гэтага часу, калі кур'еры прыязджалі да мяне, я паведамляў пра гэта па тэлефоне Кабычкіну (тэл. 10-43), а дакументы насіў у кантору, дзе працаваў Кабычкін (Кабычкін працаваў у асобным кабінеце ў будынку камісарыята, пакой № 10).

*Летам 1927 г.*[56] падчас выезду Кабычкіна на адпачынак (выехаў на Каўказ), мяне выклікаў Карытаў на кватэру Кабычкіна. Карытаў даў мне напісаную на машынцы запіску, якую сказаў перапісаць як ліст у Экспазітуру. У гэтым лісце адзначалася, што кур'ер ужо доўгі час не прыходзіць, а я гэтым занепакоены, маю прыгатаваны матэрыял і прашу паведаміць, калі прыедзе кур'ер. *Неўзабаве, калі прыехаў Кабычкін, я даведаўся ад яго, што кур'ер Качан быў арыштаваны ДПУ*[57]. Кабычкін паведаміў, што [кур'ер] Давідовіч быў „абясшкоджаны", з чаго зразумеў, што яго расстралялі. Прыгадваю таксама, што Кабычкін паведаміў, што Д[авідовіч] пачаў хадзіць там, дзе не трэба і таму быў арыштаваны.

[54] Сільвестр Ваявудскі (1892-1938) — польскі грамадска-палітычны дзеяч левага кірунку. З 1922 г. пасол польскага сейма 1 склікання ад партыі „Вызваленне". Адзін з утваральнікаў і лідараў левaрадыкальнай Незалежнай сялянскай партыі. У 1927 г. абвінавачаны ў супрацоўніцтве з польскай і савецкай разведкамі. У 1931 г. пераехаў у СССР, дзе быў арыштаваны органамі АДПУ.

[55] Міхаіл Гурын-Маразоўскі (сапр. Міхаіл Ханевіч, 1894-1928) — беларускі палітычны дзеяч. У 1924 г. рашэннем ЦК КПБ накіраваны на падпольную работу ў Заходнюю Беларусь. Адзін з арганізатараў т.зв. сэцэсіі ў КПЗБ. Арыштаваны польскімі ўладамі, згадзіўся супрацоўнічаць са следствам і перадаць каштоўную інфармацыю аб уплыве камуністаў на беларускі рух. У 1927 г. зблізіўся з паланафільскай групай Францішка Умястоўскага, таксама разам з Я. Мамонькам спрабаваў стварыць беларускую сацыялістычную арганізацыю антысавецкага накірунку. Забіты ў 1928 г. агентам КПЗБ.

[56] У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.

[57] У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.

Наколькі памятаю ў студзені 1928 г. прыйшоў да мяне кур'ер *Юзэф Каспяровіч*[58]. Усё, што датычыцца працы з *Ю. Каспяровічам*[59] я паведаміў падрабязна ў папярэдніх сваіх паказаннях. Работа пайшла ў нармальным рэчышчы, кур'ер прыязджаў штомесячна. Дадам, што перад кур'ерам Каспяровічам сувязь з Экспазітурай утрымліваў агент *Рыгор Стараў*[60]. Са Старавым я пазнаёміўся перад сваёй астатняй паездкай у Вільню, калі Карытаў сказаў мне спецыяльна выехаць у Смаленск, каб я мог пабачыць Старава. Гаворка ішла пра тое, каб я быў прыгатаваны да ўсялякіх магчымых пытанняў з боку Экспазітуры наконт Старава і ведаў, як ён выглядае, бо Стараў павінен быў быць нібыта маім знаёмым, вядомым мне з супольнай разведвальнай працы з Кабычкіным. Стараў пражывае ў Смаленску, вул. Універсітэцкая № 18 кв. 5 — камунальны дом — і працуе інструктарам фізічнага выхавання. Перад выездам у Смаленск я атрымаў ад Кабычкіна запіску для Старава, якую ён павінен быў перапісаць як нібыта свой ліст да Экспазітуры.

Праз пэўны час Кабычкін і Карытаў пастаянна ўзгадвалі, што я павінен ехаць у Вільню. Кабычкін адзначыў, што сам ахвотна паехаў бы ў Вільню, але баіцца, што пры бліжэйшай размове з афіцэрамі польскай разведкі на тэму сваіх кантактаў мог бы лёгка заблытацца і скампраметавацца. Я асабіста неахвотна ставіўся да планаў выслаць мяне ў Вільню, падазраючы, што ўся гэтая справа скончыцца для мяне няўдала. На выказаныя мною асцярогі, што магу ў Вільні быць арыштаваным, Карытаў не звярнуў увагі, палічыў іх неістотнымі і сказаў, што маё становішча не цяжкае і калі б мяне ў Экспазітуры на чым-небудзь западозрылі, можна заўсёды спаслацца на тое, што да арганізацыйнай работы ў рэзідэнтуры адносін не меў, інфармацыю асабіста не атрымліваў, а мая роля заключалася толькі ў тым, што я прымаў і высылаў кур'ераў. Карытаў адзначыў, што ніякіх доказаў маёй працы на карысць сав[ецкай] разведкі Экспазітура не можа мець, і калі я сам не прызнаюся, то мне нічога не зробяць. Даваў мне інструкцыі, каб на ўсе пытанні наконт загінулых кур'ераў адказваў, што аб іх лёсе нічога не ведаю. Пра беларуса *Аляхновіча*[61] на адпаведныя пытанні я павінен быў таксама адказваць, што пра яго лёс нічога не ведаю.

За некалькі дзён перад выездам у Вільню я быў выкліканы Карытавым да Кабычкіна. Карытаў даў мне пісьмовае заданне. Згодна з ім я павінен быў накіравацца ў Вільню, прычым мяжу павінен быў прайсці

[58] У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.
[59] У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.
[60] У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.
[61] У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.

пры дапамозе сав[ецкіх] памежнікаў. Галоўным заданнем маёй паездкі ў Вільню было ўсталяванне кантакту *з беларусамі*[62] з антысавецкіх арганізацый, а дакладней з *Мамонькам*[63]. Наконт арганізацыйна-разведвальнай працы я павінен быў сказаць *кап[ітану] Квецінскаму*[64], што я хацеў бы стаць незалежным адносна Кабычкіна і працаваць самастойна, таму што маю адпаведную перспектыву на правядзенне самастойнай работы. Інфармацыйнае заданне ў Экспазітуры было такое ж самае, як і папярэдне, акрамя гэтага мне загадалі паглядзець, калі буду ў памяшканні Экспазітуры — якім чынам арганізавана тэлефонная сувязь *і ці ёсць у Экспазітуры „камутатар"*[65]. Падчас майго знаходжання ў Вільні мне было загадана звярнуць падрабязную ўвагу на Мамоньку. Я павінен быў паведаміць М[амоньку], што ў Мінску існуе група людзей, якая складаецца пераважна са студэнтаў беларускага ўніверсітэта, маючых палітычныя перакананні, блізкія да кірунку сац[ыялістаў]-рэв[алюцыянераў] і беларускай нацыянальнай платформы. З гэтымі людзьмі я нібыта падтрымліваў блізкі кантакт. У стасунках з *Мамонькам*[66] я павінен быў выступаць як прадстаўнік гэтай групы і патрабаваць ад яго арганізацыйнай інструкцыі і адпаведнай літаратуры для распаўсюджвання ў СССР. Наколькі я зразумеў, мэтай гэтай акцыі было справакаваць *Мамоньку*[67] і ўцягнуць яго ў палітычную дзейнасць у СССР. Згодна з атрыманымі ўказаннямі, дакладнай даты не прыпамінаю, я накіраваўся да мяжы на падводах, а пасля пешшу, паведаміў пра сябе камандзіру савецкай памежнай заставы, якая знаходзілася за вёскай Жукоўка. Камандзір заставы перадаў пакет, адрасаваны да камандзіра 15 П[амежнага] А[трада]. Камандзір заставы пасля сувязі з П[амежным] А[традам] у Заслаўлі перавёў мяне ноччу праз мяжу.

Вільня, 25 ліпеня 1928 г. подпіс

Селях

Допыт праводзіў:
Подпіс
кап[ітан] Мусялевіч

Пратакаліст:
Подпіс
пар[учнік] Падвысоцкі

*Машынапіс, пераклад з польскай мовы*

62 У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.
63 У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.
64 У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.
65 У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.
66 У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.
67 У арыгінале падкрэслена чырвоным алоўкам.

**Alaksandr Gorny** — kandydat nauk historycznych, wykładowca w Katedrze Historii Białorusi, Archeologii i Specjalnych Dyscyplin Historycznych Wydziału Historii, Komunikacji i Turystyki Grodzieńskiego Uniwersytetu Państwowego im. Janki Kupały. Zainteresowania badawcze: białoruski ruch narodowy w XX wieku, Cerkiew prawosławna w okresie międzywojennym.

**Андрэй Карач**
(Гродна)

## Грашовае абарачэнне на тэрыторыі Беларусі: праблема інтэрпрэтацыі нумізматычных і дакументальных крыніц

Беларуская нумізматыка, як навука, знаходзіцца сёння ў няпэўным становішчы. Пасля таго, як пайшоў з жыцця адзіны беларускі прафесар-нумізмат, вучоны з еўрапейскім імем Валянцін Навумавіч Рабцэвіч, мясцовая нумізматыка асірацела. Створаны ім нумізматычны кабінет на гістарычным факультэце БДУ стаў выдатнай навуковай нумізматычнай пляцоўкай. Шкада, што пасля сябе ён не пакінуў навуковай школы і не падрыхтаваў ніводнага кандыдата навук, тэма дысертацыі якога была б звязана з нумізматыкай. Супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь кандыдат гістарычных навук, вядомы нумізмат Шаміль Іршатавіч Бекцінееў таксама не можа ганарыцца сваімі паслядоўнікамі.

Аднак беларуская нумізматыка працягвае развівацца. У першую чаргу дзякуючы канструктыўнай пазіцыі Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, які рэгулярна праводзіць нумізматычныя канферэнцыі ў Менску пры падтрымцы Беларускага нумізматычнага таварыства. У БДУ ўжо другі раз праведзены навуковыя чытанні, прысвечаныя памяці В. Н. Рабцэвіча. Пэўную праблему стварае адсутнасць у Беларусі спецыялізаванага нумізматычнага выдання, якое садзейнічала б папулярызацыі нумізматыкі як навукі і дапамагала станаўленню новых даследчыкаў.

Апошнія беларускія манаграфіі па нумізматыцы датуюцца 1995 г. Аўтарства іх, канешне, належыць В. Н. Рабцэвічу[1]. Важнай падзеяй стаў выхад у 2014 г. манаграфіі Ш. І. Бекцінеева[2]. Даследаванне прысвечана грашоваму абарачэнню на тэрыторыі Беларусі ў IX-XVI стст. На падставе ўсіх сабраных звестак аўтар робіць спробу аналізу грашовых сістэм, выпрацоўваючы ўласную арыгінальную перыядызацыю грашовага абарачэння на нашых землях. Выданне атрымалася вельмі цікавым, насычаным шматлікімі фактамі і дадзенымі і, на наш погляд, патрабуе дасканалага аналізу.

[1] В. Н. Рябцевич, *Нумизматика Беларуси*, Минск 1995; В. Н. Рябцевич, *Российско-«Польские» монетные эмиссии эпохи Петра I*, Тольятти 1995.

[2] Ш. И. Бектинеев, *Денежное обращение на территории Беларуси в IX-XVI веках: нумизматические исследования*, Минск 2014.

Прадстаўленая манаграфія атрымалася вялікага аб'ёму — 509 старонак. Гэта вынік 30-гадовай навуковай працы аўтара. Кніга складаецца з уводзінаў, сямі глаў, заключэння, бібліяграфічнага спіса і дадаткаў.

Ва ўводзінах даецца кароткі гістарычны экскурс, вызначаецца мэта і задачы даследавання. Першая глава прысвечана аналізу гістарыяграфіі і крыніц па грашовым абарачэнні. Пры напісанні гэтай главы аўтар імкнуўся выкарыстаць як мага большае кола крыніц, але практычна не звярнуў увагі на навейшыя даследаванні беларускіх і замежных даследчыкаў (асабліва па гісторыі грашовых эмісій ВКЛ XIV-XV стст.) і не пазбегнуў факталагічных памылак.Так, з-за таго, што выдатнейшы польскі нумізмат Ежы Пінінскі даследаваў пражскія грошы, ён стаў чэхам (с. 19). Пры напісанні такой працы, спасылкі на каталогі манет абавязковы, аднак аўтар за аснову ўзяў састарэлыя каталогі манет Эдмунда Капіцкага 1974 і 1976 гг. выдання, нягледзячы на тое, што ў апошні час з'явіліся больш дасканалыя і інфармацыйныя выданні такога тыпу па манетах ВКЛ[3]. Знаходзім і памылковыя сцвярджэнні: «необходимо учитывать и то, что с 1492 г. в ВКЛ стали чеканить монету ренессансного типа, когда строго выдерживались её метрологические качества» (с. 32). Вядома, што да манет Аляксандра выкарыстоўваўся прынцып „al marco", калі з адной грыўны срэбра патрэбна было выбіць канкрэтную колькасць манет, не звяртаючы ўвагу на вагу кожнай манеты[4]. Па гэтай прычыне вага, напрыклад, паўгрошаў Аляксандра (на прыкладзе скарбу з Мацяляй) была ў дыяпазоне ад 0,77 гр. да 1,51 гр. Самая цяжэйшая манета важыла ўдвая больш за самую лягчэйшу[5]. Указваючы агульную колькасць выяўленых скарбаў на тэрыторыі Беларусі, аўтар піша: «на сегодняшний день», аднак за аснову бярэ дадзеныя на 1993 г. (с. 31). Ш. І. Бекцінееў прапаноўвае сваю арыгінальную методыку даследавання гірак-разнавагаў, але да якой лічбы пасля коскі запісваць вагу гірак для сябе да канца не вырашыў: «до третьей единицы после запятой» (с. 49) або «до четвёртой единицы после запятой» (с. 50).

У другой главе аўтарам прадстаўлена арыгінальная аўтарская перыядызацыя грашовага абарачэння на тэрыторыі Беларусі ў IX-XVI стст. Але і тут Ш. І. Бекцінееў не пазбегнуў блытаніны. Так, знакаміты Вішчынскі скарб аўтар адносіць як да першага (с. 61), так і да другога

[3] E. Ivanauskas, *Coins and bars of Lithuania 1236-2012*, t. I, Kaunas 2013; Д. В. Гулецкий, К. М. Петрунин, *Русские монеты. 1353-1533*, Минск 2013.

[4] Дз. Гулецкі, *Манеты беларускай даўніны*, Мінск 2007, с. 91.

[5] Z. Duksa, *Matelių lobis (Molėtų r. 1622 / 1954)*, „Numizmatika", 2000, № 1, p. 125.

этапу «безманетнага» перыяду (с. 62). Не можа канкрэтна вызначыцца аўтар і з часам з’яўлення талера ў грашовым абарачэнні на тэрыторыі Беларусі: «в 40-х гг. XVI в.» (с. 70) ці «с 40-50-х гг. XVI в.» (с. 65). У некаторых месцах аўтар супярэчыць сам сабе: «С середины XIV в. в Полоцко-Витебский регион поступали серебряные шиллинги (артуги) Ливонского ордена (...) о чём свидетельствуют Полоцкие клады (...) правда, они довольно поздние» (с. 67). Згаданыя скарбы адносяцца да зусім іншага перыяду (канец XV — першая палова XVI стст.) і не могуць пацвярджаць вышэйзгаданую тэзу. На 75 с. аўтар піша: «С появлением в денежном обращении ВКЛ осьмака, первоначально как счётной единицы, из документации экономического характера исчезло упоминание пражского (широкого, чешского) гроша. Пражский грош **мог** (выдзелена намі — А. К.) опять появиться в денежном обращении после восшествия в 1576 г. на престол трансильванского князя Стефана Батория». У гэтай частцы суцэльныя недаразуменні: па-першае, пражскі грош і тэрмін «асьмак» ніяк не звязаны паміж сабой і тым больш з’яўленне гэтага тэрміна ніякім чынам не магло паўплываць на «неўжыванне» ў пісьмовых крыніцах пражскіх грошаў. Па-другое, пражскія грошы працягвалі быць у абарачэнні ў ВКЛ, але ў значна меншых колькасцях у параўнанні з папярэднім перыядам. Аб гэтым сведчаць іх пастаянныя згадкі ў пісьмовых крыніцах[6] — ніякага перапынку ў 40-70-х XVI ст. не было і быць проста не магло.

Главы 3-6, паўтараючы змест другой главы, больш шырока адлюстроўваюць грашовыя сістэмы і асаблівасці грашовага абарачэння на тэрыторыі Беларусі.

У трэцяй і чацвёртай главах, прысвечаных грашоваму абарачэнню ў IX-XIII стст., аўтар грунтоўна разглядае асаблівасці мясцовых грашовых сістэм. Часта на адсутнасць неабходных матэрыялаў, якія тычацца непасрэдна тэрыторыі Беларусі, аўтар практычна не звяртае ўвагі і шырока разглядае ўвесь старажытнарускі кантэкст грашовай справы (гэта прасочваецца і ў наступных главах). Вельмі часта Ш. І.

[6] *Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кн. 30 (1480–1546). Кн. запісаў 30,* падрыхт. В. С. Мянжынскі, Мінск 2008, с. 74; *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 231 (1540 –1543). 12-oji Teismų bylų knyga,* parengė I. Valikonytė, N. Šlimienė, S. Viskantaitė-Saviščevienė, L. Steponavičienė, Vilnius 2007, p. 66, 181; *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 234 (1546–1548). 19-oji Teismų bylų knyga,* parengė I. Valikonytė, S. Viskantaitė-Saviščevienė, L. Steponavičienė, Vilnius 2009, p. 59; *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 32 (1548 –1549). Užrašytų knyga 32,* parengė A. Blanutsa, D. Vashchuk [ir kt.], Vilnius 2012, p. 28; *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 1 (1380–1584). Užrašytų knyga 1,* parengė A. Baliulis, R. Firkovičius, Vilnius 1998, p. 83; *Белорусский архив древних грамот,* ч. I, ред. И. Григорович, Москва 1824, с. 21.

Бекцінееў выкарыстоўвае такія словы: по-видимому, можно полагать, скорее всего, как правило, примерно, вполне вероятно, могла иметь. Аўтар узгадвае таксама і таямічых «мінскіх купцоў» (!?) першай паловы X ст. (с. 109). На с. 110 аўтар спасылаецца на распрацаваную ўкраінскім даследчыкам Володымырам Зоцанкам перыядызацыю (тры этапы) абарачэння візантыйскіх манет на Сярэднім Падняпроўі, аднак, дабаўляючы «свой» чацвёрты этап (1238-1242-1456), якога няма ў арыгінальнай перыядызацыі. Ш. І. Бекцінееў канчае чацвёрты перыяд датай 1456 г. — захопам Канстанцінопаля туркамі-асманамі, хаця дата гэтай падзеі вядома дакладна — 1453 г., а не 1456. Пры ўсім гэтым аўтар «прыпісвае» аўтарству В. М. Зоцанкі і «свой» чацвёрты перыяд абарачэння візантыйскіх манет, які абсалютна не вынікае з манетных знаходак на абазначанай тэрыторыі. Варта адзначыць і ўласна распрацаваную, арыгінальную аўтарскую канцэпцыю мясцовых грашова-вагавых сістэм XIII-XIV стст.

Пятая глава адлюстроўвае асаблівасці даволі складанага і дыскусійнага перыяду грашовага абарачэння — XIV-XV стст. Удзел пражскіх грошаў на мясцовых рынках, на наш погляд, раскрыты добра. Аўтар удакладніў сабраныя звесткі і зрабіў добрую сістэматызацыю. Аднак, у шэрагу момантаў, сцвярджаецца, што ў XIV ст. (да літоўскіх эмісій) самымі мелкімі грашовымі адзінкамі ў абарачэнні былі лівонскія, паўночнанямецкія (любекскія) і скандынаўскія манеты (с. 170, 206). Гэтыя тэзы аўтар пацвярджае толькі дзвюма манетнымі знаходкамі: готландскім дэнарыем (1340-1400) і манетай г. Вісбю (с. 170). Знаходак іншых мелкіх манет адзначанага перыяду няма, таму заяўленні аб удзеле ў абарачэнні на тэрыторыі Беларусі ў XIV ст. лівонскіх і любекскіх манет у якасці разменных у адносінах да пражскага гроша трэба прызнаць недастаткова абгрунтаванымі.

У чарговы раз аўтар робіць незвычайныя высновы па датаванні ранніх літоўскіх манет і храналогіі іх абарачэння. Абсалютная блытаніна ў аўтара з датаваннем эмісій такіх манет. Самае цікавае, што рознае датаванне аднаго тыпу манет зроблена на адной старонцы: так, манету II тыпу ён датуе «около 1392» (с. 180) і «начало XV в.» (с. 180). Далей: літоўскія пенязі II-IV тыпаў «в денежном обращении находились до середины XV в.» (с. 180), хаця ў іншых месцах аўтар піша пра тое, што гэтыя манеты біліся «до 40-50-х гг. XV в.» (с. 179) і «до 40-50-х гг. XV в. или немного позже» (с. 213). Выходзіць, на думку аўтара, толькі што выпушчаныя манеты не патрапілі ў абарачэнне і адразу зніклі. Далей у кнізе зусім іншая інфармацыя — старажытналітоўскія манеты біліся «до 70-х или 80-х гг. XV ст.» (с. 239). Цікава аўтар датуе пенязі III тыпу — «1400 или 1410-1420 (или до 1425)», хаця ніжэй указвае магчымасць біцця гэтых манет Казімірам (1440-1492) (с. 181). Тут жа

аўтар робіць і новыя «адкрыцці»: «Так, монетка II типа, чеканенная в начале XV в. средним (теоретическим?) весом 0,3 г. при 500-й пробе, соответствовала пражскому грошу 1407 г.» (с. 180), пры вазе апошняга 2,6 — 2,9 гр. (625 проба).

Аўтар блытае, які бок лічыць аверсам літоўскіх манет I тыпу („ПЕЧАТЬ" / Дзіда з крыжам), а які рэверсам. У адным выпадку так (с. 180), у другім наадварот (с. 217); тое самае з тыпам IIIa (с. 219 і с. 417). На думку аўтара, «большинство» манет тыпу IIIa (Калюмны / Пагоня) білася ў Вільні (с. 220), а дзе білі іншую частку, ён не згадвае. Адкуль у аўтара звесткі пра тое, што не ўсе манеты дадзенага тыпу біліся не ў сталіцы, невядома.

Аналізуючы пісьмовыя крыніцы, Ш. І. Бекцінееў прапануе цікавую версію аб тым, што ў Пскове і Ноўгарадзе ў 1409-1425 гг. выкарыстоўвалі пры разліках літоўскія пенязі (с. 184-188). Гэтыя дакументы былі вядомы і раней, што дазволіла В. Н. Рабцэвічу зрабіць вывад аб тым, што пад «літоўскімі грошамі» згадваюцца пражскія грошы[7]. Аднак гэта абвяргае Ш. І. Бекцінееў, спасылаючыся на тапаграфію скарбаў з пражскімі грошамі (выданне 1922 г.), у якой не згадваецца ніводнага выпадку скарбовай знаходкі на тэрыторыі Пскоўшчыны і Ноўгарадчыны (с. 186). У такім выпадку, на гэтых землях павінны быць вядомы знаходкі ранніх літоўскіх манет, але такіх звестак аўтар не прыводзіць — іх няма.

У некаторых выпадках аўтар выказвае фантастычныя версіі паходжання літоўскіх манет. У дадатках, аналізуючы знаходку літоўскага пенязя тыпу Калюмны / Пагоня Ш. І. Бекцінееў піша: «„Литовская" монета («пенязь») могла быть отчеканена в 1410-1420 гг. в Великом Новгороде, где в обращении находились «литовские гроши», вернее пенязи, равные 1/10 пражского гроша. Данная монетка могла соответствовать 1/2 пенязя, т.к. пенязи в это время весили в среднем 0,397 г.» (с. 418). Аўтар не звяртае ўвагі на той факт, што абсалютная большасць знаходак манет гэтага тыпу зафіксавана на тэрыторыі Літвы, Беларусі і Украіны, а ў ваколіцах Вялікага Ноўгарада — ніводнай. Чамусьці Ш. І. Бекцінеева здзіўляюць і спосабы біцця ранніх літоўскіх манет. Пра вышэйзгаданую манету аўтар піша: «Монета почти круглой формы, несколько приближается к овалу. Похоже, что монета была отчеканена не на вырезанном или отлитом кружке, а на кусочке отрезанной проволоки, поскольку (на лиц. ст.) почти над «Колюмном» и под ним (немного сдвинуто влево) видны следы обрубки, т.е. при изготовлении монеты **могла** (выдзелена намі — А. К.) использовать-

[7] В. Н. Рябцевич, *Нумизматика Беларуси*, с. 151.

ся «русская» техника чеканки, применявшаяся в России в конце XIV — начале XVIII в.» (с. 417). Атрымліваецца, што аўтар не ведае таго, што ўсе раннія манеты ВКЛ (за выключэннем рэдкіх падольскіх і першых манет Кіеўскага княства) да грашовай рэформы Аляксандра канца XV ст. выкананы менавіта ў дротавай тэхніцы. Яшчэ ў некаторых месцах Ш. І. Бекцінееў вышэйзгаданым спосабам «удакладняе» спосаб вытворчасці сярэднявечных літоўскіх манет (с. 428-429).

Аўтар выдзяляе літоўска-татарскую грашовую сістэму і прыводзіць яе структуру: у 1397-1398 гг. ардынскі дзірхем = 5 літоўскім пенязям (с. 179). Хутчэй за ўсё, аўтару вядомы нейкія дакументы ці звесткі, якімі ён не пажадаў дзяліцца з чытачамі, бо ніякія спасылкі не прыводзяцца. Таксама ён не можа дакладна вызначыцца з датаваннем надчэканак «Калюмны» на ўсходніх манетах: «1396-1425 гг.» (с. 180, 216) або «1398-1425 гг.» (с. 182). Ш. І. Бекцінееў піша: «Кроме татарских, были найдены ещё 2 восточные монеты, которые, скорее всего, были завезены воинами, сопровождавшими хана Тохтамыша» (с. 204). Адной з гэтых манет з'яўляецца турэцкі медны «менгыр», біты ў 1452 г. Выходзіць, на думку аўтара, «воины Тохтамыша» працягвалі прыбываць у ВКЛ у другой палове XV ст. нават пасля смерці Тахтамыша ў 1406 г.

Асвятляючы эмісіі ўдзельных княстваў, аўтар, у асноўным, спасылаецца на старыя звесткі. З кожным годам колькасць такіх манет павялічваецца — удакладняюцца звесткі па надпісах, выявах, метралогіі і г.д. (напр., аўтар згадвае толькі тры манеты Падольскага княства (с. 236), хаця, толькі ў адным выяўленым скарбе з-пад Смотрыча (2012 г.) такіх манет было 35 экземпляраў (!)[8]).Толькі за апошнія гады з'явілася шмат новых даследаванняў у гэтым накірунку[9] — шкада, што яны невядомы аўтару.

[8] Р. Саввов, *Скарб монет XIV ст. з-під Смотрича*, „Львівські нумізматичні записки", 2011-2012, № 8-9, с. 49-55.

[9] Ю. Котик, *Нова монета Володимира Ольгердовича*, „Львівські нумізматичні записки", 2007-2008, № 4-5, с. 10-13; А. Крижанівський, Р. Шуст, *До генези іконографії та метрологічних показників монет Подільського князівства другої половини XIV ст.*, „Нумізматика і фалеристика", 2005, № 3, с. 8-10; О. Погорілець, Р. Саввов, *Монета подільського князя Костянтина*, „Нумізматика і фалеристика", 2004, № 3, с. 24-29; О. Погорілець, Р. Саввов, *Про нові знахідки монет Подільського князівства*, „Нумізматика і фалеристика", 2007, № 4, с. 28-31; О. Погорілець, Р. Саввов, *Про нові монети зі знаком Володимира Ольгердовича*, „Нумізматика і фалеристика", 2009, № 1, с. 10-11; Р. Саввов, *Ще раз про так звану монету Федора*, „Нумізматика і фалеристика", 2010, № 2, с. 8-10; Р. Саввов, *Ще раз про денарії Володимира Ольгердовича з написом «Пособи»*, „Львівські нумізматичні записки", 2011-2012, № 8-9, с. 24-28; Р. Саввов, *Київські півгроші Володимира Ольгердовича*, „Нумізматика і фалеристика", 2012, № 4, с. 6-9; Р. Саввов, *Новий тип ранніх монет Великого*

На наш погляд, самым недаследаваным перыядам у кнізе (у параўнанні з астатнімі) з'яўляецца XVI ст. (шостая глава). Тут аўтар павярхоўна аналізуе крыніцы і недастаткова выкарыстоўвае інфармацыю са складу скарбаў для поўнага адлюстравання гісторыі грашовага абарачэння на Беларусі з канца XV да 1569 г. І гэта не дзіўна, бо абсалютная большасць папярэдніх артыкулаў аўтара адлюстроўвае асаблівасці грашовага абарачэння сярэднявечнага перыяду. Аўтар не з'яўляецца спецыялістам па гэтым перыядзе, таму менавіта гэтая частка кнігі з'яўляецца самай праблемнай і выклікае шмат пытанняў. На наш погляд, лагічна было б скончыць манаграфію канцом XV ст., бо з пачаткам грашовых рэформаў Аляксандра манетная справа ВКЛ прынцыпова змяняецца: на змену састарэлым сярэднявечным тэхналогіям манетнай вытворчасці прыходзяць перадавыя еўрапейскія методыкі, выкарыстоўваюцца новыя метады і тэхналогіі біцця манет, упершыню б'ецца вялікая манета, вагой больш за 1 гр. і з'яўляюцца доўгія легенды на латыні. Гэтыя рэформы прынцыпова змянілі аблічча грашовай гаспадаркі Вялікага Княства і наблізілі яе да лепшых еўрапейскіх прыкладаў грашовых сістэм.

У якім канкрэтна годзе быў адкрыты Віленскі манетны двор у часы Аляксандра Ягелончыка дакладна невядома. Першая справаздача аб яго дзейнасці за перыяд 1495-1499 гг. датуецца 1499 годам[10]. Ранейшых звестак аб працы мынцы няма, аднак аўтар у розных месцах дае розную храналогію гэтых падзей: мынца адчынена «в 1492 г.» (с. 9, 45, 71, 245, 247, 267, 297), «около 1492» (с. 70, 177, 240, 297), «после 1492» (у тэксце памылка — 1482) (с. 32).

У чарговы раз Ш. І. Бекцінееў пацвярджае рэальнасць існавання недатаванага літоўскага гроша Аляксандра, пры гэтым спасылаючыся на каталог манет Э. Капіцкага 1976 г. (!?) (с. 241). Гэтая манета памяшчалася ў розныя манетныя каталогі да канца XX ст. як пробны экземпляр[11], нягледзячы на тое, што яшчэ ў 1921 г. Мар'ян Гумоўскі даследаваў адзіны вядомы экземпляр (які знік у Варшаве ў гады Другой сусветнай вайны) і прыйшоў да высновы, што адзначаная манета не мае ніякага дачынення да эмісій Аляксандра і з'яўляецца тагачасным

*князівства Литовського*, „Нумізматика і фалеристика", 2013, № 3, с. 12-13; А. Шостопал, *Монети XIV ст. карбовані на Поділлі*, „Нумізматика і фалеристика", 2007, № 3, с. 24-26; А. Шостопал, *Про «київські» наслідування монетам Джанібека*, „Нумізматика і фалеристика", 2011, № 3, с. 36-39.

10 *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 6 (1494-1506). Užrašytų knyga 6,* parengė A. Baliulis, Vilnius 2001, p. 282-283.

11 S. Sajauskas, D. Kaubrys, *Lietuvos didžiosios kunigaikštystės numizmatika*, Vilnius, 1993, p. 61; E. Kopicki, *Ilustrowany skorowidz pieniędzy polskich i z Polską związanych*, t. 1, Warszawa 1995, s. 143; E. Ivanauskas, R. J. Douchis, *Coins of Lithuania 1386-1707,* Vilnius — Columbia 1999, p. 40.

фальсіфікатам[12]. Зараз агульнапрынятай з’яўляецца думка аб падробцы гэтага гроша і складальнікі навейшых каталогаў ужо не змяшчаюць яе ў свае працы[13].

Даволі часта аўтар дае вельмі цікавую інфармацыю, аднак, не робячы спасылак на крыніцы. Ён сцвярджае, што «имеются даже сведения, что полоцкие и витебские купцы, выезжавшие во 2-й половине XVII в. с товарами в северогерманские города, скупали там старые истёртые пражские гроши в качестве сырья, которые позже у себя дома пускали в оборот как платёжные средства» (с. 241). Цалкам неверагодным падаецца нам, што ў развітых гарадах поўначы Нямеччыны ў другой палове XVII ст. яшчэ «заставаліся на руках» маральна і фізічна састарэлыя пражскія грошы.

У шэрагу выпадкаў аўтар неадэкватна робіць інтэрпрэтацыю дакументаў на свой лад. Аналізуючы адзін з дакументаў (с. 246) («датированному приблизительно 1517 г.» — хаця ў крыніцы ёсць канкрэтная дата — 20 сакавіка 1517 г.), Ш. І. Бекцінееў робіць выснову, што «пенязны грош» з’яўляецца польскім грошам, хаця яго літоўскую прыналежнасць раней пераканаўча даказаў В. Н. Рабцэвіч[14]. Ніводнага выпадку, каб пенязны грош быў роўны польскаму, не зафіксавана. Аўтар заблытаўся ў курсе пражскага гроша ў адносінах да літоўскага, хаця раней (с. 244) правільна гаворыць аб курсе ў 12 літоўскіх пенязяў і пасля 1514 г. — 14 пенязяў (с. 250). Чамусьці аўтару невядомы апісаны В. Н. Рабцэвічам прыклад, калі курс пражскага гроша (рэдка), але быў яшчэ большым — 15 літоўскіх пенязяў[15]. Менавіта такі курс (пражскі грош = 1,5 літоўскага гроша [15 пенязяў]) і згадваецца ў цытаваным дакуменце. Замест гэтага, аўтар робіць нічым не падмацаваную выснову аб няправільным датаванні дакумента і датуе яго па-свойму: «некоторое время после 5 июня 1508 г.» (с. 246).

Частка даследавання, якая прысвечана карабельнікам, мае шэраг памылак і недакладнасцей. Так, у тэксце знаходзім інфармацыю, што карабельнікі ніколі не паступалі ў якасці памінак з Літвы, а толькі ў Літву (с. 250), аднак, гэта не адпавядае рэчаіснасці[16]. Таксама аўтар сцвярджае, што карабельнікі апошні раз згадваюцца ў «белорусско-ли-

[12] M. Gumowski, *Mennica wileńska w XVI i XVII w.*, Warszawa 1921, s. 17-20.

[13] В. И. Какареко, И. Н. Шталенков, *Монеты Великого княжества Литовского. 1492-1707*, Минск 2005; E. Ivanauskas, *Coins and bars of Lithuania 1386-2009*, Vilnius 2009; E. Ivanauskas, *Coins and bars of Lithuania 1236-2012*, t. I, Kaunas 2013; Д. В. Гулецкий, К. М. Петрунин, *Русские монеты. 1353-1533*, Минск 2013; Д. В. Гулецкий, *Монеты Великого Княжества Литовского (со второй половины 14-го века до 1536 года)*, Минск 2014.

[14] В. Н. Рябцевич, *Нумизматика Беларуси*, с. 164-165.

[15] Там жа, с. 167.

[16] *Сборник Императорского Русского Исторического Общества*, т. 35, ред. Г. Ф. Карпов, Санкт-Петербург 1882, с. 199.

товских письменных источниках» у 1534 г. (с. 248), але і гэта няправільна. Ёсць згадкі аб карабельніках, датаваныя пачаткам 1540-х гг.[17]

Аўтар зноў памыляецца, сцвярджаючы, што першая згадка талера адносіцца да 1555 г. (с. 256), але ёсць і ранейшыя (амаль на 10 год) звесткі[18].

Ш. І. Бекцінееў практычна не выкарыстоўвае мясцовых матэрыялаў, якія характарызуюць ролю залатых манет у грашовым абарачэнні на тэрыторыі Беларусі і абапіраецца на польскія дадзеныя: ведаючы курс польскай і літоўскай манеты (літоўскі грош = 0, 8 польскага), Ш. І. Бекцінееў выводзіць і курсы вугорскіх дукатаў для беларускай тэрыторыі (с. 247-248). На наш погляд, гэта не зусім правільна, бо могуць быць некаторыя асаблівасці ў пераліках. Чамусьці аўтар не ведае, што хапае і «сваіх» матэрыялаў, аналізуючы якія, можна зрабіць канкрэтныя высновы па курсе «вугорскіх», «чэрлёных» на тэрыторыі ВКЛ[19]. Першую згадку аб курсе «угорскага», **прымяняльна да тэрыторыі сучаснай Беларусі** (выдзелена намі — А. К.), аўтар адносіць да сярэдзіны 80-х гг. XV ст., спасылаючыся на дакумент, у якім гаворыцца: «в Дрогичине (у крыніцы — Дорогичин — А. К.) пану Якубу Довойновичу дано сорок „угорских”, а золотый тогда куповал по грошу и по двадцати грошей» (с. 247). Ш. І. Бекцінееў абсалютна не ведае гістарычнай геаграфіі і памылкова атаясамляе падляшскі Драгічын з беларускім Драгічынам — раённым цэнтрам Брэсцкай вобласці, які стаў так называцца толькі з 1655 года[20].

Звяртаючы ўвагу на контрмаркіраваныя талеры (т.зв. «філіпкі»), аўтар піша: «В 1566 г. филипки были изъяты из обращения, но периодически использовались до 1578 г.» (с. 257). Ніжэй аўтар узгадвае скарбы, у складзе якіх былі «філіпкі» (с. 257), але гэтыя скарбы ўхаваны ў першым дзесяцігоддзі XVII ст., а значыць, і «філіпкі» знаходзіліся ў абарачэнні да гэтага часу, а 1578 г. датуецца апошняя вядомая на дадзены момант іх згадка ў дакументах[21].

17 *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 231 (1540-1543). 12-oji Teismų bylų knyga,* parengė I. Valikonytė, N. Šlimienė, S. Viskantaitė-Saviščevienė, L. Steponavičienė, Vilnius 2007, p. 69.

18 *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 234 (1546-1548). 19-oji Teismų bylų knyga,* parengė I. Valikonytė, S. Viskantaitė-Saviščevienė, L. Steponavičienė, Vilnius 2009, p. 21.

19 *Сборник Императорского Русского Исторического Общества*, т. 59, ред. Г. Ф. Карпов, Санкт-Петербург 1887, с. 182-183; *Акты Литовской метрики*, т. 1, вып. 2 *(1499-1507)*, сост. Ф. И. Леонтович, Варшава 1897, с. 178-179; *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 6 (1494-1506). Užrašytų knyga 6*, parengė A. Baliulis, Vilnius 2001, p. 67; *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 10 (1440-1523). Užrašytų knyga 10*, parengė E. Banionis, Vilnius 1997, p. 48.

20 В. Грынявецкі, *Давячоравічы*, [у:] *Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя*, т. 1, рэдкал. Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.], Мінск 2005, с. 567-568.

21 В. Н. Рябцевич, *Нумизматика Беларуси*, с. 163.

На 257 старонцы аўтар піша пра новыя наміналы манет, выпуск якіх пачаўся пры Жыгімонце Аўгусце: «обол в 1546 г. (= денарию весом 0,317 г.), двойной денарий в 1565 г.». Сцвярджэнне, што абол роўны па вартасці дэнарыю Жыгімонта Аўгуста, яўна памылковае. У іншым месцы аўтар ужо піша, што дэнарый раўняўся двум аболам (с. 264). Да апошніх гадоў была пашырана думка, што абол роўны палове пенязя[22], аднак гэта выглядае нелагічным і паўстае пытанне: навошта было ўводзіць у грашовае абарачэнне такі мелкі намінал? На сённяшні момант больш верагоднай з'яўляецца версія аб тым, што абол — гэта пенязь па польскай стапе[23]. Двайныя дэнарыі ўпершыню былі выпушчаны ў 1566 г.[24], а не ў 1565 г., як памылкова ўказвае аўтар (с. 257).

Асаблівую цікавасць уяўляюць думкі аўтара аб гіпатэтычнай «литовско-русской денежной системе» пасля 30-х гг. XVI ст., хаця не існуе ніводнага дакумента, у якім бы рабіліся пералікі з маскоўскіх манет на літоўскія (ці наадварот). Гэта не дзіўна, бо маскоўскія манеты не ігралі абсалютна ніякай ролі ў грашовым абарачэнні ВКЛ да Лівонскай вайны. Нягледзячы на гэта, аўтар вырашыў запоўніць прабел і вызначыў сістэму: дукат — дзенга — пражскі грош — літоўскі грош. Ведаючы, што адзін вугорскі дукат у Масковіі на канец XVI ст. каштаваў 52,5 дзенгі, аўтар пераносіць гэтыя дадзеныя на тэрыторыю ВКЛ («главным образом на Могилёвщине») і храналагічна суадносіць іх на паўстагоддзя раней, робячы пералік на літоўскі грош у дачыненні да нашых зямель. Атрымалася, што грош ВКЛ 1535-1536 гг. вагой 2,574 гр. адпавядаў 1,5 дзенгі, агульнай вагой 0,51 гр. (!?). Фантастычнасць атрыманых дадзеных пацвярджае і сам Ш. І. Бекцінееў «что маловероятно» (с. 258-259). Гэта ў чарговы раз пацвярджае тое, што нельга кошты аднолькавых манет у розных краінах параўноўваць, тым самым выводзячы агульную грашовую сістэму.

Не можа вызначыцца аўтар і з заканчэннем апошняга вывучаемага перыяду: «завершение приходится на 70-е гг. XVI ст.» (с. 241) або «завершение приходится на 70-80-е гг. XVI ст.» (с. 70).

Часам у тэксце стаяць няправільныя спасылкі. Так, напр., на с. 256 ёсць спасылка на адзін з АВАКаў. Аднак, адзначаны дакумент (АВАК, т. 11, с. 85, № 145) не змяшчае той інфармацыі, на якую спасылаецца аўтар. Тое самае і на с. 73 — спасылка № 449, с. 249 — № 63, с. 256 — № 748.

[22] Там жа, с. 176; В. И. Какареко, И. Н. Шталенков, *Монеты Великого княжества Литовского. 1492-1707*, Минск 2005, с. 16.

[23] E. Ivanauskas, *Coins and bars of Lithuania 1236-2012*, t. I, c. 385-387.

[24] Там жа, с. 396.

Не на карысць добрай працы рэдактараў сведчыць той факт, што ў кнізе вельмі часта паўтараюцца цэлыя часткі тэксту. Напрыклад: «Нумизматика как наука трансформировалась из коллекционирования монет и других платёжных средств. Коллекционирование появилось в эпоху императорского Рима, расширилось в эпоху Возрождения, особенно стало популярно с XV-XVI вв. и до наших дней. Уже в середине XV в. в Европе насчитывалось более 950 мюнцкабинетов (частные коллекции, хранимые в специальных кабинетах). Наличие крупных частных нумизматических коллекций требовало их систематизации, т.е. каких-то исследований. Первые лекции о монетах были прочитаны в университетах городов Галле (Саксония, 1738 г.) учёным И. Г. Шульце и Уппсала (Швеция). Наукой, в современном понимании, нумизматика стала в XIX в. Благодаря нумизматам И. И. Эккелю (антика), И. Мадеру (средневековые монеты), И. Лелевелю (польская нумизматика), И. Я. Лейцману и Г. Гроте (немецкая нумизматика). Особая заслуга принадлежит австрийскому нумизмату Эккелю, издавшему в 1792-1798 гг. 8-томную «Науку о древних монетах» *(Doctrina nummorum veterum. Wien, 1792-1798)*» (с. 7). Аналагічны фрагмент тэксту сустракаецца таксама і на 12 старонцы. Аднолькавыя (ці практычна аднолькавыя) даволі вялікія абзацы тэксту сустракаюцца на 5 і 27 с., на 25 і 82 с., на 33 і 83 с., на 73 і 256 с., на 71 і 246-247 с., на 132 і 151 с., на 223 і 239 с. і інш. Цікава, што пасля абсалютна аднолькавых частак тэксту аўтар выкарыстоўвае розную колькасць спасылак (часам і на розныя старонкі): напр., с. 73 (пасля 8-га абзаца — адна спасылка) і с. 256 (пасля 10-га абзаца — дзве спасылкі); с. 132 (пасля 2-га абзаца — шэсць спасылак) і с. 151 (пасля 3-га абзаца — чатыры спасылкі).

Таксама ў тэксце даволі шмат арфаграфічных памылак: «археологические раскопки Д. В. Дуки» (замест Д. В. Дука) (с. 399); «Коложи» (замест Каложа) (с. 402, 410); «типы» (замест «типа») (с. 219); справа аб фальшывых злітках «1547 г.» (замест «1447») (с. 129); спасылка на III (замест II) том каталога манет Э. Капіцкага (1632-1795), які храналагічна не падыходзіць да вывучаемага перыяду (с. 73); на адной старонцы двойчы згадваецца дацкі кароль Канут Вялікі, але, чамусьці перыяды праўлення розныя: 1019-1035 і 1017-1035 (с. 91); старажытнаруская грашовая адзінка «рэзана» ў розных месцах мае розную вагу: 1,64 гр. (с. 99) і 1,68 гр. (с. 104) і інш.

[25] В. Какареко, *Военные деньги Северной войны*, [у:] *Культура Гродзенскага рэгіёну: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа*, адк. рэд. А. М. Пяткевіч, Гродна 2003, с. 230-237.

Не пазбегнуў аўтар і памылак. «В ВКЛ в XIV-XVII наиболее популярными монетами являлись пражские гроши и их подражания» (с. 65). Для XIV-XV стст. гэта цалкам справядліва, аднак, ужо на мяжы XV-XVI ст. пражскі грош страціў ролю манапаліста на мясцовых рынках і больш ніколі не вярнуў былых пазіцый у грашовым абарачэнні.

З-за няведання навейшых даследаванняў па нумізматыцы аўтар вельмі часта паўтарае памылкі і міфы сваіх папярэднікаў. Так, аўтар пацвярджае тэзу аб тым, што апошнія літоўскія манеты (шастакі 1706-1707 гг.) біліся ў Гародні (с. 70). Немагчымасць біцця шастакоў у Гародні пераканаўча даказаў гарадзенскі даследчык Віктар Какарэка[25] і ўжо ў навейшых каталогах манет ВКЛ Гародня не лічыцца месцам іх біцця[26].

Бібліяграфічны спіс складаецца з 789 пазіцый, з якіх 67 — аўтарства (ці сааўтарства) Ш. І. Бекцінеева. Аўтар уключыў практычна ўсе свае працы па нумізматыцы ў спіс літаратуры. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што сярод крыніц няма ніводнага архіўнага дакумента, выяўленага непасрэдна аўтарам. Калі для перыяду да канца XV ст. знайсці дакумент, які б утрымліваў новыя звесткі па грашовым абарачэнні і грашовай сістэме ВКЛ вельмі складана, то для наступнага перыяду (1492-1569-1580 гг.) гэта абсалютна рэальна. Не зусім зразумелым нам падаецца той факт, што аўтар уключыў у бібліяграфічны спіс шматлікія энцыклапедычныя артыкулы (№ 468-490 і інш.). Змест некаторых з іх паўтараецца ў розных энцыклапедыях: напр., № 242 — Квяткоўская А. В., *Апонаўцы* (1993) і № 243 — Квяткоўская А. В., *Апонаўцы* (2009); тое самае і з пазіцыямі № 471 і № 493, № 469 і № 492, № 472 і № 494, № 475 і № 496. Аднак, нягледзячы на гэта, «для большасці пазіцый» аўтар уключыў у спіс аднолькавыя артыкулы ў розных энцыклапедыях. Адзначым і недакладнасці ў бібліяграфіі: адна і тая ж пазіцыя сустракаецца пад рознымі нумарамі (№ 267 і № 273), не заўсёды пазначана колькасць старонак у пазіцыях бібліяграфічнага спісу (№ 199, № 350, № 653, № 697, № 718, № 721, № 723, № 726, № 735). Дадаткі займаюць значную частку манаграфіі — больш за 100 старонак.

Ёсць шэраг месцаў, у якіх аўтар выказвае незразумелыя рэчы. Напр., «венцом (?) для денежного обращения Великого княжества Литовского в XVI в. явилось принятие последнего Статута Великого княжества Литовского 1588 г.» (с. 30).

[26] E. Ivanauskas, R. J. Douchis, *Coins of Lithuania 1386-1707*, p. 269-271; В. И. Какареко, И. Н. Шталенков, *Монеты Великого княжества Литовского. 1492-1707*, с. 65; E. Ivanauskas, *Coins and bars of Lithuania 1386-2009*, p. 330-333; E. Ivanauskas, *Coins and bars of Lithuania 1236-2012*, t. II, Kaunas 2013, p. 906-911.

На наш погляд, манаграфія атрымалася неадназначнай. З аднаго боку, аўтар сабраў вялікую колькасць звестак і матэрыялаў, з другога — спосаб падачы гэтых звестак не вытрымлівае ніякай крытыкі. Першыя главы атрымаліся адносна добра і ўсебакова разгледжанымі, чаго нельга сказаць пра апошнія главы. Некаторыя тэмы пададзены аднабакова без шырокага аналізу крыніц. Неаднаразовыя паўторы цэлых частак тэксту, шматлікія памылкі, блытаніна ў фактах і дадзеных скрадваюць усе намаганні аўтара. Несумненны мінус дадзенай працы ў тым, што аўтар не здолеў сабраць усяго матэрыялу па тэме (гэта асабліва тычыцца новых даследаванняў па нумізматыцы) і вельмі часта абапіраўся на састарэлыя звесткі і матэрыялы.

Аднак, з'яўленне такой манаграфіі — гэта несумненны ўнёсак у развіццё ведаў па эканамічнай гісторыі Беларусі. Чым больш будзе розных даследаванняў па нумізматыцы — тым менш застанецца белых плям у нашай гісторыі. На жаль, шэраг праблем засталіся наогул не закранутымі ў прадстаўленым даследаванні. Найперш, гэта тычыцца перыяду Новага часу. Ніхто дагэтуль падрабязна не разглядаў ролі іншаземных манет у грашовым абарачэнні на нашых землях у XVI ст. У манаграфіі абсалютна не ўзгаданы свідніцкія паўгрошы, вугорскія пенязі і іншыя манеты, якія займалі сваю вельмі характэрную нішу на нашых рынках. Вывучаючы ўзаемасувязь грашовых сістэм трэба больш звяртацца да гістарычных крыніц і шукаць там падрабязнай інфармацыі аб курсах і пераліках тых ці іншых манет і наміналаў. Комплекснае вывучэнне актуальных праблем па нумізматыцы магчыма толькі пры ўсебаковым вывучэнні саміх манет, падмацоўваючы гэтыя звесткі інфармацыяй з пісьмовых крыніц. І толькі сімбіёз гэтых дадзеных можа даць добры вынік у далейшых гісторыка-нумізматычных даследаваннях.

**Summary**

**The circulation of money in the territory of Belarus: problems with the interpretation of numismatic and documentary sources**

The correct interpretation of documentary and numismatic sources is very important in any research. The article is devoted to an analysis of the monograph „Денежное обращение на территории Беларуси в IX-XVI веках: нумизматические исследования” [The circulation of money in the territory of Belarus in the 9th-16th centuries: a numismatic study] by a well-known Belarusian numismatist at the Historical Institute of the Belarusian Academy of Sciences Shamil I. Bektsineev. The work contains numerous footnotes and citations from various historical sources; however, the author does not always manage to interpret them correctly. Regardless of certain difficulties, the discipline of numismatics continues to develop; unfortunately for some reason the author, when discussing a number of issues, fails to refer to the latest findings in the field, hence the book contains a great deal of inaccurate and distorted information. It should be emphasized that working with sources should be more meticulous and involve constant confirmation of information and

updating of knowledge. One should be very cautious when drawing conclusions from one document, allowing for other possible interpretations. Only after finding several similar sources from the same chronological period can one form solid conclusions which will not be subsequently undermined.


**Streszczenie**

**Obieg pieniądza na terytorium Białorusi: problem interpretacji źródeł numizmatycznych i dokumentalnych**

Prawidłowa interpretacja źródeł dokumentalnych i numizmatycznych jest bardzo ważną rzeczą w dowolnych badaniach. Artykuł jest poświęcony analizie monografii «Денежное обращение на территории Беларуси в IX-XVI веках: нумизматические исследования» („Obieg pieniądza na terytorium Białorusi w IX-XVI wieku: badania numizmatyczne") znanego numizmatyka białoruskiego, pracownika Instytutu Historii Akademii Nauk Republiki Białoruś Szamila Biekciniejewa. Praca jest bogato opatrzona licznymi przypisami i cytatami, jednak autorowi nie zawsze udaje się prawidłowo przekazać ich sens. Niestety, przy omawianiu szeregu zagadnień autor nie wiadomo czemu nie wykorzystał najnowszych badań i ustaleń, dlatego w książce jest wiele błędnych i zniekształconych informacji. Nie zważając na pewne trudności, nauka numizmatyczna rozwija się nadal. Należy podkreślić nieodzowność bardziej doskonałej pracy nad materiałami, stałego sprawdzania i doskonalenia wiadomości. Z treści jednego dokumentu należy ostrożnie formułować wnioski, dopuszczając inne możliwe warianty. Dopiero po odkryciu kilku źródeł jednego typu z tego samego okresu chronologicznego można sformułować konkretne wnioski, które nie będą poddawane krytyce.



**Andrej Karacz** — magister historii, aspirant w Katedrze Historii Białorusi, Archeologii i Specjalnych Dyscyplin Historycznych Grodzieńskiego Uniwersytetu Państwowego im. Janki Kupały.

**Сяргей Новікаў**
(Мінск)

# Баявыя дзеянні ў Беларусі летам 1941 года: гістарыяграфічныя міфы і гістарычная рэальнасць

Адной з актуальных праблем аналізу новых гістарыяграфічных крыніц, у тым ліку замежных, з'яўляецца выяўленне ступені навуковай верыфікацыі гістарычных фактаў. Разгледзім гэта на прыкладзе гісторыі Беларусі летам 1941 г. Як жа насамрэч баявыя дзеянні Чырвонай Арміі і германскага вермахта, якія вызначалі адметнасць пачатковага перыяду вайны на беларускай зямлі, адлюстроўваюць у найноўшай расійскай 12-томнай фундаментальнай працы *Великая Отечественная война 1941-1945 годов*[1], падрыхтаванай вядучымі даследчыкамі Расіі на працягу літаральна апошніх некалькіх гадоў. Наколькі сутнасць новых грунтоўных прац вынікае з дакументальных крыніц рознага паходжання і наколькі гістарычныя факты набліжаюць чытача да асэнсавання рэальных вынікаў абарончых баёў Чырвонай Арміі ў Беларусі ў чэрвені-жніўні 1941 года? Адказаць на гэтыя і іншыя пытанні асабліва важна па розных прычынах, але ў першую чаргу выключна даследчыцкага кшталту.

З аднаго боку, у такім кантэксце паспрабуем даць адказ на галоўнае пытанне: наколькі ж у новых грунтоўных выданнях усебакова адлюстраваны баявыя дзеянні на тэрыторыі Беларусі летам 1941 года? Зыходзячы з гэтага можна будзе зразумець, што тады адбылося на беларускай зямлі — ці паражэнне Чырвонай Арміі, ці яе ваенная катастрофа, ці крах савецкай абарончай стратэгіі, ці мелі месца толькі згуба баявых рубяжоў, калі на фоне вымушанага адступлення Чырвоная Армія працягвала весці ўпартыя баі за тэрыторыю Беларусі, калі з канца чэрвеня і да канца жніўня 1941 г. насамрэч ішла БІТВА за Беларусь. Ці ўсё ж такі галоўным вынікам несупынных баявых дзеянняў, тактычных адыходаў і стратэгічных контрудараў, вялізных людскіх і матэрыяльных страт Заходняга і Цэнтральнага франтоў на беларускай зямлі стаў крах аперацыі „Барбароса" ў канцы ліпеня 1941 года, звязаны са спыненнем наступлення групы армій „Цэнтр" на Маскву і пераходам яе да франтальнай абароны ў ходзе вядзення так званай „маланкавай

[1] *Великая Отечественная война 1941-1945 годов. В 12 т.*, т. 1: *Основные события войны*, Москва 2011; *Великая Отечественная война 1941-1945 годов. В 12 т.*, т. 2: *Происхождение и начало войны*, Москва 2012.

вайны" супраць СССР. У гэтай сувязі, ці здольны мы на цяперашні час вызначыць сапраўднае гістарычнае значэнне тых падзей, перакана ўча паказаць тую створаную ў рэшце рэшт дакументальную базу, якая пакладзена ў аснове навуковых ацэнак аб гістарычных выніках абарончых баёў Чырвонай Арміі на тэрыторыі Беларусі летам 1941 года.

А з другога — паспрабуем таксама высветліць, якія новыя дакументальныя крыніцы былі выкарыстаны аўтарамі новай працы, і ў якой ступені яны дазволілі вырашыць пастаўленыя вышэй пытанні? Якія канкрэтныя факты ўжыты даследчыкамі, дзякуючы чаму былі рэканструяваны баявыя дзеянні Чырвонай Арміі ў першыя дні і месяцы вайны ў Беларусі? Якія малавядомыя новыя крыніцы ўведзены ў навуковы зварот расійскімі гісторыкамі, чым яны кіраваліся пры навуковым аднаўленні агульнай карціны тых падзей: новымі дакументальнымі крыніцамі і новымі даследчыцкімі падыходамі, ці традыцыйнымі фактамі, замацаванымі ў мемуарнай літаратуры і агульнавядомых працах?

Разгледзім акрэсленыя праблемы на прыкладзе навуковага аналізу важнейшых баявых дзеянняў у Беларусі летам 1941 г. Прааналізуем факты з новай гістарыяграфічнай крыніцы, якая на дзесяцігоддзі будзе вызначаць падыходы да гэтай праблематыкі, з мэтай аб'ектыўнага адлюстравання ходу і вынікаў двухбаковых баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларусі, у тым ліку:

1) штурму і абароны Брэсцкай крэпасці летам 1941 года;
2) Лепельскага контрудару двух танкавых карпусоў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі;
3) баёў на Дняпроўскім рубяжы пад Магілёвам;
4) контрудару Чырвонай Арміі на Гомельшчыне;
5) лёсу палонных у Беларусі летам 1941 г. чырвонаармейцаў.

Перш за ўсё адзначым, у прадмове да першага тома Рэдакцыйная калегія засяроджвае ўвагу чытача якраз на тым, што новую працу расійскіх гісторыкаў „читатели примут только в том случае, если исторические процессы в нем будут отражены более объективно и всесторонне, без перекосов и умолчаний, если каждая страница, каждая его строка будут правдивыми. А для этого необходимо не только знание правды факта, но и понимание правды тенденции, правды явления, точность исторической концепции"[2]. Аўтар гэтых радкоў цалкам падзяляе прыведзенае рэдакцыйнае меркаванне. Сёння, напэўна ўсе разумеюць, што ў апошні час з'явілася ўнікальная магчымасць па шы-

[2] *Великая Отечественная война 1941-1945 годов. В 12 т.*, т. 2, с. 9.

рокім выкарыстанні новых дакументальных крыніц, якія раней былі маладаступны для даследчыкаў па прычынах, з аднаго боку, закрытасці айчынных фондаў, а з другога — недаступнасці замежных архіваў. У такім кантэксце прааналізуем асноўныя тэзісы, прыведзеныя ў якасці гістарычных высноў у найноўшым расійскім выданні для рускамоўнай чытацкай аўдыторыі.

### 1. Штурм і абарона Брэсцкай крэпасці летам 1941 года

Разгледзім адзін з першых тэзісаў на прыкладзе абарончых баёў Чырвонай Арміі на тэрыторыі Беларусі летам 1941 г. Так, у 2-м томе чытаем: „На 22 июня 1941 г. Брестскую крепость защищали порядка 3,5 тыс. человек 6-й и 42-й стрелковых дивизий 28-го стрелкового корпуса РККА”[3]. Заўважым, што гэты тэзіс фігураваў у савецкай гістарыяграфіі абароны Брэсцкай крэпасці[4], сустракаецца ён і ў сучасных беларускіх навуковых працах[5], але павялічаныя амаль удвая, прычым без патрэбных спасылак на дакументальныя крыніцы[6].

У пачатку 2000-х гадоў гэтыя лічбы не прымае на павер расійскі даследчык Расціслаў Аліеў — аўтар дакументальных прац *Штурм Брестской крепости* і *Брестская крепость: Документы и воспоминания*[7]. У іх гісторык адыходзіць ад савецкага стэрэатыпу, паколькі, на яго думку, існуючыя лічбы не адпавядалі гістарычнай рэчаіснасці па прычыне таго, што на момант заканчэння штурму крэпасці ў нямецкім палоне апынулася звыш 7 тысяч яе абаронцаў. Да такой высновы расійскі даследчык прыходзіць пасля вывучэння нямецкіх крыніц, сярод якіх „Данясення камандзіра 45-й пяхотнай дывізіі аб узяцці Брэст-Літоўска” ад 8.07.1941 года[8]. Асобна адзначым, што згаданыя вышэй выданні расійскага гісторыка пабачылі свет у вядомых маскоўскіх выдавецтвах „Яўза”, „Эксмо” і „Вече”, аднак пра іх не згадваецца ў спісе літаратуры да 2-га тома новага расійскага выдання. Узнікае пытанне, па якіх прычынах у грунтоўным выданні не згадваецца ці навукова не аспрэчваецца тэзіс Р. Аліева ў дачыненні да агульнай коль-

[3] Там жа, с. 736.

[4] *Героическая оборона*, Минск 1963, с. 17; *Великая Отечественная война Советского Союза 1941-1945: Краткая история*, Москва 1984, с. 58; *Брестская крепость*, [у:] *Великая Отечественная война 1941-1945: энциклопедия*, Москва 1985, с. 110-111; *Брэсцкай крэпасці абарона 1941*, [у:] *Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне, 1941-1945: энцыклапедыя*, Мінск 1990, с. 95-97.

[5] *Беларусь в годы Великой Отечественной войны 1941-1945*, Минск 2005, с. 62.

[6] *1941 год: Страна в огне: В 2 кн.*, кн. 1: *Очерки*, Москва 2011, с. 313.

[7] Р. В. Алиев, *Штурм Брестской крепости*, Москва 2008; *Брестская крепость. Война и мир*, Брест 2010.

[8] *Бресткая крепость. Война и мир...*, с. 390.

касці абаронцаў Брэсцкай крэпасці, лічба якіх толькі на Цэнтральным умацаванні складала каля 9 тысяч чалавек на момант пачатку нямецкага штурму 22 чэрвеня 1941 года[9]. Прычын таго, чаму гэтых звестак чытач не знойдзе на старонках новага выдання, выявіць аўтару гэтых радкоў таксама не ўдалося. Пры гэтым Рэдакцыйная камісія новага расійскага выдання пераконвае чытачоў у тым, што пры напісанні працы аўтары абапіраліся „не на идеологические постулаты, а на предшествующие научные исследования с учетом новых методологических подходов и с широким использованием большого массива архивных документов"[10]. Таму ў чытача застаецца пытанне, чаму ж у пералік „предшествующих научных исследований" не трапілі больш за 1000-старонкавыя працы расійскага гісторыка, напісаная на аснове выкарыстання значнага масіву як савецкіх, так і нямецкіх дакументаў.

На стар. 736 чытаем наступны тэзіс расійскіх аўтараў: „К началу июля противнику удалось захватить укрепления на Центральном острове после особенно масштабной бомбардировки и артиллерийского обстрела"[11]. Адразу ж узнікае пытанне, чым гэта сцвярджэнне адрозніваецца ад вядомага з савецкага часу тэзіса аб тым, што „29-30 июня фашисты предприняли «генеральный штурм» Цитадели, в результате которого им удалось занять большую часть укреплений и нанести ее гарнизону тяжелые потери", апублікаванага ў пачатку 1960-х гадоў у 6-томнай *Истории Великой Отечественной войны Советского Союза 1941-1945 гг.* (Москва 1961, т. 2, с. 19). У дасведчанага чытача, асабліва студэнцкай моладзі, якія добра ведаюць змест фільма расійскага рэжысёра Аляксандра Котта „Бресткая крепость" (2010)[12], узнікаюць і іншыя лагічныя пытанні, у тым ліку аб абароне самой Цытадэлі. Да таго ж неабходна ўлічваць і той факт, што беларускаму чытачу, дзякуючы новым выданням, таксама вядомы дакладныя факты з гісторыі нямецкага штурму крэпасці[13], калі да 29 чэрвеня самалёты люфтвафэ не ўдзельнічалі[14]. Са згаданага тэзіса вынікае, што „Цэнтральны востраў", які

9 Р. В. Алиев, *Штурм Брестской крепости...*, с. 238.

10 *Великая Отечественная война 1941-1945 годов. В 12 т.*, т. 1, с. 9.

11 *Великая Отечественная война 1941-1945 годов. В 12 т.*, т. 2, с. 736.

12 *Бресткая крепость (фильм)*, [Электронны рэсурс], 2010, Рэжым доступу: <https://ru.wikipedia.org/wiki>, [Дата доступу: 26.01.2016].

13 Р. В. Алиев, *Брестская крепость. Документы и воспоминания*, Москва 2010; *Данясенне аб ходзе баявых дзеянняў пры ўзяцці Брэст-Літоўска*, „Беларуская думка", 2010, № 5, с. 93-97; С. Я. Новікаў, *Абарона Брэсцкай крэпасці летам 1941 года ў ацэнцы гістарыяграфіі і ў святле дакументаў*, „Беларуская думка", 2010, № 5, с. 88-92; Р. В. Алиев, *Брест. Июнь. Крепость. В 2 кн.*, кн. 1, Брест 2012; К. Ганцэр, *Нямецкія і савецкія страты як паказчык працягласці і інтэнсіўнасці баёў за Брэсцкую крэпасць*, „ARCHE", 2014, № 5, с. 135-153.

14 Р. В. Алиев, *Брестская крепость. Документы и воспоминания...*, с. 152.

з часоў стварэння крэпасці насіў назву „Цэнтральнага ўмацавання” ці „Цытадэлі”, паколькі геаграфічна знаходзіўся ў самым „сэрцы крэпасці Брэст-Літоўск”[15], перанёс асабліва моцную бамбардзіроўку[16]. Нагадаем, што з захаду, поўначы і поўдня Цытадэль прыкрывалі іншыя ўмацаванні — адпаведна Цярэспальскае, Кобрынскае і Валынскае. Таму для ўважлівага чытача застаецца незразумелым ужыванне ў гэтым выпадку такіх назваў, як і ўведзеных гістарычных азначэнняў накшталт „генеральнага штурму Цытадэлі 29-30 чэрвеня”. На падставе якіх дакументальных крыніц зроблены такія высновы — галоўнае пытанне, на якое не даецца адказу ў новай працы. У той час як з айчыннай гістарыяграфіі вядома, што апошнім днём арганізаванай абароны ўмацаванняў на Цэнтральным востраве з'яўлялася дата 26 чэрвеня[17].

Пра гэта пішуць не толькі беларускія даследчыкі. Але больш пераканаўча гэты факт гучыць на старонках нямецкіх прац[18], у якіх сцвярджаецца, што самыя цяжкія баі з боку штурмуючых вяліся на працягу трох першых дзён, потым на працягу двух дзён ішлі баі ў асобных ачагах супраціўлення на Цэнтральным востраве (умацаванні) ці Цытадэлі. А пасля 26 чэрвеня баі працягваліся толькі за Усходні форт, абаронцы якога пасля двух моцных авіяўдараў здаліся ў палон вечарам 29 чэрвеня[19]. Як адзначае Крыстыян Ганцар, пасля 26 чэрвеня больш не гінулі

15 *Бресткая крепость. Война и мир...*, с. 174.

16 Федэральны ваенны архіў Германіі (далей: BA-MA). RH 26-45/27, Bl. 6-7. Gefechtsbericht über die Wegnahme von Brest-Litowsk v. 8.07.1941; *Данясенне аб ходзе баявых дзеянняў пры ўзяцці Брэст-Літоўска*, „Беларуская думка”, 2010, № 5, с. 96; *Данясенне камандзіра 45-й пяхотнай дывізіі генерал-маёра Ф. Шліпера аб ходзе баявых дзеянняў пры ўзяцці Брэст-Літоўска (22.6-29.6.41 г.)*, [у:] С. Я. Новікаў, *Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў*, Смаленск 2015, с. 161-162.

17 Р. В. Алиев *Штурм Брестской крепости*, с. 657.

18 Ch. Hartmann, *Wehrmacht im Ostkrieg. Front und militärisches Hinterland 1941/42*, München 2009, s. 259-266; Ch. Ganzer, A. Paschkovich, *„Heldentum, Tragik, Tapferkeit”. Das Museum der Verteidigung der Brester Festung*, „Osteuropa”, 2010, nr 12, s. 81-97: К. Ганцар, А. Пашкевіч, *„Гераізм, трагізм, мужнасць”. Музей абароны Берасцейскай крэпасці*, „ARCHE”, 2013, № 2, с. 43-60; К. Ганцер, *Немецкие и советские потери как показатель продолжительности и интенсивности боев за Брестскую крепость*, [у:] *Беларусь і Германія: гісторыя і сучаснасць: матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, Мінск, 5 красавіка 2013 г., вып. 12*, Мінск 2014, с. 44-52; К. Ганцер, *Переводчик виноват: влияние перевода на восприятие исторических событий (на примере отчета генерал-майора Фрица Шлипера о боевых действиях по захвату Брест-Литовска)*, [у:] *Беларусь і Германія: гісторыя і сучаснасць: матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, Мінск, 5 красавіка 2013 г., вып. 13: у 2 т.*, т. 1, Мінск 2015, с. 39-45.

19 BA-MA, RH 26-45/27, Bl. 7. Gefechtsbericht über die Wegnahme von Brest-Litowsk v. 8.07.1941; *Данясенне аб ходзе баявых дзеянняў пры ўзяцці Брэст-Лі-*

ваеннаслужачыя 45-й пяхотнай дывізіі, якая на працягу пяці дзён штурмавала цэнтральныя ўмацаванні крэпасці[20]. Вядома, што апошнім непрыступным рубяжом, на які абрынулася не толькі артылерыя, але і нямецкая авіяцыя, з'яўлялася Кобрынскае ўмацаванне, дзе трымаўся Усходні форт на чале з будучым Героем Савецкага Саюза камандзірам 44-га стралковага палка маёрам Пятром Гаўрылавым. Узнікае заканамернае пытанне, а чаму гэтага не ведаюць пасля таго, як легендарны камандзір і мужны абаронца Усходняга форту напісаў успаміны *Сражается крепость*[21], якія ў другой палове 1970-х гадоў вытрымалі цэлых два выданні, у якіх рэальны сведка і непасрэдны ўдзельнік тых падзей распавядаў пра эпапею самаадданай барацьбы, упартага выжывання і валявой перамогі ва ўмовах занятай ворагам крэпасці.

Застаюцца адкрытымі і іншыя пытанні, напрыклад, аб храналагічных рамках актыўнай абароны крэпасці Брэст-Літоўск, фактычнай колькасці абаронцаў з савецкага боку, колькасці савецкіх воінаў, якія да канца чэрвеня з тэрыторыі крэпасці і горада патрапілі ў нямецкі палон і інш. Лёс 7223 палонных радавых, сяржантаў і афіцэраў Чырвонай Арміі[22] пасля шматлікіх заклікаў і зваротаў навуковай грамадскасці, у тым ліку аўтара гэтых радкоў[23], быў у рэшце рэшт ушанаваны ў экспазіцыі, адкрытай у Паўночна-ўсходняй казарме Цытадэлі Брэсцкай крэпасці, адзначанай спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2014 года[24].

*тоўска*, „Беларуская думка", 2010, № 5, с. 97; К. Ганцер, *Немецкие и советские потери как показатель продолжительности и интенсивности боев за Брестскую крепость*, [у:] *Беларусь і Германія: гісторыя і сучаснасць..*, с. 50; *Данясенне камандзіра 45-й пяхотнай дывізіі генерал-маёра Ф. Шліпера аб ходзе баявых дзеянняў пры ўзяцці Брэст-Літоўска (22.6-29.6.41 г.)*, [у:] С. Я. Новікаў, *Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў..*, с. 162.

20 Р. В. Алиев, *Брест. Июнь. Крепость...*, с. 144.

21 П. М. Гаврилов, *Сражается крепость*, Краснодар 1980.

22 BA-MA, RH 26-45/27, Bl. 7. Gefechtsbericht über die Wegnahme von Brest-Litowsk v. 8.07.1941; *Данясенне аб ходзе баявых дзеянняў пры ўзяцці Брэст-Літоўска*, „Беларуская думка", 2010, № 5, с. 97; *Данясенне камандзіра 45-й пяхотнай дывізіі генерал-маёра Ф. Шліпера аб ходзе баявых дзеянняў пры ўзяцці Брэст-Літоўска (22.6-29.6.41 г.)*, [у:] С. Я. Новікаў, *Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў...*, с. 162.

23 С. Я. Новікаў, *Абарона Брэсцкай крэпасці: гістарыяграфічныя міфы і гістарычная рэальнасць*, [у:] *Историческое наследие 1941 года в исследованиях и экспозициях музеев. Материалы Международной научной конференции, посвященной 70-летию обороны Брестской крепости (Брест, 9-11 июня 2011 г.)*, Брест 2013, с. 29.

24 *Аб прысуджэнні спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2014 года*, „СБ. Беларусь сегодня", 2015, 3 января, с. 2.

Такім чынам, нягледзячы на наяўнасць новых айчынных і замежных публікацый, у тым ліку грунтоўных дакументальных зборнікаў, у расійскай гістарыяграфіі адсутнічае аб'ектыўная карціна тых падзей у чэрвені 1941 г.

**2. Лепельскі контрудар двух танкавых карпусоў РСЧА**

Звернемся да тэзіса на стар. 746: „Контрудар стоил 5-му и 7-му механизированным корпусам (РСЧА — С. Н.), в составе которых находились 1639 танков (924 в 5-м и 715 в 7-м), среди которых немало неисправных, 2/3 парка боевых машин (по некоторым подсчетам)"[25]. У гэтай сувязі чытачу цяжка зразумець, чаму да гэтага часу не зроблены неабходныя падлікі, чаму ў навуковы дыскурс уводзяцца тыя баявыя адзінкі тэхнікі, якія апрыёры з'яўляліся няспраўнымі, г.зн. не ўдзельнічалі ў рэальных баявых дзеяннях. Але не ў меншай ступені якраз такі фактар істотна паўплываў на вынікі баёў, якія 5-ы і 7-ы МК вялі на Віцебшчыне ў пачатку ліпеня 1941 г. Такім чынам, чытач застаецца без яснага разумення карціны сустрэчных танкавых баёў на аршанска-віцебскім напрамках з аднаго боку наступаючых танкавых і матарызаваных злучэнняў 3-й і 2-й танкавых груп, а з другога — контрнаступаючых сіл двух механізаваных карпусоў Чырвонай Арміі.

У тэксце новага выдання ўважліваму чытачу не ўдасца знайсці адказы і на шэраг іншых пытанняў, у тым ліку: а) аб храналагічных рамках танкавых баёў пад Сянно і Лепелем[26]; б) аб агульнай колькасці баявых машын, якія з двух бакоў удзельнічалі ў баях на Віцебшчыне[27]; в) аб стратах, панесеных кожным бокам у ходзе танкавых баёў; г) аб прычынах фактычнага разгрому двух механізаваных карпусоў Чырвонай Арміі падчас контрудараў на лепельскім напрамку; д) аб аператыўна-тактычным значэнні Лепельскай аперацыі ў кантэксце недапушчэння далейшага бесперашкоднага прасоўвання нямецкіх бранірававаных калон на Смаленск. Для беларускага чытача гэтыя пытанні застаюцца асабліва актуальнымі, калі мець на ўвазе новыя публікацыі, і сярод іх

[25] *Великая Отечественная война 1941-1945 годов. В 12 т.*, т. 2, с. 746.

[26] Цэнтральны архіў Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі (далей: ЦАМО РФ), ф. 208, воп. 2511, спр. 80, арк. 102: Лепельская операция с 6 по 11.7.41 г.; там жа, арк. 32: Журнал боевых действий 5 мехкорпуса. Отчет о действиях 13 танковой дивизии 5 МК за период с 4 по 19.7.41 г.; там жа, арк. 27-32: Отчет о действиях частей 17 танковой дивизии с 4.7.41 по 19.7.41 г.

[27] А. В. Исаев, *Неизвестный 1941. Остановленный блицкриг*, Москва 2010, с. 334, 347; BA-MA, RH 21-3/732, Bl. 13. Panzer AOK 3. Ia Nr. 520/42 geheim, Gefechtsberichte Russland 1941/42.

тыя, якія праліваюць святло на факты адсутнасці ці вялікага недахопу ў пачатку вайны бранябойных снарадаў для 76-мм дывізійных гармат, непрадуманага выкарыстання артылерыі, танкавых і стралковых часцей у ходзе правядзення Лепельскай аперацыі 6-11 ліпеня 1941 года[28].

Даследаванне тых падзей у кантэксце пастаўленых пытанняў пераконвае ў тым, што Лепельская аперацыя сапраўды вызначалася фактам шырокага выкарыстання танкавых злучэнняў як з савецкага, так і з нямецкага боку. Аднак называць тыя падзеі танкавай бітвай пад Сянно можна толькі з улікам наступных фактаў і фактараў.

Па-першае, дакументы аператыўнага аддзела штаба Заходняга фронту баявыя дзеянні 5-га і 7-га механізаваных карпусоў 20-й арміі ўтрымліваюць гістарычную назву таго контрудару — „Лепельская аперацыя"[29]. Па-другое, у дакументальных матэрыялах не ўдалося выявіць факта адначасовага сутыкнення з двух бакоў буйных мас танкаў, агульная колькасць якіх перавышала б нават 300 адзінак, не кажучы пра лічбы ў амаль 3 тыс. баявых машын. Вывучэнне аператыўных дакументаў танкавых злучэнняў, якія з двух бакоў удзельнічалі ў баях пад Сянно, дазваляюць выявіць сутыкненні з удзелам аднаго-двух танкавых палкоў агульнай колькасцю ад 10 да 200 баявых адзінак[30]. Па-трэцяе, фактычна „Лепельская аперацыя" распалася на два самастойныя контрудары, якія, паводле аддадзенага загаду, наносіліся па розных напрамках: 7-ы механізаваны корпус у складзе 14-й і 18-й танкавых дывізій наступаў з раёна Віцебска на Бешанковічы — Лепель; 5-ы механізаваны корпус у складзе 13-й і 17-й танкавых і 109-й мотастралковай дывізій наносіў удар з раёна Оршы на Сянно — Лепель. Фактычна контрудары былі праведзены ў названай паслядоўнасці, але з розніцай у два дні. Канчатковай мэтай контрудараў з'яўляўся выхад у раён Лепеля для нанясення ўдару ў фланг і тыл полацкай групоўкі праціўніка. Паводле аператыўнага данясення Заходняга фронту ад 5 ліпеня 1941 г., войскі фронту наносілі ўдар па праціўніку, маючы толькі адзін агульны напрамак — Лепель[31]. Падчас аперацыі савецкі бок страціў фактычна 75% танкавага парку 5-га і 7-а механізаваных карпусоў, прычым толькі трэцюю

[28] С. Я. Новікаў, *Лепельская аперацыя летам 1941 года: спроба навуковай інтэрпрэтацыі*, „Беларускі гістарычны часопіс", 2012, № 11, с 14-24; С. Я. Новікаў, *Лепельская аперацыя — франтавы наступальны контрудар войск Заходняга фронту ў Беларусі летам 1941 года*, „Ученые записки УО «ВГУ им. П. М. Машерова». Сборник научных трудов", 2013, т. 16, с. 18-34.

[29] ЦАМО РФ, ф. 208, воп. 2511, спр. 80, арк. 111: Лепельская операция с 6 по 11.7.41 г.

[30] Там жа, арк. 111.

[31] *1941. Документы и материалы: К 70-летию Великой Отечественной войны. Выпуск первый в двух томах*, т. 2, Санкт-Петербург 2011, с. 276.

частку на полі бою ў ходзе танкавых баёў ці дзейнасці процітанкавай артылерыі праціўніка. Вось што прыведзена ў якасці прычын у дакладной запісцы на імя Іосіфа Сталіна, падрыхтаванай па даручэнні камандуючага Заходнім фронтам Сямёна Цімашэнкі членам Ваеннага савета фронту, першым сакратаром ЦК КП(б)Б Панцеляймонам Панамарэнкам у пачатку жніўня 1941 г. У архіўным дакуменце гаворыцца, да чаго прывяла схільнасць многіх военачальнікаў і камандзіраў да дзеяння „лабавымі ўдарамі", „коннай лавай", „навалам", вядомых з часоў Грамадзянскай вайны, у 7-м механізаваным корпусе, які меў 526 танкаў. Так, „з 9 па 20 ліпеня корпус прайшоў шлях з баямі ў раёне Рудня — Лёзна — Бешанковічы і назад у Лёзна. У гэтым рэйдзе корпус страціў усе танкі па прычыне таго, што ў першы дзень корпус распачаў без разведкі лабавую атаку на вузел абароны праціўніка, у выніку страціў адразу 100 танкаў. Далей, зноў у выніку адсутнасці разведкі, корпус патрапіў пад перакрыжаваны агонь дзвюх замаскіраваных танкавых калон праціўніка і таксама страціў шмат танкаў. Затым корпус адышоў у балота. Шмат танкаў завязлі, а астатнія былі страчаны па дарогах. Так злачынна быў згублены адзін з моцных карпусоў"[32].

Сярод прычын амаль поўнага разгрому двух механізаваных карпусоў былі як аб'ектыўныя, так і суб'ектыўныя. Даволі дакладную карціну аб прычынах разгрому адной з дывізій 5-га механізаванага корпуса дае справаздача 13-й танкавай дывізіі, дзе гаворыцца, што ў ходзе бою ў раёне Толпіна два танкавыя і адзін мотастралковы палкі выконвалі загад аб неадкладным уступленні ў бой, але рабілі гэта без артылерыйскай падрыхтоўкі, без узаемадзеяння паміж сабой, без належнай разведкі мясцовасці, без выкарыстання пяхоты, і да таго ж не ў поўным складзе і не ў поўнай баявой гатоўнасці[33].

Нягледзячы на тактычныя няўдачы 5-га і 7-га механізаваных карпусоў, загад аб іх адыходзе на зыходныя пазіцыі стаў вынікам не разгрому ў раёне Сянно і Лепеля, а страты 9 ліпеня войскамі Заходняга фронту г. Віцебска. Вялікія страты ў баявой тэхніцы, якія панеслі два савецкія корпусы ў ходзе Лепельскай аперацыі, былі вельмі адчувальнымі, але не такія катастрафічныя[34], як гэта было пад Беластокам, Гроднам і Мінскам у першыя дні вайны.

32 Р. П. Платонов, *О причинах поражения войск Западного фронта в первые месяцы войны*, [у:] *Беларусь, 22 июня 1941 года: Говорят архивы...: Материалы к заседанию «круглого стола», посвященного 60-летию начала Великой Отечественной войны (июнь 2001 г.)*, Минск 2001, с. 51-65.

33 ЦАМО РФ, ф. 208, воп. 2511, спр. 80, арк. 3: Отчет о действиях 13-й танковой дивизии 5 МК за период с 4 по 19.7.41.

34 ЦАМО РФ, ф. 208, воп. 2511, спр. 80, арк. 111: Лепельская операция с 6 по 11.7.41 г.

На наш погляд, зусім невыпадкова ў новым расійскім выданні пакінуты па-за ўвагай яшчэ адзін факт гісторыі, звязаны з тым, што ўдзельнікам Лепельскай аперацыі з'яўляўся старэйшы сын І. Сталіна — Якаў Джугашвілі, які пад Лёзна падчас адступлення 14-й танкавай дывізіі патрапіў у нямецкі палон[35]. У час допыту ў нямецкім палоне ён выказаў сваё разуменне аператыўна-тактычных вынікаў аперацыі на Віцебшчыне. На яго думку, гэта стала расплатай за рэпрэсіі супраць вядучага каманднага складу Чырвонай Арміі, у выніку якіх ні на адным узроўні — брыгады, дывізіі, корпуса — часам не маглі своечасова прыняць правільнага аператыўнага рашэння. Артылерысты, дзе праходзіў службу старшы лейтэнант Джугашвілі, вымушаны былі весці агонь па праціўніку без палявых карт[36].

Такім чынам, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што адной з актуальных задач беларускай гістарычнай навукі з'яўляецца правядзенне спецыяльнага даследавання аб Лепельскай аперацыі пачатку ліпеня 1941 г., у аснову якога будзе пакладзены прынцып супастаўлення дакументальных крыніц айчыннага і замежнага паходжання. Толькі так можна стварыць аб'ектыўную рэканструкцыю тых важных гістарычных падзей.

### 3. Баі на Дняпроўскім рубяжы пад Магілёвам

Кажучы пра баі пад Магілёвам, аўтары новага расійскага выдання пакінулі некалькі навуковых тэзісаў, крытычны аналіз якіх неабходны па розных прычынах, але ў першую чаргу, іх неадпаведнасці вядомым на цяперашні час дакументальным фактам. Напрыклад, на стар. 746 сцвярджаецца: „К 9 июля танки Гудериана подошли к Могилеву". Адразу ўзнікае пытанне, на падставе якіх дакументаў зроблена такая выснова, калі мець на ўвазе добра вядомыя з савецкай гістарыяграфіі звесткі пра тое, што бой на Буйніцкім полі пад Магілёвам адбыўся 12 ліпеня 1941 г.[37], пра што яшчэ ў ліпені 1941 г. пісалася ў савецкім друку.

Звернемся да нямецкіх дакументаў, у першую чаргу да „Данясення 6-га танкавага палка пра бой пад Магілёвам"[38], які 12 ліпеня 1941 г. у складзе трох рот вялі баявыя падраздзяленні 3-й танкавай дывізіі

[35] BA-MA, RH 26-26/7a, Bl. 1-3. Vernehmung des gefangenen russischen Oberleutnant Jacob Josifowitsch Dschugaschwili vom 14. Haub. Art. Regiment.

[36] Там жа, Bl. 2-3.

[37] *История Второй мировой войны 1939-1945: в 12 т.*, т. 4: *Фашистская агрессия против СССР. Крах стратегии «молниеносной войны»*, Москва 1975. с. 47; В. С. Паваліхіна, *Буйніцкае поле*, [у:] *Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне, 1941-1945*: *энцыклапедыя*, Мінск 1990, с. 103.

[38] *Бой 2-га батальёна 6-га танкавага палка пад Магілёвам*, „Беларускі гістарычны часопіс", 2007, № 7, с. 13-19.

пад камандаваннем генерал-лейтэнанта Вальтэра Модэля[39]. Паводле дзённіка баявых дзеянняў 6-га танкавага палка, 2-і батальён якога якраз і вёў 11-12 ліпеня бой на паўднёва-заходніх падыходах да горада на Дняпры, захаваліся рапарты камандзіраў 5-й, 7-й і 8-й танкавых рот. Гэтыя падраздзяленні з'яўляліся непасрэднымі выканаўцамі загада камандзіра 3-й танкавай дывізіі, якая ў складзе 2-й танкавай арміі (танкавай групы) генерал-палкоўніка Гейнца Гудэрыяна павінна была забяспечыць „прарыў праз умацаванні на Дняпры і пачаць наступленне на Смаленск"[40]. Раніцай 12 ліпеня 1941 г. ад камандзіра дывізіі В. Модэля паступіла кароткае паведамленне: „Становішча на 6.00: 3-я танкавая дывізія наступае на ворага на захад ад Дняпра, на паўднёвы захад ад Магілёва"[41]. Палявы штаб Г. Гудэрыяна ў гэты час знаходзіўся ў Талачыне. У вячэрнім запісе штабнога аддзела ад 12 ліпеня адзначалася: „Дзённае паведамленне, 12.7.41, 23.40. 3-й танкавай дывізіі выйсці з раёна Буйнічы для правядзення пераправы цераз Днепр злева ад 10-й пяхотнай дывізіі (паміж Магілёвам і Старым Быхавам — С. Н.), каб весці наступленне ў раёне Магілёў — Чавусы — Роснаў"[42].

Камандаванне 6-га танкавага палка, выконваючы загад камандзіра дывізіі, вяло актыўную разведку, здабывала звесткі пра ландшафт мясцовасці, размяшчэнне на ёй абарончых умацаванняў, пра наяўнасць жывой сілы і баявыя пазіцыі савецкіх баявых часцей. А 20-й гадзіне 11 ліпеня 1941 г. разведка дакладвала, што на захадзе, поўначы і поўдні ад горада выяўлены процітанкавыя равы, мінныя палі і ўмацаваныя пазіцыі процітанкавай артылерыі[43]. Атрыманыя разведданыя былі перададзены камандзірам рот, якія раніцай 12 ліпеня пачыналі наступленне на напрамку галоўнага ўдару 2-га батальёна. Уздоўж шашы Быхаў — Магілёў з арыенцірам на в. Буйнічы павінна весці наступленне 7-я рота; паміж Бабруйскай шашой і чыгункай на Гомель — 8-я рота; паміж чыгункай на Гомель і Асіповічы з арыенцірам на в. Туманаўка — 5-я рота.

У рапартах камандзіраў танкавых рот ёсць звесткі пра іх колькасны склад і баявыя дзеянні 12 ліпеня, праведзеныя ў ходзе выканання пастаўленых задач[44]. Звесткі пра разгортванне баявых дзеянняў

[39] J. Hürter, *Hitlers Heeresführer. Die deutschen Oberbefehlshaber im Krieg gegen die Sowjetunion 1941/42*, München 2006, s. 649.

[40] BA-MA, RH 21-2/927, Bl. 204, KTB (Kriegstagebuch) Nr. 1 der 2. Panzer-Armee (Panzergruppe 2), Darstellung der Ereignisse am 12. Juli 1941.

[41] BA-MA, RH 21-2/124, Bl. 3, KTB Nr. 1 der 2. Panzer-Armee (Panzergruppe 2), Anlagen v. 12.7.1941.

[42] Там жа, Bl. 59.

[43] BA-MA, RH 27-3/165, Tätigkeitsbericht der 3. Panzer-Division v. 11.7.41.

[44] BA-MA, RH 27-3/29, Bl. 40-45, 49-50, Panzer-Regiment 6. Erfahrungsbericht: Kampf der II./Rg.6 bei Mohilew am 12.7.1941.

на асобных участках паўднёва-заходняга плацдарма пад Магілёвам адлюстроўваюць ступень баявой гатоўнасці абаронцаў горада, найперш часцей Чырвонай Арміі, якія праявілі сваё тактычнае ўменне і практычныя навыкі баявых дзеянняў у час арганізацыі абароны на Дняпры. Паводле сведчанняў гэтай дакументальнай крыніцы, на лініі наступлення непасрэдна ў раёне в. Буйнічы германскія войскі сустрэлі эфектыўна дзеючую агнявую абарону савецкіх артылерыстаў, танкістаў і пяхоты, а таксама мінныя палі.

Як вынікае з нямецкага дакумента, бой на ўчастку мясцовасці пад в. Буйнічы, дзе вяла наступленне 7-я танкавая рота, меў свае значныя адметнасці. З дакумента відаць, што ў ходзе наступлення нямецкіх танкавых рот самым складаным з'яўляўся ўчастак баявых дзеянняў не пад в. Буйнічы, якая размешчана на адкрытай мясцовасці, а ў раёне лясной в. Туманаўка. Калі 8-я танкавая рота, якая дзейнічала ў цэнтры наступаючых падраздзяленняў, у асноўным выканала задачу і заняла ўчастак паміж Бабруйскай шашой і чыгункай на Гомель, пры гэтым узяла ў палон 80 чырвонаармейцаў, то на лініі наступлення 5-й танкавай роты пад Туманаўкай савецкія артылерысты, баявыя разлікі танкаў і процітанкавых гармат, а таксама сапёры, якія ўмела паставілі міннае поле, падарвалі і знішчылі ўсе баявыя машыны 2-га і 4-га ўзводаў роты[45].

Заўважым, што нямецкія дакументы не замоўчваюць тое, што чырвонай ніткай праходзіць праз даследаванні беларускіх гісторыкаў пра баявыя дзеянні пад Магілёвам 12 ліпеня 1941 г. Неабходна адзначыць і такую важную акалічнасць: на сваім шляху часці германскага вермахта фактычна ўпершыню з пачатку вайны з СССР сустрэлі моцны рубеж супраціўлення, на якім мужна стаялі савецкія воіны, выконваючы загад вышэйшага камандавання аб пераўтварэнні Магілёва ў „непрыступную крэпасць" (Festung-Mohilew), як пра гэта сведчаць нямецкія дакументы[46]. Важна зразумець, чаму праціўнік называе баявыя дзеянні на магілёўскім напрамку спачатку „баямі за Магілёў"[47], а на этапе іх завяршэння „Магілёўскай бітвай" (Schlacht von Mohi-

[45] Там жа, Bl. 43-44.

[46] BA-MA, RH 26-7/123, Bl. 5, Kurzberichte der 7. Infanterie-Division von Einsatz in Russland. Zeitraum: Juni 1941- April 1944; RH 26-7/15, Bl. 7, Kurzbericht über den Einsatz der Division in der „Schlacht von Mohilew", v. 15.8.1941.

[47] BA-MA, RH 24-7/49, Bl. 56, KTB des VII. A.K. Nr. 5 b v. 22.6.-1.10.1941, Anlagen zum KTB: Tagesmeldungen v. 22.6.-1.10.1941: Abendmeldung v. 21. Juli 1941 um 23.00: Anlage 30.

[48] BA-MA, RH 26-7/123, Bl. 5, Kurzberichte der 7. Infanterie-Division von Einsatz in Russland. Zeitraum: Juni 1941- April 1944; RH 26-7/15, Bl. 7, Kurzbericht über den Einsatz der Division in der „Schlacht von Mohilew", v. 15.8.1941.

lew)[48]. Што ж на самой справе на цэлы тыдзень спыніла практычна цалкам укамплектаваныя па штатным раскладзе нямецкія дывізіі[49] ў ходзе распачатай „наступальнай аперацыі"[50], сэнсам якой для немцаў быў „штурм умацаванага плацдарма Магілёў"[51]?

З другога боку, наколькі прыведзены ў расійскім выданні на стар. 775 тэзіс вытлумачвае храналогію падзей абароны Магілёва, дзе аўтары пішуць: „Бои на Могилевском направлении начались 3 июля 1941 г. Вскоре в сражение вступили части 172-й стрелковой дивизии. Особенно тяжелой была обстановка, где держался 338-й (так у тэксце — С. Н.) стрелковый полк 172-й сд (бой на Буйничском поле известен в отечественной историографии). На поле под Буйничами осталось не менее 24 подбитых вражеских бронемашин"[52]. Дэталёвы аналіз зместу гэтага тэзісу патрабуе звароту да пэўных дакументальных крыніц, у тым ліку нямецкіх[53]. Аднак на падставе якіх фактычных даных можна сцвярджаць аб пачатку баёў на магілёўскім напрамку, прапануючы за момант адліку 3 ліпеня, калі баявы загад № 1 на абарону горада камандзірам 172-й стралковай дывізіі генерал-маёрам Міхаілам Раманавым быў аддадзены толькі 7 ліпеня, прычым у 20.30[54]. Што гэта азначала на самой справе? З гэтага моманту баявы загад неабходна было тэрмінова перадаць камандзірам палкоў, якія толькі пасля гэтага маглі пачаць выкананне тых баявых задач, што былі вызначаны камандзірам дывізіі. Дык з якога гістарычнага моманту неабходна пачынаць адлік гісторыі абароны горада? З моманту, які ўвайшоў у айчынную гістарыяграфію на падставе даты, прапанавай ва ўспамінах былым намеснікам камандуючага Заходнім фронтам генерал-лейтэнантам Андрэем Яроменкам? Ці гістарычнай даты, якая вынікае з баявога загада № 1, аддадзенага генерал-маёрам М. Ц. Раманавым 7 ліпеня 1941 г.[55]? Ці паводле іншых загадаў? Якіх? Аднак на гэтыя пытанні мы не знаходзім адказу ў новым выданні.

[49] BA-MA, RH 24-7/158, Bl. 33, Stellenbesetzungen der Korpstruppen sowie dem Generalkommando unterstellten Einheiten v. 22.6.-1.10.1941, Abt. Ia, Gesamtverluste des VII. Armeekorps vom 22.6.41 bis 28.7.41 einschl.

[50] BA-MA, RH 20-2/165a, Bl. 2, Anlagen zum KTB, Teil I v. 21.6.1941-18.9.1941 (Operationskarten), Armeebefehl Nr. 8 v. 18.7.41 AOK 2; Ia, Nr. 1421/41 geh.

[51] BA-MA, RH 24-7/43, Bl. 205, Die Erstürmung des befestigten Brückenkopfes Mohilew, v. 15.8.1941; RH 24-7/48, Bl. 96, Abt. I c, Die Erstürmung des befestigten Brückenkopfes Mohilew, v. 6.8.1941; RH 26-23/25, Bl. 282, Die Erstürmung des befestigten Brückenkopfes Mohilew.

[52] *Великая Отечественная война 1941-1945 годов. В 12 т.*, т. 2, с. 775.

[53] С. Я. Новікаў, *Абарона Магілёва 1941 года: новыя звесткі*, „Беларускі гістарычны часопіс", 2012, № 7, с. 15.

[54] *Бой 2-га батальёна 6-га танкавага палка пад Магілёвам*, „Беларускі гістарычны часопіс", 2007, № 7, с. 14-19.

[55] Там жа, с. 15.

Заўважым, што ў працы памылкова названы 338-ы стралковы полк 172-й стралковай дывізіі. Як вядома, палкоўнік Сямён Куцепаў адказваў за арганізацыю абароны магілёўскага плацдарма на лініі Зацішша — Буйнічы і камандаваў, паводле загада № 1, не 338-м, а 388-м стралковым палком. Згодна з загадам № 1 ад 7.07.1941 г., абарону горада павінны былі забяспечыць тры палкі 172-й сд (388-ы, 747-ы і 514-ы) і 394-ы полк 110-й сд[56], які абараняў рубеж у напрамку Шклова, на паўднёвы захад і захад ад Княжыцаў. Але менавіта 388-ы стралковы полк пры падтрымцы артылерыстаў 340-га лёгкага артылерыйскага палка і палкавога сапёрнага падраздзялення спынілі танкавы ўдар, які вяла сіламі аднаго танкавага палка з паўднёвага захаду на Магілёў 3-я танкавая дывізія вермахта 12 ліпеня [57].

Патрабуе ўдакладненняў і наступнае сцвярджэнне з новага расійскага выдання: „После того как 24 июля командование 172-й дивизии отказалось капитулировать, немцы предприняли мощный штурм”[58]. Зноў звернемся да нямецкіх дакументаў. Паводле рапарта камандавання VII нямецкага армейскага корпуса „Узяцце ўмацаванага плацдарма Магілёў ад 15.8.41 г.” атрымліваецца, што 16 ліпеня 1941 г. камандаванне 2-й нямецкай палявой арміі ставіць перад VII палявым корпусам баявую задачу аб наступленні на Магілёў з мэтай авалодання пераправы цераз Днепр[59]. З загада вынікае, што „наступленне на Магілёў пачынаецца а 14-й гадзіне 20 ліпеня 1941 г.”[60]. Выкананне пастаўленай задачы павінны былі забяспечыць дзве нямецкія пяхотныя дывізіі — 7-я і 23-я, першая з іх будзе забяспечваць штурм паўночна-заходняга, другая — паўднёва-заходняга рубяжоў абароны горада. Яны захопліваюць іх і фарсіруюць Днепр — і гэта на працягу толькі другой паловы дня 20 ліпеня. Аднак абаронцы магілёўскага плацдарма з першых жа гадзін баявых дзеянняў істотна парушылі нямецкія планы, і гэта адлюстравана на старонках рапарта і дзённіка баявых дзеянняў армейскага камандавання. Яны спынілі, а потым цэлы тыдзень затрымлівалі на дняпроўскім рубяжы значныя нямецкія сілы, так неабходныя для наступлення на Смаленск і Маскву. Таму 22 ліпе-

[56] *Баявы загад № 1 камандзіра 172-й стралковай дывізіі генерал-маёра М. Ц. Раманава ад 7.07.41 г.*, [у:] С. Я. Новікаў, *Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў*, Мінск 2014. с. 128-129.

[57] С. Новікаў, *Адлюстраванне падзей на Буйніцкім полі 12 ліпеня 1941 года ў нямецкіх архіўных дакументах*, „Беларускі гістарычны часопіс”, 2007, № 7, с. 12-19; С. Новікаў, *Абарона Магілёва 1941 года: новыя звесткі*, „Беларускі гістарычны часопіс”, 2012, № 7, с. 14-19.

[58] *Великая Отечественная война 1941-1945 годов. В 12 т.*, т. 2, с. 777.

[59] *Узяцце ўмацаванага плацдарма Магілёў*, „Беларускі гістарычны часопіс”, 2010, № 7, с. 30.

[60] BA-MA, RH 24-7/40, Bl. 53, KTB des VII. A.K., Gen. Kdo VII A.K.

ня да пяхотных дывізій 7-га армейскага корпуса, што ўжо наступалі на Магілёў, была далучана 78-я пяхотная дывізія XII нямецкага армейскага корпуса, аператыўнай задачай якой з'яўляўся штурм горада з поўдня ў напрамку раёна Лупалава. А 23 ліпеня нямецкае камандаванне 2-й палявой арміі пайшло нават на выкарыстанне стратэгічных рэзерваў — увяло ў бой свежыя сілы 15-й пяхотнай дывізіі[61]. Менавіта гэтая дывізія ажыццяўляла канчатковы захоп Магілёва.

Такім чынам, фактычна з першага дня наступлення на Магілёў чатыром пяхотным дывізіям VII нямецкага армейскага корпуса прыйшлося штурмаваць[62] магілёўскі плацдарм. Звесткі з данясенняў камандзіраў дывізій аб разгортванні баявых дзеянняў на асобных участках абароны горада сведчаць аб высокай ступені баявой гатоўнасці абаронцаў, у першую чаргу часцей Чырвонай Арміі[63]. Як вынікае з дакументальных крыніц, на лініі наступлення праціўнік сустрэў эфектыўна дзеючую абарону, „умела і па-майстэрску абсталяваныя" абарончыя пазіцыі[64], асабліва моцнай з якіх з'яўлялся амаль непрыступны бастыён Гаі[65] — трывала ўмацаваны лясны ўзлесак, штурм якога неаднаразова вёўся нямецкімі сіламі. З вячэрняга данясення 21 ліпеня VII армейскага корпуса камандаванню 2-й палявой Арміі вынікае, што 7-я і 23-я пяхотныя дывізіі на працягу двух дзён няспынна вядуць „вельмі ўпартыя баі"[66]. На другі дзень гэтых баёў камандаванне корпуса пакідае запіс аб тым, што абаронцы супраціўляюцца вельмі моцна і ўпарта. У гэтай сувязі ў камандавання ўзнікла сумненне ў тым, што дзве дывізіі змогуць самастойна разграміць сілы праціўніка і ўзяць умацаваны плацдарм[67].

Практычна ва ўсіх дакументах немцы адзначалі, што на шляху наступлення пяхотных дывізій „была нечакана выяўлена добра адбудаваная сістэма абарончых пазіцый"[68], якую завяршалі ўдала пастаўлены

[61] BA-MA, RH 24-7/40, Bl. 59R, KTB des VII. A.K. Nr. 5 b v. 22.6.-1.10.1941, Tagesmeldungen v. 23.7.41.

[62] BA-MA, RH 24-7/43, Bl. 205, Die Erstürmung des befestigten Brückenkopfes Mohilev, v. 15.8.1941.

[63] Там жа, Bl. 208.

[64] BA-MA, RH 24-7/40, Bl. 56, KTB des VII. A.K. Nr. 5 b v. 22.6-1.10.1941, Tagesmeldungen v. 21.7.41.

[65] Там жа, Bl. 59.

[66] BA-MA, RH 24-7/49, Bl. 56, KTB des VII. A.K. Nr. 5 b v. 22.6-1.10.1941, Anlagen zum KTB: Tagesmeldungen v. 22.6.-1.10.1941: Abendmeldung v. 21. Juli 1941 um 23.00: Anlage 30.

[67] BA-MA, RH 24-7/43, Bl. 208, Die Erstürmung des befestigten Brückenkopfes Mohilev, v. 15.8.1941; RH 24-7/40, Bl. 57R, KTB des VII. A.K. Nr. 5 b v. 22.6.-1.10.1941, Tagesmeldungen v. 21.7.41.

[68] BA-MA, RH 24-7/40, Bl. 56R, KTB des VII. A.K. Nr. 5 b v. 22.6.-1.10.1941, Tagesmeldungen v. 21.7.41.

мінныя палі[69]. Нямецкія дакументы не замоўчваюць, што на ўсіх рубяжах пад Магілёвам наступаючыя палкі былі сустрэты моцным агнём, самі абаронцы праяўлялі асаблівую вытрымку, стойкасць і вынослівасць[70]. „Плацдарм Магілёў браўся VII армейскім корпусам на працягу сямі дзён з нечакана жорсткімі баямі. Гэты штурм уяўляе сабой цалкам завершаную **аперацыю** (выдзелена мной — С. Н.), а таму з'яўляецца рэдкай карцінай асобнай бітвы армейскага корпуса (...). Рускі трымаецца да апошняга. Ён зусім неўспрымальны да баявых дзеянняў на яго флангах і тыле. Трэба было з боем браць кожную стралковую ячэйку, кожную процітанкавую і кулямётную пазіцыю, кожны дом"[71].

Нават з гэтага дакумента бачна, што штурмаваць магілёўскі плацдарм нямецкім пяхотным дывізіям прыходзілася літаральна з першага дня наступлення на Магілёў і да апошняга дня яго трывалай абароны.

Выклікае пытанні таксама наступнае сцвярджэнне, прыведзенае на стар. 777: „Будучи раненым генерал Романов был укрыт местными жителями, впоследствии организовал партизанский отряд, но был выдан изменником и казнен фашистами"[72]. Што ў якасці доказаў стаіць за гэтым тэзісам, калі мець на ўвазе дакументальна пацверджаны факт, што з восені 1941 г. генерал Раманаў апынуўся сярод вязняў аднаго са спецыяльных лагераў „Афлаг XIII C" побач з баварскім горадам Хамельбург, у якім утрымліваліся савецкія палонныя афіцэры, у тым ліку генерал Раманаў, маёр Гаўрылаў, капітан Зубачоў і іншыя. Лёс першага з іх трагічна абарваўся 3 снежня 1941 г.[73]. Легендарны абаронца памёр ад ранення, атрыманага ў час выхаду з акружэння пад Магілёвам.

Звернем увагу і на яшчэ адно сцвярджэнне, прыведзенае на стар. 746: „Больших жертв стоило врагу взятие города Могилева, где стойко держались немногочисленные советские войска"[74]. Кажучы пра першую частку цытаты, аўтары не прывялі дакладных даных, хутчэй за ўсё маючы на ўвазе думку, якую выказаў у пасляваенных успамінах Маршал Савецкага Саюза Георгій Жукаў у дачыненні да колькасці страт з боку нямецкай жывой сілы ў ходзе 23-дзённай абароны горада Магілёва. У мемуарах прыводзіцца лічба звыш 30 тыс. нямец-

[69] BA-MA, RH 26-23/22, Bl. 42, KTB Nr. 6 Kdo 23. Ind.-Div. für die Zeit v. 25.5.-7.8.1941, Abt. Ia.

[70] BA-MA, RH 24-7/43, Bl. 213, Die Erstürmung des befestigten Brückenkopfes Mohilev, v. 15.8.1941.

[71] Там жа, Bl. 213; С. Новікаў, *Магілёўская бітва 1941 года ў данясеннях вермахта*, „Беларускі гістарычны часопіс", 2010, № 7, с. 25.

[72] *Великая Отечественная война 1941-1945 годов. В 12 т.*, т. 2, с. 777.

[73] С. Я. Новікаў, *Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў,* Мінск 2014, с. 60.

[74] *Великая Отечественная война 1941-1945 годов. В 12 т.*, т. 2, с. 746.

кіх салдат і афіцэраў[75]. Для чытача гэта азначае, што „нешматлікія савецкія войскі”, колькасць якіх паводле айчыннай гістарыяграфіі вынікала з факта абароны ўмацаванага плацдарма толькі адной 172-й стралковай дывізіяй (паводле плана камплектавання ад 1.04.1941 г. штат дывізіі павінен быў складаць 14 тыс. чалавек[76]). У гэтым выпадку атрымліваецца, што адна толькі 172-я стралковая дывізія знішчыла каля Магілёва дзве штатныя нямецкія пяхотныя дывізіі. Аднак наколькі гэта лічба адпавядае нямецкім дакументальным крыніцам, непасрэдна тым фактычным даным, якія былі замацаваны ў дзённіках баявых дзеянняў кожнай з 4-х пяхотных дывізій, якія на працягу тыдня вялі штурм умацаванага плацдарма пад Магілёвам. Паводле нямецкіх дакументальных даных, агульная лічба страт за гэты час складала 3765 афіцэраў, унтэр-афіцэраў і салдат, у тым ліку: былі забітыя — 727, параненыя — 2867 і зніклыя — 171 чалавек[77].

Цяпер прааналізуем другую частку сцвярджэння — аб „нешматлікіх савецкіх войсках” пад Магілёвам. З кантэксту працы вынікае, што да ліку абаронцаў Магілёўскага плацдарма аўтары выдання адносяць толькі адну 172-ю стралковую дывізію. Наколькі гэта так, калі кіравацца дакументальнымі звесткамі, выяўленымі аўтарам гэтых радкоў у нямецкіх дакументах, у якіх размова ідзе пра колькасць савецкіх ваеннапалонных, якія ў ходзе абароны горада на Дняпры апынуліся ў нямецкім палоне. З нямецкіх дакументаў вынікае, што агульная лічба ваеннапалонных складала 35 031, з якіх 31 — афіцэр РСЧА. З агульнай лічбы палонных бачна, што гэта адпавядала штатнай колькасці не менш трох савецкіх дывізій, якія абаранялі горад. Аднак дзе мы пра гэта чытаем у новым выданні? Больш таго, ці ідзе ў ім гаворка пра савецкіх ваеннапалонных, якія фактычна з першых дзён вайны пачалі пісаць адну з трагічных старонак гісторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Асабліва з улікам таго, што менавіта на беларускай зямлі загінуў фактычна кожны трэці ваеннапалонны, узяты ў палон групай армій „Цэнтр”, і кожны пяты ваеннапалонны, хто апынуўся ў нямецкім палоне ў гады вайны.

З выяўленых у апошні час дакументальных крыніц вынікае, што Магілёўскі плацдарм на працягу некалькіх дзён абараняла не адна штатная 172-я стралковая дывізія, а аб'яднаныя сілы некалькіх дывізій, у тым ліку 110-й, 84-й, 100-й, 148-й, 161-й, 24-й і 50-й стралковых дывізій. У нямецкіх дакументах адзначаецца факт таго, наколькі скла-

[75] Г. К. Жуков, *Воспоминания и размышления*, Москва 1969, с. 295.

[76] *Накануне: Западный особый военный округ (конец 1939-1941 г.), документы и материалы*, Минск 2007, с. 5.

[77] С. Новікаў, *Магілёўская бітва 1941 года ў данясеннях вермахта*, „Беларускі гістарычны часопіс”, 2012, № 7, с. 24.

дана вызначыць дакладна, ці былі выяўленыя вайсковыя часці толькі далучаны да асноўных сіл у якасці ўзмацнення пры правядзенні баявых дзеянняў пад Магілёвам або яны ўліліся ў якасці папаўнення ў склад чатырох адмабілізаваных стралковых дывізій (110-й, 172-й, 148-й і 161-й). Да ўсяго трэба мець на ўвазе, што ў Магілёве і яго ваколіцах трапілі ў палон чырвонаармейцы іншых стралковых падраздзяленняў, а таксама часці 210-й матарызаванай дывізіі і часці ці рэшткі часцей 26-й і 38-й ранейшых танкавых дывізій, якія сталі матарызаванымі і інш.

З дакументаў нямецкага 7-га палявога армейскага корпуса бачна, што абарону Магілёўскага плацдарма вялі дзве штатныя дывізіі (110-я і 172-я), якія раней не былі задзейнічаны ў баях, тры выматаныя, але баяздольныя дывізіі (148-я, 161-я стралковыя і 210-я матарызаваная), а таксама рэшткі 24-й, 50-й, 100-й і іншых стралковых дывізій. Вось чаму не выклікае поўнага непрыняцця агульная колькасць савецкіх вайскоўцаў, якія трапілі ў нямецкі палон у ходзе Магілёўскай бітвы[78].

Такім чынам, аказваецца, базавым палажэннем, замацаваным у сучаснай расійскай гістарыяграфіі, з’яўляецца традыцыйны тэзіс савецкай гістарычнай навукі аб вызначальнай ролі падраздзяленняў 172-й стралковай дывізіі 13-й арміі, якія на працягу 23 дзён вялі абарону Магілёва на Дняпры.

### 4. Контрудар Чырвонай Арміі на Гомельшчыне

Нарэшце звернем увагу на наступны сюжэт на стар. 785: „Сильный контрудар по противнику с середины июля нанесла 21-я армия, освободив Жлобин и Рогачев. Этот успех стал одной из первых удачных локальных операций РККА, сковавшей на некоторое время главные силы 2-й немецкой армии в междуречье Днепр и Березина”[79]. Звернемся да дзённіка баявых дзеянняў гэтай арміі, з якога вынікае, што баявыя дзеянні 63-га стралковага корпуса пад камандаваннем генерала Леаніда Пятроўскага былі не толькі адметнымі ў тактычным плане, паколькі скавалі на некаторы час галоўныя сілы 2-й палявой нямецкай арміі, але і сталі вызначальнымі ў прыняцці важных стратэгічных рашэнняў на ўзроўні Вярхоўнага галоўнакамандавання германскага вермахта ў канцы ліпеня 1941 г. Пры гэтым асобна падкрэс-

[78] *Данясенне 7-га армейскага корпуса аб узяцці ўмацаванага плацдарма Магілёў (20.07-26.07.41)*, [у:] С. Я. Новікаў, *Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў*, Мінск 2014, с. 181.

[79] *Великая Отечественная война 1941-1945 годов. В 12 т*., т. 2, с. 785.

лім, што аўтарам неабходна было б пазначыць, што адной з галоўных прычын выдання 30 ліпеня Адольфам Гітлерам дырэктывы № 34, згодна якой група армій „Цэнтр" у выніку баявых дзеянняў Заходняга і Цэнтральнага франтоў часова спыняла сваё наступленне на Маскву і пераходзіла да абароны на гэтым участку Усходняга фронту[80], з'яўляліся якраз баявыя дзеянні на Гомельшчыне. Наш тэзіс вынікае з дадатку да дырэктывы № 34 ад 12 жніўня 1941 г., у якім Вярхоўнае галоўнакамандаванне вермахта вызначае ў якасці першачарговай задачы ліквідацыю праціўніка на паўднёвым флангу, дзе былі скаваны даволі буйныя сілы пяхоты групы армій „Цэнтр". З гэтай мэтай аддаваўся загад аб падрыхтоўцы тактычнага ўдару 2-й танкавай групы ў напрамку на Гомель, які адначасова разглядаўся ў якасці этапу падрыхтоўкі ў будучым стратэгічнага ўдару з поўдня на Маскву. Усё гэта азначала, што план маланкавай вайны пачаў даваць свае збоі ў Беларусі. І адной з важных прычын гэтага стала пагрозлівае становішча, створанае сіламі Чырвонай Арміі супраць правага флангу групы армій „Цэнтр" на Гомельшчыне летам 1941 г. Тут важна адзначыць, што ў новым расійскім выданні прыведзены даволі пераканаўчыя факты, якія сведчаць аб стратэгічнай важнасці контрудару 21-й арміі савецкіх войскаў. Таму цалкам лагічнай нам бачыцца выснова аўтараў працы, што „приостановка наступления немецких войск на главном стратегическом направлении (...) позволила Красной армии пополнить личным составом поредевшие воинские части, сформировать новые и выдвинуть их (порой плохо вооруженные и недостаточно подготовленные) для укрепления обороны Москвы"[81].

Між тым, кажучы пра падзеі на Гомельшчыне летам 1941 г., важна памятаць, што ў ліпені — жніўні на Дняпроўскім рубяжы каля Рагачова і Жлобіна германскія войскі ўпершыню ў ходзе Вялікай Айчыннай вайны былі вымушаны весці шматтыднёвыя абарончыя баі, якія ўпершыню ў айчыннай гістарыяграфіі атрымалі назву „Гомельскай бітвы 1941 года"[82]. Дзякуючы ёй, больш чым на месяц былі затрыманы значныя сілы вермахта, што стала адной з вызначальных прычын краху германскага „бліцкрыгу" на тэрыторыі Беларусі летам 1941 г.

Нагадаем, што камандаванне Заходняга фронту, для таго каб адцягнуць сілы праціўніка і аслабіць ціск групы армій „Цэнтр" на маскоў-

[80] *Дырэктыва А. Гітлера № 34 аб далейшым вядзенні вайны на ўсходзе ад 30.7.1941 г.*, [у:] С. Я. Новікаў, *Беларусь улетку 1941 года...*, с. 204; С. Я. Новікаў, *Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў*, Смаленск 2015, с. 91.

[81] *Великая Отечественная война 1941-1945 годов. В 12 т.*, т. 2, с. 785.

[82] С. Новікаў, *Гомельская бітва 1941 года: спроба рэканструкцыі*, „Беларускі гістарычны часопіс", 2012, № 8, с. 3-14.

скім напрамку (дзе з 10 ліпеня праводзілася Смаленская стратэгічная абарончая аперацыя Чырвонай Арміі), з 13 ліпеня пачало праводзіць Рагачоўска-Жлобінскую франтавую наступальную аперацыю сіламі 63-га стралковага корпуса 21-й арміі[83]. У ходзе гэтай аперацыі 63-і стралковы корпус пад камандаваннем генерал-лейтэнанта Л. Р. Пятроўскага сутыкнуўся з упартым супраціўленнем нямецкага 53-га армейскага пяхотнага корпуса 2-й нямецкай палявой арміі. Фактычна на месяц гэтая армія была затрымана сіламі Чырвонай Арміі ў міжрэччы Бярэзіны, Дняпра і Сожа. Тое баявое наступленне і яго наступствы, як сцвярджаецца ў сучаснай айчыннай гістарыяграфіі, з'яўлялася, магчыма, першым поспехам савецкіх войск за ўвесь пачатковы перыяд вайны[84]. На наш погляд, не менш важным можна лічыць таксама і той факт, што ў выніку франтальнай наступальнай аперацыі Чырвонай Арміі 2-я нямецкая палявая армія вымушана была перайсці да абароны на тэрыторыі Беларусі ўжо ў пачатку трэцяй дэкады ліпеня. Больш за тое, паводле загаду А. Гітлера ад 30 ліпеня 1941 г. група армій „Цэнтр" упершыню пасля нападу на Савецкі Саюз пераходзіла да абароны на цэнтральным напрамку разгортвання стратэгічнага плана „маланкавай вайны".

У значнай ступені падзеі на гомельскім напрамку сталі адной з прычын відавочнага правалу плана „Барбароса"[85]. Аператыўны крызіс на маскоўскім напрамку наступлення вермахта ў другой палове ліпеня — пачатку жніўня 1941 г. сведчыў аб тым, што савецкае контрнаступленне пад Жлобінам і Рагачовам выклікала няўпэўненасць на толькі сярод камандавання групы армій „Цэнтр", але і сярод вышэйшага камандавання сухапутных сіл вермахта. Супярэчнасці, якія тады ўзніклі, ляглі ў аснову новых распараджэнняў А. Гітлера ў канцы ліпеня, паводле якіх быў аддадзены загад на абарону на гомельскім напрамку: разгарнуць сілы 2-й арміі ў напрамку на Гомель і знішчыць групоўку савецкіх войск, якая яго абараняла[86]. Такім чынам, значная частка сіл вермахта замест паходу на Маскву вымушана была рухацца на Гомель.

Звернем увагу, што па стане на 4 ліпеня 1941 г. у складзе 2-й палявой арміі налічвалася 6 армейскіх карпусоў, адзін з якіх (7-ы армей-

[83] *Боевой приказ 3 03/ОП. Штарм 21 Гомель. 13.7.41*, [у:] Р. С. Иринархов, *Агония 1941 года. Кровавые дороги отступления*, Москва 2011, с. 299-301.

[84] А. М. Литвин, *В боях за восточную Беларусь*, [у:] *Беларусь. 1941-1945: Подвиг. Трагедия. Память. В 2 кн.*, кн. 1, Минск 2010; *1941 год: Страна в огне: в 2 кн.*, кн. 1: *Очерки*, Москва 2011, с. 389.

[85] J. Hürter, *Hitlers Heeresführer. Die deutschen Oberbefehlshaber im Krieg gegen die Sowjetunion 1941/42*, München 2006, s. 292.

[86] *„Erwägungen und Anordnungen des Führers" vom 28.7.1941*, [у:] *Das Deutsche Reich und der Zweite Weltkrieg*, Bd. 4, Stuttgart 1987, s. 494.

скі корпус) павіны быў выконваць баявыя задачы на Дняпроўскім рубяжы ў раёне г. Магілёва, вядомага з гістарыяграфіі як „Мадрыд на Дняпры", а другі (9-ы армейскі корпус) быў уключаны ў склад 2-й танкавай групы пад камандаваннем Г. Гудэрыяна, якая наступала на маскоўскім напрамку. Ва ўмовах змены сітуацыі са стратэгічнага рэзерву групы армій „Цэнтр" 2-й палявой арміі быў дадаткова выдзелены 43-і армейскі корпус у складзе трох дывізій. Такім чынам, для выканання баявой задачы на гомельска-рагачоўскім участку Цэнтральнага фронту 2-я палявая армія вылучала 14 пяхотных і адну кавалерыйскую дывізіі[87]. Нагадаем, што 23 ліпеня камандаванне 2-й палявой арміі вымушана было аддаць загад аб пераходзе (фактычна ўпершыню з пачатку кампаніі на ўсходзе) да працяглай абароны на лініі Парычы — Жлобін — Рагачоў — р. Днепр (на поўдзень ад Новага Быхава) — Прапойск — р. Сож[88]. Штодзённыя баявыя дзеянні знаходзілі адлюстраванне ў данясеннях палкоў, дывізій і карпусоў, важным з якіх з'яўляецца „Данясенне аб Рагачоўска-Гомельскай бітве" аператыўнага штаба 2-й палявой арміі вермахта[89].

Прыкрыццё правага фланга групы армій „Цэнтр" спачатку было звязана са стрымліваннем савецкага наступлення на плацдарме Рагачоў — Жлобін. Як вынікае з дакументаў, вядзенне нямецкімі часцямі абарончых баёў не садзейнічала знішчэнню праціўніка, які меў магчымасць пастаянна папаўняць свае сілы; толькі поўная ліквідацыя групоўкі, якая абараняла Гомель, магла стаць надзейнай гарантыяй для аховы паўднёвага фланга 2-й палявой арміі з Гомеля і даць магчымасць аднавіць яе свабоду дзеянняў. Але ў пачатку жніўня камандаванне групы армій „Цэнтр" было вымушана адмовіцца ад першапачатковага намеру наступлення на гомельскім напрамку па прычыне недахопу боезапасаў. Спачатку наступленне было прызначана на 5 жніўня; потым дата была адсунута на два дні, а ў выніку канчатковай датай стала 12 жніўня 1941 г. Галоўнай задачай для 2-й арміі ў складзе пяці нямецкіх пяхотных карпусоў і асобнай групы генерал-лейтэнанта Ганса Белендорфа вызначалася наступленне на фронце паміж рэкамі Днепр і Сож, акружэнне савецкіх войск на захад ад р. Сож з прасоўваннем абодвух флангаў на Гомель і знішчэннем акружанай групоўкі ворага паміж рэкамі Днепр і Сож[90]. Канчаткова зняць

[87] *Schämatische Kriegsgliederung der Heeresgruppe Mitte, Stand 4.7.1941*, [у:] Там жа, s. 455.

[88] BA-MA, RH 26-53/4, Bl. 1. Anlage zum KTB Nr. 1 (Band 1 vom 23.4-31.7.41), Armeebefehle, Anlage zum KTB Nr. 1, Ia.

[89] BA-MA, RH 20-2/172b, Bl. 1-16. Bericht über die Schlacht von Rogatschew-Gomel, v. 13.9.41.

[90] Там жа, Bl. 3.

небяспеку для паўднёвага фланга групы армій „Цэнтр” удалося толькі ў выніку ліквідацыі асноўных сіл Чырвонай Арміі ў раёне Рагачова і Жлобіна, захопу Гомеля на працягу 19-20 жніўня 1941 г. і заняцця плацдарма цераз р. Сож. Такім чынам, баявыя задачы, пастаўленыя камандаваннем 2-й палявой арміі ў пачатку наступлення 12 жніўня, былі выкананы. Паводле нямецкага данясення, 21-я савецкая армія была ліквідавана ў раёне паміж Прапойскам, Рагачовам і Жлобінам. У ходзе праведзенай аперацыі толькі пад Гомелем у палон быў узяты 54 081 чырвонаармеец, а таксама 468 грамат, 106 танкаў, 362 кулямёты, 7 самалётаў і іншыя трафеі[91].

Між тым, нават з улікам панесеных страт, менавіта на Гомельшчыне Чырвоная Армія здабыла адзін з першых сваіх стратэгічных поспехаў. Галоўным вынікам бітвы было выключэнне сіл 2-й нямецкай палявой арміі і 2-й танкавай групы з баёў на маскоўскім напрамку. Замест таго, каб выкарыстоўваць 2-ю палявую армію для разгрому савецкіх войск пад Смаленскам, камандаванне вермахта было вымушана перавесці яе далёка ў тыл групы армій „Цэнтр”. Наступальныя і абарончыя аперацыі Чырвонай Арміі разбуралі яго планы на рубяжах па рэках Бярэзіна, Днепр і Сож. Чырвонаармейцы затрымлівалі нямецкія часці, наносілі ім значныя страты і разбуралі іх планы аб імклівым наступленні на маскоўскім напрамку. Нягледзячы на неспрыяльную абстаноўку, савецкім баявым часцям у выніку ўпартых і кровапралітных баёў удалося аказаць сур’ёзнае супраціўленне праціўніку, затрымаць рух войскаў на ўсход і прымусіць часова спыніцца і нават перайсці да абароны. Вынікі больш чым месячнай бітвы за Беларусь на Гомельшчыне паўплывалі на ўнясенне карэкціроўкі ў першапачатковыя планы немцаў ва ўсходняй аперацыі і нават да змены ўсёй стратэгіі плана „маланкавай вайны”. Лакальныя і абмежаваныя поспехі Заходняга і Цэнтральнага франтоў на Гомельшчыне сталі першымі крокамі на шляху да краху стратэгічнай аперацыі „Барбароса”.

Такім чынам, з улікам дакументальных крыніц, грунтоўна апрацаваных у новых працах расійскім гісторыкам Аляксеем Ісаевым для паказу баявых падзей у Беларусі летам 1941 г., у новай фундаментальнай працы прапануецца даволі абгрунтаваны навуковы падыход у дачыненні да ацэнкі вынікаў контрудару Чырвонай Арміі на Гомельшчыне ў 1941 г.

[91] Там жа, Bl. 14.

## 5. Лёс савецкіх ваеннапалонных у Беларусі летам 1941 г.

Нарэшце, горкая праўда гісторыі лета 1941 г. у Беларусі вымагала ад аўтараў новай працы абавязковага разгляду аднаго з самых дыскусійных сюжэтаў — лёсу палонных у Беларусі летам 1941 года савецкіх салдат і афіцэраў, якія ў новай працы падаюцца без канкрэтных лічбаў[92], у кантэксце г.зв. савецкага стэрэатыпу „безвозвратных потерь"[93]. У гістарыяграфіі савецкага часу месца для іх не знаходзілася па вядомых прычынах, але атрымліваецца так, што няма яго і на цяперашні час. Аўтары новага выдання проста ігнаруюць з'яву палону ў Беларусі. І гэта пасля таго, як ужо вытрымала два выданні праца вядомага расійскага даследчыка Паўла Паляна *Жертвы двух диктатур: Жизнь, труд, унижение и смерть советских военнопленных и остабрайтеров на чужбине и на родине*[94] (Москва 1996, 2002). На наш погляд, зварот да навуковага аналізу гэтага пытання асабліва важны ў дачыненні да Беларусі, дзе да канца лета 1941 г. у нямецкі палон трапілі 436 тыс. чырвонаармейцаў[95] (падлікі аўтара — С. Н.), або кожны другі воін Чырвонай Арміі з занесеных у лік беззваротных страт баявога складу Заходняга фронту. Акрамя таго, гэтая лічба ваеннапалонных складае больш за дзве трэці баявога складу і колькасці войскаў фронту на момант пачатку баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларусі летам 1941 г., дзе за гады вайны загінуў фактычна кожны трэці чырвонаармеец, які быў узяты ў палон войскамі групы армій „Цэнтр", і кожны пяты з усіх савецкіх ваеннапалонных[96].

Нягледзячы на вялікія страты, панесеныя Чырвонай Арміяй на першым этапе абарончых баёў у ходзе бітвы за Беларусь летам 1941 года, стрымаць націск германскага вермахта не ўдалося. Войскі Заходняга і Цэнтральнага франтоў, якія, паводле найноўшых даных расійскай гістарыяграфіі, па колькасці і ўзбраеннях не саступалі праціўніку, былі вымушаны адыходзіць на ўсход. Тым не менш, упартым супраціўленнем і вялізнымі людскімі стратамі ў прыгранічных і іншых раёнах

[92] *Великая Отечественная война 1941-1945 годов. В 12 т.*, т. 2, с. 743.

[93] Г. Ф. Кривошеев, В. М. Андроников, П. Д. Буриков, В. В. Гуркин, *Великая Отечественная война без грифа секретности. Книга потерь. Новейшее справочное издание*, Москва 2010, с. 78; *Приграничные сражения 1941 г.*, [у:] *Великая Отечественная война: энциклопедия*, Москва 2010, с. 472.

[94] П. М. Полян, *Жертвы двух диктатур: Жизнь, труд, унижение и смерть советских военнопленных и остарбайтеров на чужбине и на родине*, Москва 2002.

[95] С. Я. Новікаў, *Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў*, Смаленск 2015, с. 99.

[96] Ch. Gerlach, *Kalkulierte Morde. Die deutsche Wirtschafts- und Vernichtungspolitik in Weissrussland 1941 bis 1944*, Hamburg 2000, s. 791.

Беларусі войскі Заходняга фронту нанеслі значны ўрон галоўнай групоўцы вермахта — групе армій „Цэнтр”, што ўжо на тым этапе фактычна запаволіла тэмпы яе наступлення на Маскву. Яе вынік, план „бліцкрыгу” германскага вермахта пачаў зрывацца.

**Высновы**

Такім чынам, нягледзячы на публікацыю ў апошнія гады шэрагу дакументальных крыніц і з’яўленне арыгінальных змястоўных даследаванняў, параўнаўчы аналіз асноўных падзей з гісторыі баявых дзеянняў Чырвонай Арміі на беларускай тэрыторыі летам 1941 г., адлюстраваных у новым расійскім выданні, пераканаўча сведчыць аб тым, што расійскія аўтары не ставілі перад сабой задачы па грунтоўным навуковым вывучэнні той важнай старонкі ваеннай гісторыі Беларусі. Як ні дзіўна, але падобная задача застаецца актуальнай на цяперашні час не толькі для расійскай, але і беларускай гістарычнай навукі, ставячы ў парадак дня далейшае ўсебаковае вывучэнне тых падзей і пошук навукова абгрунтаваных адказаў на ўзніклыя прынцыповыя пытанні. З улікам гэтага неабходна: па-першае, акцэнтаваць увагу даследчыкаў на навуковай верыфікацыі фактаў пры вывучэнні баявых дзеянняў Чырвонай Арміі і германскага вермахта на тэрыторыі Беларусі летам 1941 г.; па-другое, павышаць прафесійную культуру даследчыкаў як вызначальнага фактару паспяховага развіцця гістарычнай навукі; па-трэцяе, праводзіць навуковую рэканструкцыю ваеннага мінулага ў кантэксце патрабаванняў цяперашняга часу і з улікам міжнароднай інтэграцыі гістарычнай навукі ў будучым. У пачатку XXI стагоддзя мы знаходзімся на новым этапе не толькі вывучэння і асэнсавання гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, але і яе далейшага праўдзівага захавання ў памяці сучаснага грамадства.

**Summary**

**Military operations in the territory of Belarus in the summer of 1941: historiographical myth and historical reality**

The article for the first time ever in Belarusian and foreign historiography, based on the method of comparative studies of sources, carries out an analysis of the military operations which took place in the territory of Belarus in the first two months of the Soviet-German war and involved the implementation of Hitler’s strategy to invade the USSR as well as the Soviet staunch defence of the western borders of Belarus. The author reconstructs battlefield engagement, focusing on new documented facts, both of Soviet and German origin. The new historical sources allowed the author to significantly deepen the knowledge of the initial period of the war and show from a more objective perspective that an important outcome of the Red Army’s military operations in the territory of Belarus was not only stopping the treacherous attack of Army Group Centre, but mainly forcing it for the first time onto the defensive in its central direction of attack on Moscow, which caused Hitler to issue directive no. 34 of 30 July 1941.

**Keywords:** German-Soviet war, Western Front, Central Front, German onslaught, defensive battle of Red Army, comparative studies of sources.

**Streszczenie**

**Działania bojowe na Białorusi latem 1941 roku: mity historiograficzne a historyczna rzeczywistość**

W artykule na podstawie metody komparatystyki historiograficznej po raz w pierwszy w historiografii białoruskiej i zagranicznej dokonano analizy dwustronnych działań bojowych, które miały miejsce na terytorium Białorusi w pierwszych dwóch miesiącach Wielkiej Wojny Ojczyźnianej. Autor rekonstruuje działania bojowe, skupiając się na badaniu nowych faktów dokumentalnych zarówno niemieckiego, jak i sowieckiego pochodzenia. Na podstawie nowej bazy źródłowej udało mu się w znacznym stopniu pogłębić wiedzę historyczną i zbliżyć się do obiektywnego zbadania początkowego okresu wojny, po raz pierwszy ukazać, że ważną konsekwencją działań Armii Czerwonej na terytorium Białorusi było nie tylko powstrzymanie zdradzieckiego uderzenia grupy armii „Środek", lecz zmuszenie jej do faktycznego przejścia do defensywy na centralnym kierunku natarcia na Moskwę, co było przyczyną wydania przez Adolfa Hitlera dyrektywy nr 34 z 30 lipca 1941 roku.

**Słowa kluczowe:** wojna niemiecko-sowiecka, Front Zachodni, Front Centralny, natarcie niemieckie, walki obronne Armii Czerwonej, komparatystyka źródłoznawcza.

**Siarhiej Nowikaŭ** — kandydat nauk historycznych, docent, kierownik Katedry Historii Kultury Światowej i Turystyki Państwowego Uniwersytetu Lingwistycznego w Mińsku. Autor trzech monografii i ponad 300 prac naukowych wydanych w Białorusi, Wielkiej Brytanii, Niemczech, Łotwie, Litwie, Polsce, Rosji i Ukrainie. Zainteresowania badawcze: historiografia niemiecka, źródłoznawstwo krajowe i zagraniczne, komparatystyka historiograficzna i źródłoznawcza. Organizator corocznej konferencji naukowej „Białoruś i Niemcy: historia i współczesność" i współredaktor tomów materiałów z konferencji pod takim samym tytułem (t. 1-14, Mińsk 2002-2016).

## Księgarnie prowadzące ciągłą sprzedaż publikacji BTH

*Białystok*
AKCENT, ul. Rynek Kościuszki 17

*Warszawa*
Główna Księgarnia Naukowa im. B. Prusa, ul. Krakowskie Przedmieście 7
LIBER, ul. Krakowskie Przedmieście 24
LIBER, ul. Dobra 56/66 (gmach Biblioteki Uniwersyteckiej)

*Poznań*
Poznańska Księgarnia Naukowa „Kapitałka", ul. Mielżyńskiego 27/29

*Mińsk (Białoruś)*
www.knihi.net; tel. 643 57 33; Кнігі поштай, 220 050 Мінск, п/с 333

## Publikacje Białoruskiego Towarzystwa Historycznego

„Białoruskie Zeszyty Historyczne = Беларускі Гістарычны Зборнік", nr 1-44, Białystok 1994-2016 — red. J. Kalina (nr 1-4), E. Mironowicz (nr 5-45); **nr 1, 2, 3, 13 — sprzedane**; **nr 4-12, 14-45 cena 20 zł + koszt wysyłki**

Wiesław Choruży, *Białoruski drugi obieg w Polsce 1981-1990*, red. E. Mironowicz, Białystok 1994, ss. 148, il. **sprzedana**

Irena Matus, *Wieś Strzelce-Dawidowicze w tradycji historycznej*, red. O. Łatyszonek, Białystok 1994, ss. 234, il. **sprzedana**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Dzieje Cerkwi w Bielsku Podlaskim*, red. A. Mironowicz, Białystok 1995, ss. 193, il. **sprzedana**

Oleg Łatyszonek, *Białoruskie formacje wojskowe 1917-1923*, Białystok 1995, ss.273, il. **cena 30 zł + koszt wysyłki**

*Białorusini i stosunki polsko-białoruskie na Białostocczyźnie 1944-1956*, tom I: sierpień 1944 — grudzień 1946, część 1: sierpień 1944 — grudzień 1945, opr. S. Iwaniuk, Białystok 1996, ss. 256, **cena 15 zł + koszt wysyłki**; część 2: styczeń — grudzień 1946, Białystok 1998, ss. 233, **cena 15 zł + koszt wysyłki**

Helena Głogowska, *Białoruś 1914-1929. Kultura pod presją polityki*, Białystok 1996, ss. 238, il. **sprzedana**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Orla na Podlasiu. Dzieje Cerkwi, miasta i okolic*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 1997, ss. 194, il. **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Teodozy Wasilewicz, archimandryta słucki, biskup białoruski*, Białystok 1997, ss. 71 **sprzedana**

*Księga cudów przed ikoną Matki Bożej w Starym Korninie dokonanych*, oprac. A. Mironowicz, Białystok 1997, ss. 201 **sprzedana**

*Pieršy zjezd biełarusaŭ svietu (8-10 lipienia 1993 h., h. Minsk). Materyjały i dakumienty,* układalnik H. Surmač, Minsk, 1997, ss. 335, il. **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Życie monastyczne na Podlasiu*, Białystok 1998, ss. 118 **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Metropolita Józef Nielubowicz Tukalski*, Białystok 1998, ss. 127 **sprzedana**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Parafia Ryboły*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 1999, ss. 210, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

Aniela Katkovič, Vieranika Katkovič-Klentak, *Uspaminy*, red. Ł. Hłahoŭskaja, V. Charužy, Biełastok 1999, ss. 142, il. **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Sylwester Kossow, biskup białoruski, metropolita kijowski*, Białystok 1999, ss. 144 **sprzedana**

„Naš Radavod. Kniha 8. Biełarusy i palaki: dyjałoh narodaŭ i kultur. X-XX st.", redaktary: D. Karaŭ, A. Łatyšonak, Hrodna — Biełastok 1999 (2000), ss. 628 **sprzedana**

Eugeniusz Mironowicz, *Polityka narodowościowa PRL*, red. O. Łatyszonek, Białystok 2000, ss. 285 **sprzedana**

Irena Matus, *W Puchłach, Stawku, Trześciance. Z dziejów oświaty ludu białoruskiego na Podlasiu*, red. D. Wysocka, Białystok 2000, ss. 176, il. **sprzedana**

Małgorzata Moroz, *"Krynica". Ideologia i przywódcy białoruskiego katolicyzmu*, red. E. Mironowicz, Białystok 2001, ss. 230 **cena 20 zł + koszt wysyłki**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Pasynki i okolice*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 2001, ss. 282, il. **sprzedana**

Marjan Pieciukievič, *Kara za słužbu narodu. Abrazki ssylnaha žyćcia*, Biełastok 2001, ss. 200, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

*Piotr Sierhijewicz 1900-1984. Ze zbiorów prywatnych*, Gdańsk — Sopot — Gdynia 2002, ss. 24, katalog wystawy. **sprzedana**

Jan Tarasiewicz/Jan Tarasievič, *Pieśń miłości. Utwory na fortepian pod redakcją Ihara Ałoŭnikava / Piesnia kachannia. Tvory dla fartepijana pad redakcyjaj Ihara Ałoŭnikava,* Minsk — Biełastok 2002, ss. 132 **cena 20 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Józef Bobrykowicz, biskup białoruski*, Białystok 2003, ss. 214 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Mikoła Škialonak, *Biełaruś i susiedzi*, Biełastok 2003, ss. 300 **sprzedana**

Aniela Kotkowicz, Weronika Kotkowicz-Klentak, *Od Budsławia do GUŁagu*, red. H. Głogowska, W. Choruży, Białystok 2003, ss. 140 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Sylwester Czetwertyński, biskup białoruski*, Białystok 2004, ss. 158 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Cina Kłykoŭskaja, *Sajuz Biełaruskaj Moładzi. Viartańnie z zabyćcia*, Biełastok 2004, ss. 228 **sprzedana**

Marjan Pieciukievič (Marian Pieciukiewicz), *Listy. Listy (1956-1982)*, Biełastok 2005, ss. 156, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Szczyty. Dzieje wsi i parafii*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 2005, ss. 434, **cena 30 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Kościół prawosławny w Polsce*, Białystok 2006, ss. 918 **sprzedana**

Viktor Stachwiuk, *Siva zozula*, Biłostuok 2006, ss. 196, il. **cena 15 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Serafion Połchowski, władyka białoruski*, Białystok 2007, ss. 166 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Piotr Chomik, *Kupiatycka Ikona Matki Boskiej. Historia i literatura*, Białystok 2008, ss. 128 **cena 15 zł + koszt wysyłki**

Anton Miranovič, *Pravasłaŭnaja Biełaruś*, Biełastok 2009, ss. 352 **sprzedana**

*Wizytacje cerkwi unickich dekanatu nowodworskiego diecezji supraskiej*, opr. P. Borowik i G. Ryżewski, Białystok 2009, ss. 184 **cena 15 zł + koszt wysyłki**

Jazep Najdziuk, *Paznavajma historyju biełaruskaha narodu*, Biełastok — Inaurocłaŭ 2010, ss. 316 **cena 25 zł + koszt wysyłki**.

Siarhiej Dubinski, *Bibliohrafija pa archieolohii Biełarusi i sumiežnych krain (spadčyna archieołaha)*, Biełastok 2010, ss. 338 **sprzedana**

*Urzędowe i gwarowe nazwy miejscowości Białostocczyzny*, opr. M. Kondratiuk, Białystok 2011, ss. 372 **cena 40 zł + koszt wysyłki**

Łarysa Geniusz, *Ptaki bez* gniazd, Białystok 2012, ss. 331 + audiobook: Łarysa Hienijuš, *Ptuški biaz hniozdaŭ* (w języku białoruskim), **cały nakład został rozdany**

Danuta Kuczyńska, *Łuka nad Narwią. Pamięć jest skarbem bezcennym*, Białystok 2013, ss. 72, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

Barbara Tomczuk, *Białoruskie Towarzystwo Historyczne. XX*, Białystok 2013, ss. 200; książkę można bezpłatnie otrzymać w siedzibie Białoruskiego Towarzystwa Historycznego w Białymstoku (ul. Proletariacka 11)

*Historia Białorusinów Podlasia,* red. S. Iwaniuk, Białystok 2016, **cena 50 zł + koszt wysyłki**

## Publikacje, których Białoruskie Towarzystwo Historyczne było współwydawcą

Krystyna Mazur, Doroteusz Fionik, *Bielsk Podlaski — miasto pogranicza*, Białystok 2003, ss. 144 **sprzedana**

Oleg Łatyszonek, *Od Rusinów Białych do Białorusinów*, Białystok 2006, ss. 388 **sprzedana**

Eugeniusz Mironowicz, *Białorusini i Ukraińcy w polityce obozu piłsudczykowskiego*, Białystok 2007, ss. 296 **sprzedana**

**Publikacje BTH można zamawiać drogą elektroniczną**
kamunikat@kamunikat.org **albo** bzh@neostrada.pl
**lub faksem:** + 48 (85) 744 61 11

## Падпіска на „Białoruskie Zeszyty Historyczne — Беларускі Гістарычны Зборнік”

кошт №№ 3 — 16
12 зл./ асобнік
№№ 17 —34
15 зл. асобнік
№ 35 і наступныя
20 зл. — паўгадавая падпіска (1 нумар)
40 зл. — гадавая падпіска (2 нумары)

Вышэйпададзеную суму, у якую ўлічаны ўжо кошт пасылкі, трэба пералічыць на рахунак Беларускага Гістарычнага Таварыства: Białoruskie Towarzystwo Historyczne, Bank Pekao S.A. Oddział w Białymstoku, ul. Rynek Kościuszki 7, 15-950 Białystok
70 1240 5211 1111 0000 4930 2882

## Адрас Беларускага Гістарычнага Таварыства

15-449 Białystok, ul. Proletariacka 11, Polska
tel.: (+48) 85 744 61 11; e-mail: bzh@neostrada.pl
**У Інтэрнэце пра выданьні Беларускага Гістарычнага Таварыства**
http://kamunikat.org/bzh.html
http://bzh.kamunikat.org